Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ

Літаратура
і мастацтва

ISSN 0024-4686

№20 (4615) 20 мая 2011 г.

## Захаваем спадчыну разам

Захаванне нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны — справа, пагадзіцеся, дзяржаўнага ўзроўню, але датычыць кожнага з нас.
У тым плане, што кожны павінен унесці свой уклад. Таму і праводзяцца розныя акцыі пад дэвізам "Захаваем нашу спадчыну", падчас якіх збіраюцца грошы на рэканструкцыю тых ці іншых аб'ектаў, аднаўленне гісторыка-культурных каштоўнасцей. Супрацоўнікі газеты "Літаратура і мастацтва" таксама не засталіся ўбаку і выступілі з грамадскай ініцыятывай пералічыць ганарар за публікацыі ў сённяшнім нумары на рэканструкцыю (кансервацыю) Навагрудскага замка — калыскі Вялікага Княства Літоўскага.
Далучайцеся!
Нагадаем нумар дабрачыннага рахунка: № 3642521000622 у ЦБП № 416 г. Навагрудка, філіял 413 ААТ "ААБ "Беларусбанк" г. Ліда, код банка 696, УНП 500031377, аддзел культуры Навагрудскага райвыканкама, з пазнакай "На рэстаўрацыю Навагрудскага замка".

## У нумары:



Расціслаў БЕНЗЯРУК

# Мудрасць і шчодрасць душы

**У кнізе "Сустрэчы"Аляксей Гардзіцкі ўспамінае пра наведванне ў Маскве старэйшай беларускай паэтэсы К. Буйло. Канстанцыя Антонаўна, прыгадваючы любімых пісьменнікаў, нечакана заявіла: "А Вітка? Такі маўклівы, а калі адкрыецца, то блісне, засвеціцца нечым глыбокім, мудрым".**

Сапраўды, калі б коратка трэба было ахарактарызаваць Васіля Вітку, дык я сказаў бы адно — Мудрэц. Ссівелыя, аж да белізны, валасы, разумны пагляд з-пад акуратных, інтэлігентных акуляраў і ўзважанае, трапнае кожнае слова. Такім я ведаў Цімоха Васільевіча ў жыцці, такім ён успамінаецца і сёння.

16 мая Васілю Вітку (Цімоху Васільевічу Крысько) споўнілася б 100 гадоў. Нарадзіўся ён у вёсцы Еўлічы на Случчыне. Аднойчы, выступаючы перад маладымі, Цімох Васільевіч з усмешкай прызнаўся, што ў юнацкія гады вельмі любіў аповесці Валянціна Катаева, але часта смяшыла прозвішча аўтара: Валянцін ката еў. Значна пазней, калі згадаў вёску Еўлічы, нечакана назва "разбілася" на два словы: "еў" і "лічы". Словам, еў ці не, а лічы, што еў. Нават жартоўны вершык склаўся:

*Рагаталі, як сычы,*
*Людзі слуцкай вёскі,*
*І пайшлі*
*Па зямлі*
*Дружна пагалоскі:*
*"Не маўчы,*
*А гавары:*
*Піў, лічы,*
*Ды еў, лічы!.."*
*... З той вясёлае пары*
*Вёску клічуць Еўлічы.*

Мне пашчасціла ведаць Цімоха Васільевіча, не раз і не два сустракацца з ім у Мінску і ў Брэсце, лічыць яго сваім настаўнікам. Бо непамерна многа зрабіў Вітка для майго станаўлення: адзін з першых паверыў, што з мяне можа выйсці дзіцячы пісьменнік, падтрымліваў, калі трэба было.

Цімох Васільевіч ахвотна дзяліўся сваім вопытам з маладымі. Расказваючы пра майстэрства дзіцячага пісьменніка, ён гаварыў:

— Калісьці малым купляелі адзенне навырост, бо за адзін год не зносіш. Для дзяцей і пісаць трэба гэтак жа добра, зразумела, як і для дарослых, але крыху з хітрынкаю. Тады і бацькі, можа, возьмуць што-небудзь для сябе…

Цімох Васільевіч паглядзеў, як мы засяроджана слухаем яго, паправіў акуляры і працягваў:

— Лірыкі праяўляюць сваё здольнасці ў маладым узросце, а дзіцячыя пісьменнікі — потым, як становяцца бацькамі. Гэта першая прыступка. Вышэйшая — калі становяцца прадзедамі. Я пакуль толькі дзед, а таму спадзяюся, што мая галоўная кніга яшчэ наперадзе. Другое — дзіцячы пісьменнік павінен мець багаты жыццёвы вопыт. Відаць, невыпадкова выхаванне малых спрадвеку давяралі бабулям і дзядулям. А казка, якую яны расказваюць сваім унукам, — гэта народная педагогіка, якая будзе служыць вечна.

Васіль Вітка любіў заставацца ў Каралішчавічах і браць удзел у абмеркаванні твораў маладых. Помню, як горача ён заступіўся за казкі Васіля Шырко пра дзеда Манюкіна, калі адзін з выступоўцаў папракнуў аўтара за тое, што ў казках шмат чарцей, ведзьмаў і рознай нечысці.

— А я таксама не баюся пісаць пра чарцей, — адразу ж парыраваў Вітка ды яшчэ прыгадаў вядомую казку Пушкіна і аповесці Гогаля.

З захапленнем ён слухаў творы Ганны Івановай, а пасля з замілаваннем гаварыў пра Ганніны вершы, пацешкі і лічылкі. Як пасля пра Вітку скажа наш куратар Мікола Гамолка:

— Гаварыў і свяціўся!

Затое быў прынцыповым да канца, калі адчуваў фальш. Варта было аднаму настаўніку прачытаць слабае апавяданне, а некаму падтрымаць, што, маўляў, задума ёсць, толькі мова падводзіць аўтара, як Вітка рашуча запратэставаў:

— Мова падводзіць?! Не можа быць добрым пісьменнікам той, хто не адчувае слова, хто не ведае мовы ў дасканаласці! А тут дзеці гавораць між сабою, як дзядзькі дарослыя, прымаюць пастановы. Чым жа яны будуць займацца, як вырастуць?..

Праз некалькі дзён, сустрэўшы мяне ў Мінску, Вітка прыгадае таго настаўніка і выкажацца вострa, бы вынясе прысуд:

— Гэты чалавек глухі да мовы. Не можа ён быць пісьменнікам!

Канец сакавіка 1972 года. Я ў час вясенніх школьных канікулаў знаходзіўся ў Брэсцкім абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Якраз праводзіўся Усесаюзны тыдзень літаратуры для дзяцей і юнацтва. Да нас завітала вялікая група дзіцячых пісьменнікаў з усяго Савецкага Саюза. Беларусь прадстаўляў Васіль Вітка. Вёў вечарыну Уладзімір Калеснік.

Выступалі цікава, чыталі свае творы. Вітка гаварыў пра вялікі абавязак настаўніка ў выхаванні новага пакалення, пра неабходнасць зазірнуць у душу дзіцяці, дайсці да яго сэрца.



— Ніхто гэтак, як малыя, — казаў Цімох Васільевіч, — не верыць у цудадзейную сілу слова. Паслухайце лічылку, якая пражыла стагоддзі і дайшла да нас:

*Ены бэны тыкі пакі*
*Орбы торбы енцы смакі*
*Евус дэвус кут натэвус —*
*Старой бабе за печ спаць!*

— Нічога, апроч апошняга радка, — гаварыў далей Вітка, — не зразумела. Мабыць, лічылка гэтак доўга і жыве, што ў ёй ёсць самае галоўнае для дзіцячай гульні — магія таямнічасці, магія слова.

У той час як выступаў Васіль Вітка, на двары бушавала навальніца. Раптам зусім побач грымнуў гром — можа, першы ў тым годзе. У інстытуце згасла святло.

— Вось бачыце, навараджыў! — засмяяўся Уладзімір Калеснік.

…Пятнаццаць гадоў ужо няма з намі Васіля Віткі. Як расказаў яго сын Вісарыён Крысько, раніцай 5 ліпеня 1996 года ён пацягнуўся, каб адчыніць фортку ля пісьмовага стала, і… упаў. Ён памёр стоячы.

Яшчэ пры жыцці імя Васіля Віткі было вядома не толькі ў нашай рэспубліцы. Яму было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР, а за кнігі "Беларуская калыханка", "Казкі" і "Чытанка-маляванка" ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР.

Сусветная слава прыйшла да Віткі з уручэннем яму Міжнароднага Ганаровага дыплома імя Х. К. Андэрсена. Імя беларускага казачніка было занесена ў ганаровы спіс літаратараў, якія пішуць для маленькіх жыхароў планеты. Адбылося гэта ў 1978 годзе.

Хацелася Цімоху Васільевічу пасля смерці легчы ў родную, еўліцкую зямлю, але быў пахаваны ў Мінску, ля жонкі. Ды ўсё-такі ён вярнуўся ў Еўлічы. На пачатку ўжо гэтага стагоддзя калгас, які насіў імя Чкалава, быў ператвораны ў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў "Агра-Вітка". Значыць, памятае родная зямля свайго слаўнага земляка! А 17 мая ў слуцкай дзіцячай бібліятэцы адкрыўся ўжо традыцыйныя Віткаўскія чытанні.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, у якім у якасці асновы для правядзення перамоў адобраны праект пагаднення паміж урадамі Беларусі і Азербайджана аб супрацоўніцтве ў барацьбе з крадзяжамі культурных каштоўнасцей і забеспячэнні іх вяртання. Міністр унутраных спраў нашай краіны Анатоль Куляшоў упаўнаважаны на правядзенне перамоў па праекце згоды і яго падпісанне.

На пасяджэнні Палаты Прадстаўнікоў былі адобраныя ў першым чытанні папраўкі ў Закон Беларусі аб кінематаграфіі. Асноўнай мэтай змяненняў і дапаўненняў з'яўляецца стымуляванне развіцця беларускай кінавідэавытворчасці, у тым ліку і за кошт прыцягнення ў гэтую сферу прыватнага капіталу. Заканадаўствам будзе прадугледжана шэраг эканамічных стымулаў для прыватных укладанняў у кінавідэавытворчасць.

Учора ў рамках Адзінага дня інфармавання міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка наведаў Брэсцкую вобласць. У Палескім дзяржаўным універсітэце ён сустрэўся з выкладчыкамі і студэнтамі. У той жа дзень міністр культуры пабываў у Іванаўскім раёне, дзе сустрэўся з жыхарамі раёна і работнікамі сферы культуры. Павел Латушка азнаёміўся з работай адзінай у Беларусі школы бондарства, наведаў былую сядзібу і карцінную галерэю Напалеона Орды ў вёсцы Варацэвічы, музей народнай творчасці ў аграгарадку Моталь.

Нацыянальны гістарычны музей Беларусі прэзентаваў адноўлены старадрук "Апостал" XVI стагоддзя. Прэзентацыя стала заключным этапам сумеснага праекта музея і Белзнешэканомбанка па рэстаўрацыі кнігі. Экзэмпляр "Апостала" быў набыты ў прыватнай асобы 10 гадоў таму. Фаліянт атрымаў другое жыццё дзякуючы працы рэстаўратараў Андрэя і Ірыны Крапіўка.

Рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў завяршае работу над васьмісерыйным фільмам "Немец", які выйдзе на экраны ўжо ў гэтым годзе. Прэзентацыя кінакарціны будзе прымеркавана да святкавання 850-годдзя нацыянальнай святыні, Крыжа Еўфрасінні Полацкай. Авантюрна-прыгодніцкі сюжэт фільма навеяны паданнямі пра знікненне артэфакта ў гады Другой сусветнай вайны.

Нясвіж прымае XVI фестываль "Музы Нясвіжа". У праграме свята — спектакль Мінскага абласнога драматычнага тэатра "Камедыя", навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская музыка ў кардынатах еўрапейскага мастацтва", мастацкія выстаўкі, канцэртныя праграмы.

Сярод фіналістаў IX Міжнароднага фестывалю паэзіі і культуры рускага замежжа "Пушкін у Брытаніі" названы маладыя беларускія літаратары Марыя Маліноўская і Алена Кананкова (псеўданім Ася Міхайлоўская). Фінал конкурсу адбудзецца ў Лондане ў чэрвені 2011 года.

Пушкінскі баль праходзіць сёння ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску. Ён прысвечаны 110-гадоваму юбілею Бабруйскай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна. Для ўдзельнікаў мерапрыемства падрыхтаваны тэатралізаванае відовішча, кірмаш народных рамёстваў, мастацкія выстаўкі, а таксама вытанчаны танцавальны фэст.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Конкурсы

# Прызнанне прафесіяналізму

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Генадзя Жынкова, БелТА

**Дата правядзення цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў VII Нацыянальнага тэлевізійнага конкурсу "Тэлевяршыня" пераносілася ажно два разы — у сувязі з сумнымі красавіцкімі падзеямі. Гэтак журналісты краіны выказалі сваю салідарнасць з усім беларускім народам, які перажываў трагедыю ў метро. І, між іншым, лішні раз даказалі сваю прафесійную годнасць.**

Журналістыку можна параўнаць з паляваннем. Бо галоўны і самы натуральны журналісцкі занятак — паляванне на факты. Менавіта гэтую акалічнасць адзначыла вядомы айчынны палітык Лідзія Ярмошына, уручаючы 17 мая на сцэне Вялікай залы Палаца Рэспублікі першую з вылучанай журы 21 узнагароды "Тэлевяршыні" — у намінацыі "Лепшая інфармацыйная праграма". "Навіны — гэта тое, дзеля чаго мы ў першую чаргу ўключаем тэлевізар, — сказала яна між іншым. — І ў залежнасці ад таго, як падаюцца журналістамі навіны ў гэтай краіне, альбо хочаш жыць, альбо баішся выйсці ў булачную". Пераможцам у гэтай намінацыі стаў калектыў праграмы "Навіны. 24 гадзіны" (СТБ). Гэты ж тэлеканал быў адзначаны ў намінацыі "Лепшая грамадска-палітычная праграма" за "Карціну свету". А таксама атрымаў перамогу ў намінацыі "Лепшы вядучы інфармацыйнай праграмы" — дзякуючы Юліі Радзьковай. Лепшы рэпарцёр аказаўся таксама ў СТБ — Вольга Макей.

Зрэшты, калі журналісты СТБ лепш за іншых у гэтым годзе паказалі сваё валоданне інфармацыйнымі жанрамі, лепшымі аналітыкамі былі прызнаны іх калегі з АНТ. Літаральна ўскалыхнула беларускую грамадскасць з'яўленне ваенна-гістарычнага праекта "Гарады-героі". І гэта не магло не быць адзначана кампетэнтным журы. Праект сабраў ажно тры ўзнагароды — за лепшы дакументальны фільм, за лепшую аператарскую работу (Канстанцін Рабкоў) і лепшае прадзюсарства (Аляксандр Рыдван). Але гэта яшчэ не ўсё. АНТ было адзначана за лепшы стыль і дызайн, за лепшую музычна-забаўляльную праграму ("Міс Беларусь-2010") і лепшага вядучага грамадска-палітычнай праграмы (Аляксей Міхальчанка "Як ёсць").

БТ атрымала прыз за лепшую культурна-асветніцкую праграму, стварыўшы праект "Эпоха. Знакаміты і невядомы Іван Хруцкі", і лепшае вядзенне музычна-забаўляльнай праграмы (Лейла Ісмаілава і Дзяніс Кур'ян). Лепшая спартыўная праграма ("Алімпійскі дзённік Ванкувера-2010") і лепшы спартыўны каментатар (Павел Баранаў) — таксама ў іх.



Тэлеканалу "ЛАД" дасталіся лаўры пераможцаў у намінацыях "Лепшая праграма для дзяцей і юнацтва" ("Калыханка") і "Лепшы рэжысёр" (Валянцін Гаравой).

Паводле слоў членаў журы, у гэтым годзе моцна праявілі сябе рэгіянальныя тэлежурналісты. Конкурс паміж імі быў асабліва напружаным. І ў выніку лепшай праграмай навін рэгіянальнага тэлебачання была прызнаная праграма Салігорскага тэлеканала. Гомельскі журналіст Аляксандр Гавейка стаў лепшым вядучым рэгіянальнага тэлебачання. А лепшым рэгіянальным тэлепраектам названа сацыяльная праграма Віцебскай тэлекампаніі "Скіф" "Дапаможам малышам з дзіцячага дома".

Спецпрыз журы быў уручаны протаіерэю Фёдару Поўнаму за яго праграму "Нядзельная пропаведзь" (АНТ). Прыз глядацкіх сімпатый ужо ў другі раз атрымаў Георгій Калдун.

Гран-пры ў гэтым годзе падзялілі БТ за "Міжнародны дзіцячы конкурс песні Еўрабачанне-2010" і АНТ за "Грамадска-культурную акцыю "Беларусь — гэта мы!"".

Ва ўручэнні дыпломаў і памятных статуэтак пераможцам бралі ўдзел міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі, міністр культуры Павел Латушка, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, галоўны рэдактар газеты "СБ. Беларусь сегодня" Павел Якубовіч, галоўны рэдактар газеты "Аргументы и факты в Белоруссии" Ігар Сакалоў, кампазітар Эдуард Ханок, вядомыя артысты, дзеячы спорту і культуры і, урэшце, самыя прыгожыя дзяўчаты Беларусі — пераможцы конкурсу "Міс Беларусь".

***На здымку:** міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі ўручае пераможцам Гран-пры "Тэлевяршыні".*

## Да ведама

# Прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

**Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прысудзіў прэміі 2011 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці з наданнем звання лаўрэата, уручэннем Ганаровага знака, дыплома і грашовай узнагароды:**

I. За творы прозы, паэзіі і драматургіі (адна прэмія):

за кнігу "Снукер", апублікаваную ў 2009 годзе, **Ткачову Васілю Юр'евічу**, пісьменніку.

II. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць (адна прэмія):

за песні апошніх гадоў на вершы беларускіх паэтаў (2007—2010 гг.) **Елісеенкаву Алегу Мікалаевічу**, кампазітару, дацэнту ўстановы адукацыі "Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў".

III. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва (адна прэмія):

за стварэнне спектакля "Каласы пад сярпом тваім" паводле рамана У. Караткевіча ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (2008 г.) **Анісенку Валерыю Данілавічу** (рэжысёру-пастаноўшчыку), **Шусце Марыне Аляксандраўне** (мастаку-пастаноўшчыку), **Сігаву Ігару Аляксеевічу** (артысту-выканаўцу галоўнай ролі) і **Сідаркевіч Людміле Аляксандраўне** (артыстцы-выканаўцы галоўнай ролі).

IV. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва (адна прэмія):

за стварэнне серыі пейзажаў "Зямля беларуская" (2007—2009 гг.) **Дамараду Сямёну Уладзіміравічу**, мастаку-жывапісцу, мастаку мастацкага ўнітарнага прадпрыемства "Мастацкі камбінат".

V. За актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных (адна прэмія):

дырэктару культурна-забаўляльнага рэспубліканскага даччынага ўнітарнага прадпрыемства "Культсэрвіс" Мінскага трактарнага завода **Кіруту Уладзіміру Іванавічу**.

VI. За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці (адна прэмія):

**народнаму хору ветэранаў працы "Славянскі сувенір"** Рэспубліканскага Палаца культуры ветэранаў, г. Мінск (хормайстар — Кузьміна Вольга Пятроўна).

VII. У галіне журналістыкі (дзве прэміі):

за распрацоўку канцэпцыі і падрыхтоўку матэрыялаў рубрыкі "Вяртанне імёнаў" і матэрыялы, прысвечаныя 65-годдзю Вялікай Перамогі, апублікаваныя ў газеце "Культура" ў 2010 годзе, **Крэпаку Барысу Аляксеевічу**, рэдактару аддзела газеты "Культура"; за цыкл праграм "Сацыяльнае партнёрства" на радыёстанцыі "Беларусь" (2008—2010 гг.) **Міцюшнікаву Рыгору Мікалаевічу**, загадчыку аддзела інфармацыйных і грамадска-палітычных праграм галоўнай дырэкцыі вяшчання на замежныя краіны Беларускага радыё (радыёстанцыя "Беларусь") Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.

Грашовая ўзнагарода лаўрэатам індывідуальных прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года ўстаноўлена ў памеры 2 600 000 рублёў кожнаму, калектыўнай прэміі за работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва аўтарскаму калектыву (В. Анісенка, М. Шуста, І. Сігаў, Л. Сідаркевіч) — у памеры 1 400 000 рублёў кожнаму, а калектыўнай прэміі за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці — у памеры 5 600 000 рублёў.

### Увага: прамая лінія!

**24 мая з 10 да 11 гадзін міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка праводзіць прамую лінію з чытачамі "ЛіМа".**

Праблемнае поле — стан і перспектывы развіцця айчыннай сферы культуры, умацаванне матэрыяльнай базы, падрыхтоўка кадраў, ахова гісторыка-культурнай спадчыны, маральна-эстэтычнае выхаванне, дзейнасць бібліятэк, музеяў, тэатраў — усіх устаноў культуры краіны. Калі ў вас ёсць пытанні, званіце падчас "прамой лініі" па тэлефоне **284-66-73**. Вы можаце таксама даслаць папярэдне лісты па электроннай пошце: lim_new@mail.ru альбо пакінуць сваё пытанне для міністра рэдактарам штотыднёвіка. Пачынаючы з гэтага дня мы папярэдне прымаем пытанні па тэлефоне **284-66-71**.

### Запрашаем!

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Саюз пісьменнікаў Беларусі запрашаюць 23 мая 2011 года ў Дом літаратара па адрасе г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5, дзе адбудзецца прэзентацыя галерэі партрэтаў славутых беларускіх асветнікаў і пісьменнікаў, а таксама адкрыццё выстаўкі партрэтаў вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва фотамастака Яўгена Коктыша.

***Пачатак а 15-й гадзіне***

У гэты ж дзень у Доме літаратара пройдзе творчы вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка Васіля Віткі.

Пачатак а 16-й гадзіне

Літабсягі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

# Настаўнік двух пакаленняў

**Мікола Ермаловіч значыцца ў айчынных даведніках як заснавальнік сучаснай беларускай рамантычнай гістарыяграфіі. Тэрмін, безумоўна, штучны. Пры чым тут рамантыка? Мікола Іванавіч быў рэалістам і ў даследаваннях сваіх, і ў жыцці. Ён практычна не выкарыстоўваў паданні і легенды ў сваіх манаграфіях пра мінулае Беларусі, прынцыпова абапіраючыся на такія агульнапрызнаныя першакрыніцы, як летапісы і хронікі.**



Гэтай вясной Міколу Ермаловічу магло б споўніцца 90 гадоў, каб у тым не такім ужо і далёкім 2000 годзе старога настаўніка, інваліда па зроку, не збіў нядбайны вадзіцель аўто. Даследчык якраз вяртаўся дамоў з бібліятэкі, куды, нягледзячы ні на што, упарта хадзіў без праваднікоў і дзе падоўгу працаваў з вялікай лупай у руках. Цяжка пераацаніць тое, што зрабіў дзеля самасвядомасці пакаленняў пяцідзесяцігадовых і саракагадовых беларусаў гэты сціплы, зусім не публічны чалавек, спачатку — вясковы, а пасля правінцыйны настаўнік. Бо, даказаўшы тое, што Беларусь ад самых стaрадаўніх часоў мела ўласную дзяржаўнасць, багатую на падзеі і асобы гісторыю і самабытную культуру, Ермаловіч навучыў сучаснікаў любіць і шанаваць свой народ.

Удзячныя нашчадкі працягваюць сёння справу, распачатую настаўнікам. І ўсяляк шануюць яго памяць. Памяці Міколы Іванавіча была прысвечана і вечарына "Апантаны гісторыяй...", якая днямі прайшла ў краязнаўчай зале Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна.

Мерапрыемства пачалося з прэзентацыі, якую зрабілі студэнткі 536-й групы факультэта інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Алена Мароз і Надзея Крупская. Дзяўчаты вельмі цікава распавялі пра жыццёвы і творчы шлях Ермаловіча. Узяў слова вядомы беларускі літаратар Мікола Багадзяж. Ён расказаў пра свае сустрэчы з Ермаловічам, чалавекам, які ў размовах літаральна заражаў субяседнікаў сваёй апантанасцю да навукі. Своеасаблівым сюрпрызам для прыхільнікаў творчасці Настаўніка стала песня на словы Міколы Іванавіча — "Жыве Беларусь", напісаная Таццянай Беланогай. І канечне, ніхто з гасцей у гэты дзень не абмінуў кніжнага стэлажа, на якім супрацоўнікі бібліятэкі прадставілі працу Ермаловіча. Выстаўка гэтая не была такой ужо вялікай, бо Настаўнік пры жыцці сваім выдаў усяго некалькі кніг. Але гэта былі надзвычай важныя кнігі — падручнікі беларускага патрыятызму.

***На здымку: бібліятэкар Дзмітрый Скубілаў прадстаўляе выстаўку кніг Міколы Ермаловіча.***

Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# У Чачэрску — музыка!

**Тыдзень таму на Гомельшчыне прайшло V свята беларускай музыкі "Чачэрскія сустрэчы".**



У чарадзе музычна-асветніцкіх праектаў, якія ладзіць у невялікіх гарадах і мястэчках нашай краіны Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга, "Чачэрскія сустрэчы" з'явіліся адносна нядаўна. Але гэтае свята, якое арганізуецца пры падтрымцы Гомельскага аблвыканкама, Чачэрскага райвыканкама і Міністэрства культуры Беларусі з мэтай прапаганды лепшых дасягненняў айчыннага мастацтва, ужо ўспрымаецца тамтэйшымі жыхарамі як свая адметная традыцыя.

"Чачэрскія сустрэчы", якія праводзяцца на зямлі, пацярпелай ад чарнобыльскай катастрофы, гэтым разам набылі асаблівую актуальнасць і глыбіннае значэнне, бо сёлета споўнілася 25 гадоў з дня трагедыі на ЧАЭС. На думку Міхаіла Фінберга, жыхары раёна, пацярпелага ад наступстваў катастрофы, як ніхто іншы маюць патрэбу ў насычаным разнастайнымі музычнымі падзеямі мастацкім свяце.

Паводле традыцыі, падчас гэтай культурнай акцыі мясцовы люд зноў атрымаў магчымасць сустрэцца з грамадскім актывам горада, з прадстаўнікамі кіраўніцтва вобласці. Іх надзённую гутарку атуляла аўра мастацтва. Выстаўкі народных майстроў, дэкаратыўна-прыкладной творчасці юных умельцаў, выступленні артыстаў-аматараў, разнажанравыя музычныя праграмы калектываў, што працуюць у структуры Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра, — усё гэта таксама ў традыцыях асветніцкага свята.

Чачэрскія імпрэзы яднаюць розныя музычныя плыні, розныя эпохі, прадстаўляюць беларускую музычную культуру ва ўсёй яе шматфарбнасці. Сёлета як цэнтральная падзея вызначыўся новы праект "Выбітныя постаці беларускага нацыянальнага мастацтва. Кампазітар Дзмітрый Лукас". А своеасаблівым дыялогам паміж музыкантамі і слухачамі сталася "Размова пра беларускае музычнае мастацтва" — гэты папулярызатарскі і ў пэўным сэнсе адукацыйны канцэрт-сустрэчу правяла навуковы кіраўнік фестывальных праграм аркестра, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вольга Дадзіёмава.

Феерверкам лепшых эстрадных мелодый у выкананні заслужанага калектыву і яго салістаў — песенным гала-канцэртам пад кіраўніцтвам народнага артыста і лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы, прафесара Міхаіла Фінберга завяршыліся "Чачэрскія сустрэчы-2011".

***На здымку: музыканты Камернага аркестра.***

Повязі

# Калі словам сваім даражыў...

Кастусь ЛЕШНІЦА

**У Мінску пабачыла свет кніга казахскага паэта Абая на беларускай мове.**



У беларускіх пісьменнікаў склаліся добрыя сувязі з казахстанскімі калегамі. У мінулыя гады ў гасцях у Беларусі пабывалі паэты Любоў Шашкова, Валерый Міхайлаў, якія жывуць і працуюць у Алматы, літаратуразнаўца Святлана Ананьева, якая даследуе казахска-беларускія літаратурныя сувязі. А лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі шмат сіл і намаганняў скіраваў на тое, каб пераўвасобіць на мову Купалы і Коласа вершы легендарнага Абая (1845—1905).

"Калі бедным даваў за другіх, / Калі думкай у высях кружыў, / Калі словам сваім даражыў, / Калі смерць не прыйсці не маліў, — / Значыць ты чалавекам пражыў", — гаворыць класік казахскай літаратуры, звяртаючыся да народа Беларусі. 90 твораў аб'яднаныя ў кнігу выбраных вершаў Абая "Стэпавы прастор", якая толькі што пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Зборнік адкрываецца ўступным словам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Анатоля Смірнова, які, у прыватнасці, заўважае: "І сягоння, дарагі беларускі чытач, у цябе паявілася магчымасць пазнаёміцца з выбранымі вершамі Абая на роднай беларускай мове. Нашы народы на гістарычным шляху развіцця яднае і родніць трывучая мужнасць выжывання, мара пра лепшую будучыню і ўсталяванне будучыні як явы — усё тое, што робіць народ годным, духоўна адметным, пачутым у цэлым свеце. Упэўнены, што і сэрцу беларуса будуць жаданымі і зразумелымі хваляванні і мары вялікага казахскага паэта пра лепшую долю сваіх суайчыннікаў, яго не столькі тужлівая, як душэўна прасветленая песня".

Абай пры жыцці не ўбачыў сваёй друкаванай кнігі. І ўсё ж для ўсіх казахаў, для ўсяго Свету ён быў і ёсць Абай — сапраўдны геній не толькі ў валоданні мастацкім словам, але геніяльны празорлівец, заклапочаны лёсам Казахстана і казахаў. Фінансавую падтрымку ў выданні кнігі "Стэпавы прастор" ажыццявіла пасольства Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь. Будзем спадзявацца, што ў творчага і выдавецкага праекта будзе працяг.

З-пад пяра

У Гродне прайшло пасяджэнне пастаяннага семінара пры Парламенцкім Сходзе па пытаннях будаўніцтва Саюзнай дзяржавы. Яго тэма — "Бяспека інфармацыйнай прасторы Саюзнай дзяржавы". Саюзныя парламентарыі ўзялі ўдзел у навукова-практычнай канферэнцыі "Комплексная абарона інфармацыі", з дакладам на якой выступіў намеснік начальніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце Беларусі — начальнік упраўлення абароны інфармацыі Сяргей Капарыха, а таксама ў "круглым стале" на тэму "Бяспечны Інтэрнэт". Напрыканцы семінара прайшло пасяджэнне камісій Парламенцкага Сходу па інфармацыйнай палітыцы і па бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

У рамках акцыі "Чытаем па-беларуску" ў мінскай Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага быў праведзены "круглы стол" на тэму "Праблемы чытання беларускай літаратуры. Папулярызацыя твораў айчынных аўтараў". Што перашкаджае людзям чытаць па-беларуску? І якое існуе выйсце з сітуацыі? На гэтыя і іншыя пытанні спрабавалі знайсці адказ усе прысутныя: супрацоўнікі бібліятэк, прадстаўнікі РВУ "Літаратура і Мастацтва", часопісаў "Вясёлка" і "Бярозка", "Бібліятэка прапануе", а таксама супрацоўнікі Музея гісторыі беларускай літаратуры. Не абышоўся "круглы стол" і без абмену вопытам. Прадстаўнікі розных бібліятэк г. Мінска, а таксама г. Барысава, знайшлі што расказаць пра сябе, свае планы і праекты.

**Юлія БАСАЛАЙ**

"Адчуйце Афрыку з намі!" — заклікалі мінчан ганскі мастак Кобін Ньярка і беларуска Вераніка Гарбылёва, якія выставілі свае работы ў мастацкай галерэі "ЛаСандр-Арт". І мы адчулі яе, з захапленнем разглядаючы фірмовыя карціны Ньяркі, уся прастора якіх была запоўнена вясёлымі карагодамі рыбак. Гэтыя карціны прынеслі мастаку прызнанне не толькі на радзіме, але і ў Англіі, Германіі, ЗША. Мы адчулі Афрыку намаганнямі Веранікі, аўтаркі ўнікальных інтэр'ерных караляў з традыцыйных афрыканскіх матэрыялаў. Гэтыя работы нібыта выпраменьваюць цяпло шчодрага афрыканскага сонца. Дзякуй вам, мастакі, за радасць!

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандра Аляксеевіча НОВІКА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі смуткуе ў сувязі са смерцю таленавітага паэта, даўняга сябра аддзялення НОВІКА Аляксандра Аляксеевіча і выказвае спачуванне яго сям'і і ўсім прыхільнікам ягонай творчасці.

Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю члена Саюза пісьменнікаў НОВІКА Аляксандра Аляксеевіча і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае словы спачування і падтрымкі родным і блізкім з нагоды смерці нястомнага захавальніка спадчыны Песняра, пляменніцы Янкі Купалы Ядвігі Юльянаўны РАМАНОЎСКАЙ. Галоўны захавальнік фондаў, яна на працягу 26 гадоў збірала купалаўскую спадчыну. Дзякуючы намаганням Ядвігі Юльянаўны ўсталяваны мемарыяльныя дошкі, увекавечаны мясціны, звязаныя з жыццём і творчай дзейнасцю Паэта. Падзяляем увесь цяжар бязмернай і незаменнай страты.

# Славяне маюць чып упартасці

Кастусь ЛЕШНІЦА,
фота Кастуся Дробава

**Чарнагорскі пісьменнік Слабадан Вуканавіч — часты госць у Беларусі. Ён ужо некалькі гадоў запар удзельнічае ў міжнародных “круглых сталах” “Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго”, што арганізоўваюць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і РВУ “Літаратура і Мастацтва” ў час святкавання Дня беларускага пісьменства.**

**— Слабадан, раскажыце, калі ласка, крыху пра сучасную літаратурную сітуацыю ў Чарнагорыі. Як яна складваецца пасля распаду Югаславіі? Ці ёсць Саюз пісьменнікаў? Колькіх паэтаў, празаікаў, драматургаў ён аб’ядноўвае?**

— Да распаду Югаславіі ў асацыяцыі пісьменнікаў Чарнагорыі было каля 500 чалавек. Калі браць у разлік невялікую колькасць насельніцтва ў нашым краі, то гэта, відавочна, добры паказчык. Чарнагорыя заўжды была вядомая як краіна мастакоў і пісьменнікаў. Праўда, літаратары адпраўляліся ў Белград, і там у сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя сярэдняе пакаленне пісьменнікаў, лепшых пісьменнікаў Югаславіі ў большасці складалася з чарнагорцаў. З распадам Югаславіі распалася і Асацыяцыя пісьменнікаў Чарнагорыі, з яе сфарміравалася дзве арганізацыі. Тых, хто за цэласнасць Югаславіі, і тых, каму па душы суверэнітэт Чарнагорыі.

**— Ці выходзяць у вашай краіне літаратурна-мастацкія часопісы? Якімі тыражамі? Хто з’яўляецца іх асноўным чытачом?**

— Цяпер рэгулярна выходзяць толькі тры часопісы, а раней было сем. На пачатку гэтага года з’явіўся часопіс “Quest”, які мае міжнародны характар. У гэтым выданні прадстаўляецца нацыянальная культура ў свеце і іншыя культуры, літаратуры ў Чарнагорыі. Друкуецца шмат перакладаў. Рэдакцыйная рада складаецца з пісьменнікаў з Люксембурга, Ірландыі, Беларусі, Польшчы, Сербіі і Чарнагорыі. Спадзяюся, што колькасць замежных аўтараў будзе з года ў год у нас шырыцца. Часопісы раней у нас выходзілі накладам не меней як тысяча асобнікаў. Цяпер у асноўным — 500 экземпляраў. Тыражы дзіцячых часопісаў — ад 5 да 14 тысяч экземпляраў.

**— Ці нашмат у параўнанні з часамі Югаславіі скараціліся тыражы кніг пісьменнікаў Чарнагорыі?**

— І тыражы кніг істотна зменшыліся. У асноўным — 500 экземпляраў. Некалькі гадоў таму кніга вядомага сербскага пісьменніка Міларада Павіча выйшла накладам у 500 асобнікаў. Гэта несумненна сведчыць пра крызіс чытача і чытання. Чарнагорыя — маленькі кніжны рынак. Хаця на чарнагорскай мове можна чытаць і ў Сербіі, Харватыі, Босніі і Герцагавіне.

**— А тыражы паэтычных зборнікаў?**

— І яны роўныя 500 экземплярам. Радзей — 1000.

**— Ці шмат у краіне выдаецца перакладной літаратуры?**

— На вялікі жаль, вельмі мала. Больш перакладная літаратура прысутнічае ў часопісах, асабліва — у апошнія гады. Дарэчы, існуе зацікаўленасць не толькі рускай і амерыканскай літаратурамі, але і польскай і беларускай.

**— На якіх мовах пішуць і выдаюцца пісьменнікі Чарнагорыі?**

— У асноўным на чарнагорскай, сербскай, баснійскай і харвацкай. Албанцы пішуць на албанскай мове.

— Наколькі трывалыя літаратурныя сувязі з астатнім светам? Ці падтрымліваеце вы стасункі з пісьменнікамі іншых краін былой Югаславіі?



— Чарнагорцы нядаўна нарэшце ўзнавілі супрацоўніцтва з усімі былымі рэспублікамі. Я раней болей друкаваўся за мяжой, чым у Чарнагорыі. Міністэрства культуры нашай краіны прадэкларавала ўзнаўленне новых адносін з усім светам. Як яно атрымаецца, яшчэ паглядзім.

**— Хто з сучасных пісьменнікаў заваяваў найбольшую ўвагу чытачоў Чарнагорыі?**

— Самая шырокая ўвага чытачоў — да твораў маладога празаіка Огнена Спахіча. У яго дзве ўзнагароды — адна з Босніі, другая з Румыніі. Фарміруецца маладое, новае пакаленне. Пажылыя пісьменнікі, з сацыялістычнага перыяду, абцяжараны сацрэалістычнай літаратурай. Маладыя ў большасці сваёй ведаюць замежныя мовы, карыстаюцца Інтэрнэтам, прысутнічаюць ужо ў новай — камп’ютарнай — эры, якая шмат што прыўносіць у літаратурны працэс. Шкада, праўда, што моладзь болей чытае замежных пісьменнікаў, чым творы нацыянальнай літаратуры. Хіба ж не культура — аснова нацыі?! Нацыянальнае ўсё ж павінна зберагацца, ушаноўвацца. Як, прыкладам, робіцца ў вас у Беларусі. Адзін праект Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску бачыцца мне звышпадзеяй сённяшняга часу, гэткай Вавілонскай бібліятэкай.

**— Якія адносіны складваюцца ў чарнагорскай літаратуры з кіно, тэатрам, іншымі відамі мастацтва?**

— На жаль, супрацоўніцтва, мякка кажучы, дрэннае. Гэта бачыцца мне не проста недахопам, але і своеасаблівым папярэджаннем. Шкада, што на гэтую сітуацыю ніхто пакуль адпаведным чынам не рэагуе.

**— Слабадан, вы — часты госць у Беларусі. Ці параўноўваеце літаратурную сітуацыю ў Беларусі і Чарнагорыі?**

— Я часта прыязджаю ў Беларусь, і, відаць, ніхто ў Чарнагорыі не ведае беларускую літаратуру лепей за мяне. Са старадаўняга чытаў Францыска Скарыну, Сімяона Полацкага, Паўлюка Багрыма, Вінцэнта Каратынскага, Францішка Багушэвіча. Чытаў і чытаю Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Алеся Разанава, Анатоля Сыса, Алеся Бадака, Віктара Шніпа, Міколу Мятліцкага... Літаратурныя сітуацыі, калі браць пэўны гістарычны аспект, у нашых краінах у асноўным падобныя. Хаця сучасная Беларусь надае культуры нашмат больш увагі, чым Чарнагорыя сёння.

А між тым, калі ў нас ішла вызваленчая барацьба, ужо ў 1494 г. Чарнагорыя мела друкаваную кнігу. Дзіўна, што цяпер мы так мала апякуемся пра прысутнасць культуры ўвогуле ў свеце. Здараецца, што чарнагорцы праслаўляюць іншыя краіны і тым самым нагадваюць пра нашу нацыю. Веру, што ў Чарнагорыі ўсё ж павернуцца да сваіх каранёў, да саміх сябе.

*Нарадзіўся Слабадан у 1944 годзе. Жыве ў Падгорыцы. Прафесійна займаецца літаратурай, выдаў паэтычныя зборнікі “Зорныя пёры”, “Здымкі касеты касмічнага карабля”, “Касмічнае перасяленне Мантэнэгра”, “Куды нам далей”, “Лодка — лыжка”, “Крылатыя караблі нясуць златавустага Іераманаха”, “Ты мне не паверыш, Амалія стала ветраком”, кнігі прозы “Пяць лібрэта для балета”, раман “Ключ-Маятнік”. Выдаў сем кніг для дзяцей. Драмы Вуканавіча ставяцца ў тэатры і на радыё. Творы пісьменніка прадстаўлены болей як у 30 анталогіях, калектыўных зборніках. Яго вершы і “гульняказы” ўключаны ў падручнікі для васьмігадовай (дзевяцігадовай) школы “Як гэта можна” і “Цуды чытання”. Творы Слабадана перакладзены на англійскую, рускую, французскую, беларускую, італьянскую, арабскую, польскую, венгерскую, румынскую, славенскую, македонскую, турэцкую, балгарскую і албанскую мовы.*

**— Каго вы асабіста перакладаеце з беларускіх пісьменнікаў?**

— У часопісе “Арс” выйшла падборка з твораў 10 беларускіх паэтаў. Друкуюцца беларускія аўтары ў чарнагорскай “Настаўніцкай газеце” і “Славянскім весніку”. Гэта ўжо ў перакладах вашага суайчынніка Івана Чароты. З маёй прапановы пісьменнік і перакладчык Душан Джурышыч пераклаў у часопісе “Новыя сустрэчы”, а таксама для “Quest” вершы Алеся Бадака і Міколы Мятліцкага. Сёння мы рыхтуем разам з Іванам Чаротам таксама для “Quest” пераклады вершаў Віктара Шніпа, якога я лічу адным з самых цікавых паэтаў Беларусі.

**— Да чаго ў асноўным тэматычна прывязана сучасная чарнагорская літаратура? Раскажыце хаця б пра асноўныя тэмы сучаснай прозы...**

— Пакуль старэйшае пакаленне пісала пра вайну і рэвалюцыю, маладыя апрацоўвалі новыя тэмы: вынаходлівасць у жыцці, клопаты пра тое, як увогуле выжыць у складаным свеце, пошукі ўласнага “я”, лёс новага пакалення, беспрацоўе... Моладзь адчувае сябе страчаным пакаленнем. Пра гэта і піша. Заўважу з гісторыі літаратуры, што якраз страчанае пакаленне і стварала ў розных абставінах найбольш запамінальныя, яркія творы. Бо ў страчанага пакалення абвостранае жаданне вызначыць свой час, абазначыць сістэму каардынат, у якіх даводзіцца жыць.

**— Часта спрачаюцца на тэму, наколькі літаратура павінна адлюстроўваць рэальнасць, навакольную рэчаіснасць... А вы асабіста што думаеце з гэтай нагоды?**

— У мяне складваецца ўражанне, што нам, тым, хто пакаштаваў сацыялістычны лад жыцця, цяжка ўбачыць, разгледзець новы час, нават складана разабрацца ў ім. Пра гэта я гаварыў на пісьменніцкіх сустрэчах, “круглых сталах”, канферэнцыях у Мінску, Гомелі, Смаргоні. Мы, чарнагорскія пісьменнікі, не павінны пісаць тое ж, што пішуць у Расіі, Амерыцы, Францыі, Беларусі... Я пішу па-свойму, іншыя — так, як яны лічаць магчымым, як падказвае нацыянальны код. Багацце і развіццё ў тым, што мы ўсе розныя, не падобныя адзін да аднаго. Сумна штодня есці адны і тыя ж прысмакі, якімі б салодкімі яны не былі. Калі я гавару пра верхавенства электроннай кнігі, то не таму, што я станаўлюся выключна на пазіцыі яе развіцця. Я канстатую час, характар яго развіцця. Электронная кніга не зважае на маю і вашу волю. Некаторыя, праўда, пасля заўважылі, што я захапляюся электроннай кнігай, але гэта не так. Я проста прызнаю рэальнасць. Ніхто не здольны спыніць кола цывілізацыі. У мяне складваецца ўражанне, што ў нас, славян, ёсць асаблівы чып упартасці. А мо гэта чып большай ступені чуласці нашай душы? Мы не можам мірыцца з многімі фактамі, з некаторымі, здавалася б, ісцінамі. Чалавек — гэта кола, якое выпрацоўвае святло, выпрацоўвае і цемру, стварае радасць, боль, смутак. Чалавек сам усё прыдумвае і сам стварае...

**— Нядаўна ў РВУ “Літаратура і Мастацтва” мы выпусцілі кнігу Халіля Джэбрана “Прарок”, якую пераклаў на рускую мову выдатны майстра слова Юрый Міхайлавіч Сапажкоў. Адтуль, з легендарнай паэмы арабскага мысляра, і наступныя радкі:**

***Народ Орфалеса, подумай: красота есть жизнь сама, когда она снимает покров с лица святого своего. Однако жизнь есть вы, и вы — покров. Еще сказал бы: красота есть вечность, что неотрывно в зеркало глядится. Но вечность — вы, и зеркало — вы тоже.***

**Як бы вы іх пракаментыравалі?**

— Варта задумацца над гэтымі вершамі. Мы з’яўляемся часткай люстэрка; калі ў ім знаходзім прыгажосць, жыццё, вечнасць, то атрымліваецца, што мы знайшлі сэнс. Усё залежыць ад нас. І маладосць, і прыгажосць, і старасць, і сталасць — усё гэта складнікі нашага ўнутранага развіцця. Вялікі чарнагорскі паэт Пётр Петравіч Негаш гаварыў: “Стакан жоўці шукае стакан мёду, змяшанае лягчэй за ўсё піць”. Значыць, і творчасць — з мёду і горкасці, з радасці і суму. Хіба гэта не падобна да славянскай медавіны, медавухі?

## Калейдаскоп

# Чытаем разам

XV Міжнародная спецыялізаваная выстаўка “СМІ ў Беларусі” выдалася цікавай не толькі для дарослых, дзецям таксама было што паглядзець. Тут былі прадстаўлены часопісы і газеты для дзяцей і падлеткаў: “Бярозка” “Вясёлка”, “Раніца”, “Знамя юности”, “Переходный возраст”. “Вясёлка”, якая атрымала ў гэтым годзе “Залатую літару” як лепшае дзіцяча-юнацкае выданне, разам з “Бярозкай” прэзентавалі сумесную акцыю “Чытаем разам”.

Намеснік галоўнага рэдактара “Вясёлкі” Анастасія Радзікевіч расказвала дзецям пра акцыю ў форме гульні. Гуляючы, маленькія чытачы даведаліся пра жанры літаратуры. Сярод прысутных (а на прэзентацыі было шмат вучняў сярэдняй школы № 83 г. Мінска) вядучая правяла кароткае апытанне з мэтай высветліць, што сёння чытаюць школьнікі. Аказалася, у іх выданняў для дзяцей і падлеткаў ёсць і “дарослыя” газеты. «Аргументы і факты», “ЛіМ”», — з годнасцю адказала пяцікласніца.

Рагнед Малахоўскі, намеснік галоўнага рэдактара “Бярозкі”, у чарговы раз прымусіў дзяцей задумацца, з чаго ўсё ж такі робяць бярозавую кашу. Але варыянты адказаў прапанаваў дасылаць у рэдакцыю. Рагнед нагадаў, што “Бярозка” з задавальненнем публікуе творы юных аўтараў, а таму запрасіў пачаткоўцаў прапаноўваць свае вершы і апавяданні. Развагі над тым, патрэбна чытаць ці не, а таксама гульні і вясёлыя размовы, падтрымалі мастацкія нумары ад выхаванцаў студыі “Аванці”.

Нагадаем, што ў красавіку акцыя “Чытаем разам” распачалася ў Дзяржынску, наступным пунктам прыпынку “Вясёлкі” і “Бярозкі” стала Рэчыца. Мэта акцыі — зацікавіць дзяцей, якія ўжо аддаліся ў рукі інфармацыйных тэхналогій, чытаннем і сапраўднымі кніжкамі. Спадзяёмся, яна насамрэч паспрые павелічэнню папулярнасці кніг. І гэтаму ўжо ёсць першыя станоўчыя прыклады: дзяржынскія школьнікі прызналіся, што кнігамі Уладзіміра Ліпскага яны зацікавіліся не толькі на адзін месяц, падчас якога праходзіла акцыя ў іх горадзе.

**Марыя БАЗУЛЬКА, Вікторыя МІЦЬКО**

# Падзяка — ветэранам

У музеі гонару імя Г. К. Жукава СШ № 83 г. Мінска адбылася ўрачыстая сустрэча ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны са школьнікамі і прадстаўнікамі РВУ “Літаратура і Мастацтва”, а таксама з супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Навучэнцы малодшых класаў прыйшлі павіншаваць і выказаць сваю падзяку ветэранам. Яны распавядалі пра тое, як іх прадзеды абаранялі Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Паказвалі фотаздымкі з сямейных архіваў, чыталі вершы. Сярод хлопчыкаў і дзяўчынак быў аб’яўлены конкурс на лепшы малюнак на тэму “Мая сям’я супраць вайны”. Першае месца па выніках галасавання атрымаў малюнак вучаніцы 3 “А” класа Ірыны Жэймы. Усе малюнкі-пераможцы конкурсу будуць надрукаваны ў часопісе “Бярозка” — у нумары, прымеркаваным да Дня Незалежнасці краіны.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва” разам з Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прадставілі сумесны праект — альбом “Рдзіна-Маці кліча! Плакаты Вялікай Айчыннай вайны”. Прадстаўнікі выдавецтва запэўнілі, што да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь планецца выданне яшчэ аднаго альбома, які будзе называцца “Зброя Перамогі”. Кніга распавядзе пра самаробную зброю партызан.

**Ганна ЛОЙКА**

# Беларускія замчышчы: на схілах

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

**Сёння ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь 5 тысяч 382 аб'екты. Толькі за мінулы год у спіс унесена 472 помнікі матэрыяльнай і нематэрыяльнай творчасці чалавека. Гэта, зразумела, не ўсе аб'екты, якія падлягаюць ахове. Паводле інфармацыі з Міністэрства культуры Беларусі, сёлета спіс павінен дапоўніцца як мінімум яшчэ 200 помнікамі беларускай мінуўшчыны. Што гэта будуць за аб'екты? Як яны набываюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці? Пра гэта — размова з начальнікам упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Беларусі Ігарам Чарняўскім.**

— Ёсць некалькі праграм, якія цяпер рэалізоўваюцца і датычаць пытанняў аховы спадчыны. У адной з іх закладзена, што за бягучую пяцігодку спіс павінен папоўніцца на тысячу аб'ектаў. Атрымоўваецца, што за год у сярэднім неабходна ўключаць 200.

У свой час у 1997 годзе на адной з калегій Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь была агучана патэнцыяльная колькасць — 15679 гісторыка-культурных каштоўнасцей і помнікаў гісторыі і культуры. Лічба, напэўна, не зусім дакладная, бо, магчыма, адбыўся двайны ўлік. У нас шэраг аб'ектаў — помнікаў гісторыі і культуры — уваходзіў у Дзяржаўны спіс помнікаў рэспубліканскага значэння, да таго яшчэ ў Беларусі было прынята 26 спісаў мясцовага значэння, яны зацвярджаліся рашэннямі абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў. І існаваў Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі — 8 тамоў. У іх часам уваходзілі адны і тыя ж аб'екты. Цяпер робіцца аналіз, каб убачыць, што ж з іх не ўвайшло ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Каб прыблізна да канца пяцігодкі быў сфарміраваны паўнавартасны пералік. У перспектыве ж калі што і будзе дабаўляцца, то з новавыяўленых аб'ектаў, а не з тых, якія існавалі ў адным з ранейшых спісаў.

**— Але некаторыя аб'екты за гэты час зніклі. Магчыма, некаторыя пабудовы не вытрымалі выпрабавання часам. Шмат было храмаў, якіх пазней не стала...**

— Гэта ў большай ступені датычыць археалогіі. Мы цяпер праводзім інвентарызацыю археалагічных аб'ектаў і сапраўды бачым, што некаторых не стала. Ды і раней дакладнай прывязкі аб'ектаў да мясцовасці не было. У некаторых выпадках выяўлена, што помнікі археалогіі з аднаго раёна былі запісаны ў суседні.

**— На цяперашні час мы можам сказаць, якія з помнікаў увойдуць у гэты спіс сёлета?**

— Пакуль што сказаць цяжка. Ідзе аналіз і адбор па абласцях. Акрамя ўсяго, трэба ведаць, што сабою ўяўляе той ці іншы помнік: ці гэта будуць рэшткі нейкага будынка, ці фрагменты, ці паўнавартасны аб'ект. Раней было проста запісана, да прыкладу, "Крэўскі замак". Але яго сёння няма: ёсць рэшткі замка. І трэба правільна запісваць.

**— Грамадскасць звычайна ведае тыя аб'екты, пра якія часцей згадваецца ў прэсе, на тэлебачанні. З адрэстаўраваных апошнім часам — палацава-паркавы комплекс у Гомелі, Мірскі замак, цяпер гаворым пра Нясвіжскі замак, які плануецца адкрыць сёлета. А дзе яшчэ па Беларусі актыўна вядуцца рэстаўрацыйныя альбо аднаўленчыя работы?**

— Актыўна работы праводзяцца ў Чырвоным Беразе — там аднаўляецца сядзібны дом, працы набліжаюцца да завяршэння. Сярод больш вядомых аб'ектаў — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску. Ужо гатова праектная дакументацыя і сёлета распачаты работы. Актыўна вядуцца работы ў сталіцы і на будынку XIX ст. па Фрунзэ, 19, які прыстасоўваецца пад музей гісторыі Беларусі. На базе Нацыянальнага мастацкага музея акрамя таго, што шэраг яго будынкаў з'яўляецца помнікамі архітэктуры, плануецца стварэнне цэлага музейнага квартала. Вядуцца работы таксама на кінастудыі "Беларусьфільм". Аднаўляецца Касаўскі палацава-паркавы ансамбль (пры ўдзеле рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў), Ружанскі палацавы ансамбль, у фінансаванні якога, спадзяёмся, у наступным годзе будзе ўдзельнічаць долевы і рэспубліканскі бюджэт. А пакуль што выкарыстоўваюцца сродкі Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта. Магу назваць яшчэ былы езуіцкі калегіюм у Юравічах, Лідскі замак, Васкрасенскі сабор у Барысаве, манастыр у Пустынках Мсціслаўскага раёна, палац у Жылічах Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Вельмі значны аб'ект — Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку. Да гэтага там вяліся работы па рэстаўрацыі жывапісу. А ён у храме выключны, нідзе ў свеце такога няма — як па мастацкіх якасцях, так і па аб'ёме ў адносінах да такой, здавалася б, невялікай царквы. А з гэтага года пачынаецца распрацоўка праектна-каштарыснай дакументацыі з тым, каб прыступіць і да рэстаўрацыі ўласна помніка архітэктуры. Згадаю яшчэ сядзібны комплекс Агінскіх у Залессі Смаргонскага раёна. Прыблізна такі пералік аб'ектаў... На самай справе ён яшчэ большы, са спісам можна азнаёміцца ў Міністэрстве культуры.



> *Летась на Навагрудскі замак выдаткоўваліся бюджэтныя сродкі — 41,5 млн. рублёў, латарэя "Скарбніца" сабрала больш як 39 млн. рублёў і 21 млн. — гэта ахвяраванні прадпрыемстваў ды, часткова, грамадзян. Мяркуецца, што сёлета такіх сродкаў будзе значна больш. Толькі рэспубліканскі бюджэт плануе выдаткаваць 500 мільёнаў рублёў. Спадзяёмся, будуць больш актыўна паступаць сродкі ад ахвяраванняў.*

**— Акрамя таго, што выдаткоўваюцца дзяржаўныя сродкі з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, якія крыніцы фінансавання аднаўленчых работ на сённяшні дзень найбольш верагодныя і рэальныя? І што можа перашкаджаць прыватным інвестарам укладваць свае сродкі ў рэстаўрацыю?**

— У прынцыпе, нічога. І многія інвестары, калі ў іх ёсць на балансе ці ва ўласнасці помнік архітэктуры, выдаткоўваюць свае грошы. На самай справе штогод выдаецца каля 400 дазволаў Міністэрства культуры Беларусі на распрацоўку праектнай дакументацыі і амаль такая ж колькасць — на правядзенне работ. Такім чынам, работы вядуцца прыблізна на 900 аб'ектах.

**— І наадварот, ці магчыма сёння, каб уласнік гістарычнага аб'екта атрымаў дапамогу ад дзяржавы для рэстаўрацыі, калі б ён пажадаў гэта зрабіць?**

— Спецыяльна ў заканадаўстве гэта не прапісана. Хаця мы не выключаем, што ўмова такога дафінансавання можа прысутнічаць — на спецыяльныя рэстаўрацыйныя работы. Калі не закранаць будаўнічыя работы і інжынерныя камунікацыі, а менавіта весці гаворку пра спецыяльныя рэстаўрацыйныя работы. Напрыклад, па жывапісе, ляпніне. Для культуры Беларусі гэта вельмі важна. Царква, касцёл — гэта таксама прыватныя ўласнікі. І дзяржава тут якраз дапамагае — на работах па аднаўленні храмаў. Адну з цэркваў я назваў, мог бы пералічыць і некалькі касцёлаў, да прыкладу, будслаўскі, дзе вядзецца фінансаванне і пры ўдзеле Мінскага аблвыканкама. Або вядомая царква абарончага тыпу ў Сынковічах Зэльвенскага раёна, дзе работы фінансуюцца рэспубліканскімі асігнаваннямі.

**— Навагрудскі замак — той гістарычны аб'ект, да клопату пра які далучаецца і грамадскасць. Праведзены ўжо многія акцыі з удзелам розных устаноў. На што найперш неабходны сродкі?**

— Трэба сказаць, што ў 2000 годзе там ужо праводзіліся работы (абследаванне, вывучаліся гісторыя, археалогія замка), але яны былі перапыненыя. А ў мінулым годзе Міністэрства культуры выступіла з ініцыятывай пад дэвізам "Захаваем Навагрудскі замак разам!". Ёсць лагатып, пад якім і будуць праходзіць усе акцыі. Летась на Навагрудскі замак выдаткоўваліся бюджэтныя сродкі — 41,5 млн. рублёў, латарэя "Скарбніца" сабрала больш як 39 млн. рублёў і 21 млн. — гэта ахвяраванні прадпрыемстваў ды, часткова, грамадзян. Мяркуецца, што сёлета такіх сродкаў будзе значна больш. Толькі рэспубліканскі бюджэт плануе выдаткаваць 500 мільёнаў рублёў. Спадзяёмся, будуць больш актыўна паступаць сродкі ад ахвяраванняў. І калі такіх асігнаванняў будзе больш, чым неабходна на распрацоўку навукова-праектнай дакументацыі, то сёлета можна пачынаць работы і на тэрыторыі. У прыватнасці, адно з актуальных пытанняў — інжынерныя ўмацаванні схілаў замчышча. Бо ідзе вымыванне грунту. Далей чакаюцца работы па адкрыцці рэшткаў абарончых муроў, вежаў, іх выяўленне і кансервацыя на паверхні замчышча. Напэўна, на тэрыторыі метадамі добраўпарадкавання будзе выяўлена планіроўка замка, страчаныя збудаванні, у прыватнасці, палац XVII ст. паміж Касцельнай вежай і Шчытоўкай. І я не выключаю, што ў замку будзе вельмі значны элемент музеефікацыі. Можна будзе размясціць макеты замка, якім ён быў у розныя перыяды, закансерваваць тое, што засталося. Па меркаванні навуковага кіраўніка работ на Навагрудскім замку Сяргея Друшчыца, у рэштках вежы-шчытоўкі ў ніжніх ярусах могуць быць уладкаваны памяшканні, дзе размесціцца музейная экспазіцыя.

## Анкета пісьменніка

### Народжаныя для натхнення



*1. Як вы лічыце: ці павінна ў агульнай літаратурнай плыні прысутнічаць масавая літаратура? Ці згодны з думкай, быццам культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскультуру сваім ценем?*

*2. Якія кнігі, на вашую думку, цікавяць чытача? Ці праўда тое, што поспех літаратара ўсё больш залежыць ад майстэрства фатографа і мастака, які афармляе кнігу, ад яе знешняга выгляду?*

*3. Якім ён ёсць, наш сучаснік? Што ў яго характары надае аптымізму?*

**Намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Любоў КРАСЕЎСКАЯ:**

**1.** У чалавека заўсёды павінен быць выбар, і ва ўсім. А якія кнігі ён стане чытаць, залежыць ад узроўню яго культуры, выхавання, адукацыі. Масавая літаратура таму і масавая, што яна карыстаецца попытам у большасці тых, хто чытае. Яна запаланіла сабою паліцы, не пытаючыся, ці быць ёй у літаратурным працэсе. З ёю даводзіцца лічыцца, тым больш што не ўся яна "нізкапробная" — ёсць і вартыя ўзоры. Напрыклад, творы Ю. Сямёнава і В. Пікуля з'яўляліся бестселерамі 1970—1980 г. г.

Больш палохае іншае: тых, хто чытае, у век камп'ютараў і Інтэрнэта становіцца ўсё менш. Настаўнікі б'юць трывогу: нашы дзеці перасталі чытаць! Больш таго, у школы прыйшлі настаўнікі, якія не чытаюць, яны, бясспрэчна, не затрымліваюцца там надоўга, але, чаго граху таіць, яны ёсць. Але ж я ведаю, шмат хто знайшоў сваю дарогу ў высокую літаратуру праз масавую. Гэта як у медыцыне: яд забівае, але ў малых дозах ён лечыць.

Я шмат гадоў працавала ў Палацы культуры завода медыцынскіх прэпаратаў г. Краснаярска загадчыцай культурна-масавага аддзела і ў каштоўнасці масавай культуры для ўсяго грамадства не сумняваюся. Як сказаў М. Гаспараў, "масавая культура — гэта ўсё-такі лепш, чым масавае бескультур'е..."

**2.** Які чытач, такія і яго інтарэсы. Ёсць не толькі таленавітыя паэты, пісьменнікі, але і таленавітыя чытачы, і вельмі добра, калі яны знаходзяць адзін аднаго. Шлях да дасканаласці ў кожнага бясконцы. Хочацца верыць, што не знікне важнасць паняцця "густ", што культура будучага выпрацуе сродкі для яго развіцця ў дачыненні да душэўнага складу кожнага чалавека. Радуе тое, што Міністэрства культуры Беларусі выступіла з прапановаю зноў увесці ў агульнаадукацыйных школах прадмет "Сусветная і айчынная мастацкая культура", і пытанне гэта абмяркоўваецца.

Кнігі ўлюбёнага аўтара людзі могуць набываць і ў несамавітых вокладках, аднак калі ёсць выбар — купяць, бясспрэчна, у прыгожай. Няпісанае правіла "сустракаюць па адзенні..." ніхто пакуль што не адмяняў.

**3.** Крытыцы падпадалі сучаснікі ўсіх эпох. Але ў абарону сваіх — гэта людзі XX — XXI стагоддзяў — хачу сказаць, што, нягледзячы на стагоддзе хуткасцей і навейшых тэхналогій, камп'ютарызацыі і іншых яскравых прыкмет часу, агульначалавечыя каштоўнасці не згубілі сваёй значнасці. Асабліва хачу сказаць пра моладзь. Мне часта даводзіцца праводзіць з імі розныя мерапрыемствы: сустрэчы, святы, конкурсы, фестывалі, і не толькі літаратурныя. Сярод маладых людзей ёсць розныя, але надае аптымізму тое, што большасць юнакоў і дзяўчат добрыя, таленавітыя, сумленныя, якія ўмеюць сябраваць і... любіць. Любоў — гэта найвышэйшая Боская запаведзь. Сказана: чалавек прыйшоў на гэту зямлю, каб навучыцца любіць. Вырасла новае пакаленне тых, хто шчыра верыць у Бога. І ёсць спадзяванні, што людзі стануць больш духоўна багатымі, міласэрнымі, шчаслівымі. Хочацца пагадзіцца з А.С.Пушкіным:

*Не для житейского волненья,*
*Не для корысти, не для битв,*
*Мы рождены для вдохновенья,*
*Для звуков сладких и молитв.*

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Быць патрыётам

**Ён сядзіць насупраць мяне — магутны, нават у свае 85 гадоў прыгожы чалавек з добрымі вачыма і спрацаванымі рукамі. Сапраўдны сімвал салдата Вялікай Айчыннай, салдата-пераможцы, салдата-месіі… Пісьменнік-франтавік Уладзімір Федасеенка апавядае пра тое, як заглынула яго, хлопчыка, які ледзь паспеў скончыць восьмы клас, пачварная навала вайны. А я яму — пра свайго дзеда, якога ніколі не бачыла, бо зусім маладым загінуў ён у 1941-м недзе пад Ленінградам. Вайна сапраўды праехала праз душу і сэрца кожнага суайчынніка гусеніцамі варожых танкаў, стрэліла з фашысцкай снайперскай вінтоўкі ў нашчадкаў, якія мусілі б з'явіцца на свет, калі б вярнуліся з вайны палеглыя салдаты…**

— Няпраўду кажуць, нібыта ў нашага пакалення не было выбару, як толькі ісці абараняць сваю радзіму, — кажа Уладзімір Канстанцінавіч пасля доўгай паўзы. — Станавіліся ж людзі і ўласаўцамі, і паліцаямі, былі такія, што імкнуліся ціхенька адсядзецца на акупіраванай фашыстамі тэрыторыі. Вось тады і відаць станавілася, хто сапраўдны патрыёт…

**— А сапраўдны патрыёт — якімі пачуццямі ён кіраваўся?**

— Любові і нянавісці. І гэта — часцей за ўсё без патэтыкі. Вось ішоў я, хлопец, па родных сцяжынках, дзе кожнае дрэўца, кожны хмызок — да болю знаёмы, свой, і слёзы на вочы наварочваліся — як жа цяпер будзе таптаць гэтую добрую прыгожую зямлю фашысцкі каваны бот? І як ён будзе гаспадарыць у маёй роднай вёсцы Мормаль на Жлобіншчыне, панаваць над усімі тымі людзьмі, якіх я так добра ведаю і люблю? І будзе панаваць нада мною? Гэта ўсё было так нясцерпна, што іншага рашэння, як змагацца, і ў галаву не прыходзіла.

**— І тады вы сталі партызанам?**

— Я пакляўся сам сабе наіўнай дзіцячай клятвай: буду ваяваць ажно пакуль барада не адрасце, а фашысты гаспадарыць тут не застануцца! Смешна, я ж тады нават не ўяўляў, як там бароды ў людзей растуць — у мяне і пушку на твары яшчэ не было…

**— Патрыятызм… Гэта нейкае генетычнае пачуццё?**

— Я думаю, што мяне вучыла патрыятызму родная зямля. Успаміны дзяцінства — такія яркія. Памяць вышчэплівае то елачку з шышкамі, то птушку, якая так звонка, так прыгожа спявае. А то і суседа, за якім назіраў штодня, бо хаты стаялі побач. Сідарам суседа гэтага клікалі. У яго было шмат дзяцей. Жонка нейкая неахайная… Калі я саджуся за стол пісаць, успаміны гэтыя ажываюць, пралятаюць перад вачыма, як кадры нямога кіно… І я захлынаюся любоўю і замілаваннем…

**— А навучыць чалавека любіць радзіму, спецыяльна выкладаючы яму патрэбныя дысцыпліны, можна?**

— Можна ўзмацніць пачуццё, якое ўжо ёсць у душы. Можна скіраваць яго ў належны бок. Можна чалавека, які любіць свой маленькі куточак зямлі, сваіх блізкіх, прывучыць да асэнсавання: радзіма — гэта не толькі мая вёска, мая хата, мае лес і поле. Радзіма — гэта мая краіна, якой можна і трэба ганарыцца. Былі ў нас такія, можа, смешныя цяпер, значкі: "ГТО", "ДОСААФ". Але атрымаць такі значок было некалі так ганарова



для маладога чалавека. Гэта даказвала, што ты — сапраўдны патрыёт, што ты не толькі хочаш штосьці зрабіць для сваёй радзімы, але штосьці ўжо канкрэтнае і зрабіў. Падрыхтаваў сябе для таго, каб стаць яе абаронцам. Ці то даў грошы — няхай невялікія, але ўсё ж такі — на ўзмацненне нашай арміі. Цяпер у хлопцаў і дзяўчат, на жаль, зусім іншыя памкненні…

**— Моладзь стала горшая?**

— Моладзь надта шмат увагі надае зарабленню грошай.

**— Гэта так дрэнна?**

— Гэта не павінна стаць мэтай усяго жыцця. Тым больш, што сёння, дзякуй Богу, пытання пра тое, каб выжыць, для нашых сем'яў не стаіць. Дык чаму не супакоіцца, не набыць добрую, цікавую для цябе самога прафесію, каб проста годна і чэсна працаваць? Не, будуць гнацца за мільянерамі, алігархамі… А калі на шляху гэтым давядзецца зрабіць выбар: багацце коштам злачынства ці то адсутнасць багацця?

**— Выберуць злачынства?**

— Могуць. Тым больш, што шматлікія кнігі і фільмы, створаныя за апошні час, проста "запрашаюць" чалавека ў крымінальны свет. Прывучаюць да думкі, што не страшна забіць чалавека дзеля грошай. Што гэта вельмі звычайна і так робяць многія.

**— Значыць, імкненне да багацця і патрыятызм — несумяшчальныя?**

— Бывае багацце, нажытае правільным шляхам. Вось я, напрыклад, стары паляўнічы, заўжды захапляўся стрэльбамі, якія выпускаюць на нямецкім заводзе Заўэра. Гэта — лепшыя стрэльбы ў свеце. Заўэры выпускаюць іх, здаецца, з XVIII стагоддзя, — чатыры пакаленні свой бізнес развіваюць. Так, яны багатыя. Але я такое багацце шаную. Людзі розумам і працавітасцю дасягнулі таго, што маюць. І іх дзейнасць, між іншым, спрыяе іміджу дзяржавы, у якой яны жывуць. Але калі я даведваюся з перыёдыкі, што за ўвесь перыяд сваёй дзейнасці Заўэры зарабілі грошай меней, чым расійскі "нуварыш" за адзін месяц, я разумею: яго грошы нажытыя адназначна крымінальным шляхам. Ён проста абрабаваў сваю краіну! Патрыёт, скажу я вам, гэта не абавязкова той, хто выходзіць на ворага са зброяй у руках. Патрыётам можна быць і ў мірны час. Але злодзей, рабаўнік, хабарнік не можа любіць сваю радзіму. У яго калі сэрца і баліць, то толькі за ўласныя грошы.

**— Такім чынам, патрыёт у мірны час — гэта сумленны чалавек, які думае пра багацце і прэстыж сваёй радзімы. А што яшчэ адрознівае яго ад іншых?**

— Гатоўнасць да ўчынку. Не дзеля пахвалы, а таму, што інакш ён не ўяўляе сваё жыццё.

**— Учынак — гэта з полымя чалавека ўратаваць, з вады таго, хто патанае, выцягнуць, стаць донарам…**

— Неабавязкова. Можна абараняць прыроду, можна, урэшце, дзіця з дзіцячага дома ўсынавіць. Мая цётка, сястра матчына, напрыклад, прыняла на выхаванне шасцярых сірот, дала ім сваю любоў і клопат. Я, каб не ўзрост, цяпер таксама ўзяў бы ў дом сірату. Яны, як птушачкі зімой, туляцца да цяпла ласкавых чалавечых рук. І даць ім гэтае цяпло, і атрымаць іх любоў наўзамен — што можа быць лепш! Патрыёт павінны ж жадаць лепшае долі свайму народу. Ну дык зрабі лепшай долю хаця б аднаго дзіцёнка!

**— Як вы лічыце, ці спрыяе выхаванню патрыятызму гістарычная літаратура?**

— Значна больш — літаратура пра падзеі XX стагоддзя, чэсная літаратура пра нашу вялікую вайну і слаўтую Перамогу. Такія кнігі ні пры якіх абставінах нельга выключаць са школьнай праграмы. Імёны Івана Мележа, Івана Шамякіна, Алеся Савіцкага — франтавікоў, салдат Вялікай Айчыннай — павінны быць вядомыя кожнаму маладому чалавеку. Менавіта па іх творах моладзь мусіць вучыцца жыць. Тады ў нас не перавядуцца патрыёты.

*...У думках я далучаю да спісу прыгаданых пісьменнікам імёнаў яго імя — Уладзімір Федасеенка. Сумленныя і дыхтоўныя кнігі майго суразмоўцы "Дубовая града", "Віхры на скрыжаваннях", "Пасля смерчу", "Мутныя росы" літаральна акунаюць чытача ў драматычную эпоху вайны і першых пасляваенных гадоў, часу, калі так лёгка было пазнаць патрыёта па справах яго. Сённяшнім патрыётам цяжэй. І адначасова лягчэй. Бо любіць і шанаваць краіну мірную, паспяховую, радасную — зусім не тое ж самае, што ахвярна даказваць любоў сваю краю, захопленаму ворагам, як рабіла гэта пакаленне Уладзіміра Федасеенкі.*

Мікалай КРЫЎКО

# Моваю галаваломак

**У рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" выйшла з друку чарговая кніга вядомага беларускага пісьменніка і мовазнаўца Міхася Пазнякова "Гульнянслоў. Гульні з літарамі і словамі".**

Разлічаная ў першую чаргу на вучняў пачатковых класаў, кніга напісана займальна і надзвычай цікава. Падобных літаратурнамовазнаўчых аўтарскіх кніг у Беларусі яшчэ не было.

Праца структурна складаецца з пяці раздзелаў. Першы называецца "Гукі і літары", ён уключае дваццаць адно заданне. Абсалютная большасць заданняў падрыхтавана і напісана Міхасём Пазняковым у паэтычнай, вершаванай форме. Як відаць з назвы першага раздзела, тут змяшчаюцца заданні на гукі і літары роднай мовы. Пяць заданняўададзены ў форме загадак. У якасці ілюстрацыі варта прывесці наступныя:

Сябры, пабраўшыся за рукі,
Вядуць усіх нас да навукі.
Яны — у кнізе, у газеце,
І іх павінны ведаць дзеці
(адгадка — *літары*).

Крылаў не мае,
Ды хутка лятае.
Выпусціш — рад ці не рад,
Ды не зловіш назад.
(адгадка — *слова*).

Стаіць у жыце і здалёк
Сінечай вабіць...
(адгадка — *васілёк*).

З першага раздзела трэба назваць яшчэ такія заданні, як "азбука-дабаўлянка", "слова па вертыкалі", "складзі з літар слова", "перастаў склады", "што не так?" і інш. Увогуле, жанравая разнастайнасць кнігі надзвычайна багатая.



У першым раздзеле вельмі цікавым з'яўляецца дзявятае заданне: "устаў літару". Тут Міхась Пазнякоў падрыхтаваў практыкаванне для вучняў малодшых класаў літаральна ў форме цэлай паэмы на словы ўсёй беларускай азбукі — ад А да Я. Заданне заключаецца ў тым, каб школьнік у паказаную ў тэксце клетачку ўставіў патрэбную літару.

Другі раздзел кніжкі Міхася Пазнякова "Гульнянслоў. Гульні з літарамі і словамі" мае назву "Слова". У ім дзецям прапануецца шэсцьдзесят два заданні. Многія з іх прыводзяцца ў форме вершаў. Сама назва раздзела — "Слова" — гаворыць пра тое, што заданні ў ім заключаюцца ў адгадцы слоў, а не гукаў і літар, як у першым раздзеле кнігі. Практыкаванні другога раздзела з'яўляюцца таксама вельмі цікавымі, займальнымі і галаваломнымі. Варта для чытачоў паказаць многія з іх: "новыя словы-анаграмы", "адгадай загадкі-анаграмы", "анаграма-галаваломка", "загадкавыя словы", "таямнічыя словы", "адшукай словы", "якое слова ў гэтых радках лішняе?", "жывыя слова", "халодныя" словы", "перагаворы слова", "галасы ў словах", "шматлюдныя словы", "паўнаводныя словы", "матэматычная граматыка", "каламбуры", "магічны красворд", "адгадай загадкі на антонімы, амонімы" і інш.

Пададзім тут дзве наступныя ілюстрацыі на каламбуры:

Пакуль не спякотнае
Сонца над полем,
Мы дружна капусту
З сяброўкамі полем.

Дзень ходзіць па садзе
Садоўнік Пятроў.
На гэтай пасадзе
Ён — сорак гадоў.

Трэці раздзел кнігі Міхася Пазнякова, якая тут разглядаецца, мае назву "Сказ", а гэта азначае, што ў ім у займальнай форме і па-мастацку, у асноўным паэтычна прыводзяцца заданні для дзяцей малодшага школьнага ўзросту на такой моўнай сінтаксічнай катэгорыі, як сказ. Раздзел змяшчае чатырнаццаць заданняў і прыкладаў скорагаворак. З заданняў прывядзём наступныя: "прадоўжыць сказ", "складзі са слоў сказы", "складзіце сказы, выкінуўшы з кожнага радка лішняе слова", "дапоўні сказы словамі з правага слупка", "колькі сказаў у гэтым вершы?".

Асобнымі слупкамі і радкамі ў гэтым раздзеле падаюцца скорагаворкі, прыказкі з народных казак, крылатыя выразы. Напрыклад:

Бандэроль брат Браніслаў
Барысу з Браслава прыслаў.

Ехаў да сяброў Алег,
Вёз з сабою смеху мех.
У мяху смех рассмяяўся,
І ад смеху мех парваўся.

Сярод крылатых выразаў назавём такія:

Са сном змагаўся я, як мог,
Але заснуў без задніх ног.

Заспявае — нельга слухаць,
Наступіў мядзведзь на вуха.
Намятай сабе на вус:
Дужы, шчыры — беларус.

І некаторыя прыказкі: ад крадзенага сытым не будзеш; у стральца дым густы, ды абед пусты; людзей слухай, а свой розум май; у родная старонцы і платы знаёмы.

Завяршаюць кніжку Міхася Пазнякова два невялікія раздзелы — "Тэксты" і "Часціны мовы", з якіх вучні малодшых класаў пачэрпнуць для сябе карысны і пазнавальны матэрыял.

На вялікі жаль, у кароткай рэцэнзіі, якой бы змястоўнай і падрабязнай яна ні была, поўнасцю ахарактарызаваць і паказаць такую разнастайна-багатую кнігу немагчыма. Выданне трэба набываць, знаёміцца з ім і выкарыстоўваць яго.

Кніга Міхася Пазнякова "Гульнянслоў. Гульні з літарамі і словамі" дапаможа вучням пачатковых класаў добра, трывала засвоіць многія пытанні беларускай мовы, мовазнаўчых катэгорыі і з'яў, глыбей развіць дзіцячую кемлівасць, знаходлівасць, пашырыць фанетычную, графічную, слоўную і граматычную эрудыцыю. Шмат карыснага для сябе знойдуць у гэтай кнізе і настаўнікі пачатковых класаў, спецыялісты-дыдактыкі, выхавальнікі дашкольных дзіцячых устаноў, бацькі дашкольнікаў і малодшых школьнікаў, усе, хто глыбока цікавіцца родным словам і займаецца яго вывучэннем.

*80-гадовы юбілей Уладзіміра Караткевіча быў азначаны не толькі з’яўленнем цікавых выданняў, але і стварэннем першага помніка пісьменніку (скульптары Канстанцін Селіханаў і Алег Варвашэня), які стаў дарам Беларусі Украіне. Не дзіўна, бо Караткевіч сем гадоў жыў ва Украіне: з 1949 г. вучыўся на філалагічным факультэце Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі, два гады настаўнічаў у вёсцы Лесавічы Тарашчанскага раёна Кіеўскай вобласці. Эсэ Караткевіча “Сон аб тым, што было”, якое пісьменнік прысвяціў свайму Кіеву, друкуецца ўпершыню: тэкст быў знойдзены даследчыкам творчасці Караткевіча Пятром Жаўняровічам у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук. Чытачам гэтага нумара “ЛіМа” прапануецца эсэ Караткевіча, аналіз твора, зроблены П. Жаўняровічам, інтэрв’ю з Канстанцінам Селіханавым і фотаздымкі помніка, ужо ўсталяванага ў сталіцы Украіны.*

# «Тут адкрылася мне душа Украіны»

Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ

**У публіцыстычнай спадчыне Уладзіміра Караткевіча адметнае месца займаюць творы, тэматычна звязаныя з Украінай, якая дала маладому чалавеку першыя ўрокі любові да роднай зямлі, узгадавала сапраўднага патрыёта, загартавала ў змаганні з закаснелымі, дагматычнымі тэорыямі другой паловы XX стагоддзя. Амаль выпадковая сустрэча з Кіевам у 1944 г. і потым свядомы выбар месца вучобы ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі (1949 — 1954 гг.) у многім прадвызначылі творчы шлях У. Караткевіча ў імя слугавання Бацькаўшчыне, яе народу і ўсім людзям зямлі.**

У 1964 г. у “Маладосці” і ў 1971 г. у “Полымі” надрукаваны эсэ-партрэты “І будуць людзі на зямлі” і “Saxifraga”, у якіх пісьменнік грунтоўна прасачыў жыццёвы і творчы шлях Тараса Шаўчэнкі і Лесі Украінкі. Можна сцвярджаць, што ўжо ў той час у асобе У. Караткевіча беларуская літаратура ўзбагацілася таленавітым майстрам літаратурнага эсэ. У 1982 г. у “Маладосці” з’яўляецца эсэ-нарыс “Мой се градок!”, у якім, дзякуючы спалучэнню навуковага і эсэісцкага светабачання, У. Караткевічу ўдалося стварыць запамінальны вобраз Кіева. У тым жа годзе ў літаратурным зборніку “Братэрства” пісьменнік змяшчае эсэ-нарыс “Абраная”, прысвечаны Украіне. Гэтыя чатыры публіцыстычныя творы, напісаныя для беларускага чытача, дапамагаюць лепш зразумець Украіну і яе народ, больш даведацца пра яе нацыянальных геніяў, зразумець, паводле У. Караткевіча, галоўнае: “Калі ведаеш чужое як сваё, тады слоў не трэба. І каб усе ведалі пра ўсіх усё, як пра сябе, — не было б глебы для варожасці”.

Яшчэ адзін твор, прызначаны, аднак, украінскаму чытачу, выяўлены ў асабістым архіве пісьменніка — “Сон аб тым, што было”. Аўтограф з пазначэннем даты і месца напісання (28 ліпеня 1980 г., Друскенікі) захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф. 11, воп. 2, адз. зах. 327). Пра адрасаванасць эсэ-нарыса сігналізуюць дзве зноскі пасля выкарыстаных цытат з Тараса Шаўчэнкі: “[Для перакладчыка]. Пішу, не маючы змогі пакласці “Кабзара” перад сабою, па памяці. Таму праверце дакладнасць цытаты (можаце і пашырыць яе). Гэта, здаецца, канец “Варнака”; “Перакладчыку: зверыць, бо зноў па памяці”. Таму патрабуецца далейшая даследчыцкая праца, каб выявіць, ці быў дасланы твор у Кіеў, ці быў перакладзены і надрукаваны на ўкраінскай мове.

Здзіўляе талент У. Караткевіча па-іншаму пісаць пра Кіеў, пра Украіну, знаходзіць у сваёй памяці новыя ўспаміны, выказвацца, не паўтараючыся, па разнастайных праблемах сучаснасці.

Зачын пачынаецца развагамі пра жанравую прыналежнасць твора: аўтар як сапраўдны даследчык сумняваецца ў вызначэнні жанру, што не саромеючыся адлюстроўвае ў тэксце і нібы раіцца з чытачом. Гэта не прымяншае значэння навуковых росшукаў пісьменніка, бо, як слушна выказаўся знаны еўрапейскі навукоўца Тэадор Адорна: “Бадай, ніколі ніводзін твор мастацтва, які валодае дастаткова высокай рэпутацыяй, не адпавядаў поўнасцю нормам свайго жанру”. Урэшце, само найменне жанру пісьменнік выносіць у загаловак, баючыся не ўкласціся ў “вызначаныя рамкі” пэўнай структуры, і гэтым у чарговы раз пацвярджае жанравую інтэграцыю, уласцівую ўсёй яго творчасці.

Адразу ж пісьменнік выкарыстоўвае рэдкаснае, вельмі трапнае параўнанне з узгадваннем Усяслава Чарадзея і падае тлумачэнне, мабыць, разумеючы, што гэты князь — асоба крыху легендарная і, бадай, супярэчлівая. Але аснова параўнання якраз і выяўляецца ў развагах: аднолькавая любоў да дзвюх радзім і немагчымасць жыць без кожнай з іх. Завяршаючы зачын, аўтар не прамінае сказаць і пра разнастайны падыход да кожнай падзеі, да кожнага сцвярджэння, такім чынам у чарговы раз праяўляе дэмакратызм мыслення.

Першая макраструктура асноўнай часткі ўключае аўтарскія развагі пра тое, які ж ён, Кіеў Караткевіча. Але гэта не прывязаныя да канкрэтнага горада словы, а словы чалавека, які ўмее зазірнуць і ў глыб стагоддзяў, і ў будучыню чалавецтва: “Аднолькава жывуць у нашых душах успаміны дзяцінства чалавецтва, дзяцінства племя, народа, дзяцінства свайго. І ўсё гэта аднолькава хвалюе нас у нашых прыстрасцях, нянавісцях, любовях”. Генітыўныя метафары з апорным словам *дзяцінства* выклікаюць адпаведную рэакцыю ў чытача, бо гэты перыяд у жыцці кожнага, які б ні быў цяжкі, — звычайна самы светлы і радасны ва ўспамінах.

У другой макраструктуры распавядаецца пра Кіеў у 1944 г. Заўважаецца практычна поўная адрознасць апісання горада ад эсэ-нарыса “Мой се градок!”. Напрыклад, уражвае (праўда, аўтар таксама сігналізуе пра гэта) параўнанне вызваленага Кіева з гарадам-курортам. І невыпадкова пісьменнік, які неадночы звяртаўся ў сваіх творах да апісання гарадоў, лічыць: “І калі я ў творах сваіх хаця крыху ўрбаніст, то гэта таму, што многія і многія гарады я звядаў, але Кіеў быў адным з першых гарадоў, будынкі і плошчы якога ненавязліва вучылі мяне гэтаму”. Веданне горада было ў пісьменніка іншым, бо ён адчуваў менавіта яго душу. А душа адкрывалася толькі дапытлівым і адданым сынам, якія і сёння хвалююцца пра аблічча Кіева.

Трэцяя макраструктура твора раскрывае погляд У. Караткевіча на змены ў тагачасным грамадстве (50-я гады), калі “стала святлей”. Аднак успаміны часам напоўнены горыччу, як, напрыклад, пры апісанні выставы твораў Урубеля. Пісьменнік, у той час пагартаўшы кнігу водгукаў, прыгадвае: “Якое гэта было (побач з водгукамі тых, хто разумеў і прымаў) мора абуранага непаразумення, ваяўнічага невуцтва, прывычкі знішчальна лаяць усё, што табе незразумела, і, прабачце, звычайнай тупасці”. Як арганічна гэтае сцвярджэнне стасуецца са словамі заснавальніка жанру эсэ Мішэля Мантэня з яго доследаў (“Essai”), напісаных чатырыста гадоў таму, менавіта ў 1580 г.: “Пагарджаць тым, што мы не можам спасцігнуць, — небяспечная слепата, якая мае вынікам самыя непрыемныя наступствы, не кажучы ўжо пра тое, што гэта бязглуздая безразважнасць”. І такія вось, з дазволу сказаць, “людзі” шмат “папсулі нам маладой крыві, мне, маім сябрам, ды й не толькі ім”. Мастак слова, вядомы ў 1980 годзе ўжо не толькі на Беларусі, робіць наступнае заключэнне пра сваё творчае крэда: “Кнігі ў бібліятэках і рыдлёўка зрабілі мяне тым, што я ёсць: пісьменнікам, які стараецца мысліць гістарычна (а гэта і азначае нацыянальна і сацыяльна), які ведае, што толькі гістарычнай свядомасцю чалавек і народ могуць ўсвядоміць сваё “сёння” і памагчы будучыні, што пайсці ад гісторыі, плюнуць на яе — гэта напляваць на сучаснасць”. Гэтае аўтарскае перакананне рухала У. Караткевічам, як бачым, з часоў вучобы ў Кіеве.

> *Мастак слова, вядомы ў 1980 годзе ўжо не толькі на Беларусі, робіць наступнае заключэнне пра сваё творчае крэда: “Кнігі ў бібліятэках і рыдлёўка зрабілі мяне тым, што я ёсць: пісьменнікам, які стараецца мысліць гістарычна (а гэта і азначае нацыянальна і сацыяльна), які ведае, што толькі гістарычнай свядомасцю чалавек і народ могуць ўсвядоміць сваё “сёння” і памагчы будучыні, што пайсці ад гісторыі, плюнуць на яе — гэта напляваць на сучаснасць”. Гэтае аўтарскае перакананне рухала У. Караткевічам, як бачым, з часоў вучобы ў Кіеве.*

Не цураецца аўтар у сваім творы і іранічных нотак, якія, аднак, не парушаюць танальнасці аповеда, а характарызуюць пісьменніка як чалавека дасціпнага, з пачуццём гумару і самаіроніі (тое, што гэтыя якасці характэрныя для беларусаў, ён узгадваў неаднаразова.). Напрыклад, распавядаючы пра студэнцкія заробкі (удзел яго ў доследах жонкі спевака Барыса Гмыры), У. Караткевіч завяршае фрагмент наступным чынам: “Так што калі каму-небудзь трапіць у рукі яе дысертацыя (а можа, і кніга) і ён сустрэне там імя падвопытнага трусіка “студэнта К.”, то — дазвольце адрэкамендавацца — К. гэта я”. Або, пішучы пра непрыемныя выпадкі, аўтар так ацэньвае “паводзіны” горада: “Кіеў мяне не выдаў, не даў перажыць пасля “серпня” месяцы “тэрпень”, “пухонь” і “здэхонь”. Ці ўзгадваючы, як ён перайшоў на руках па пярылах адзін з кіеўскіх мастоў, пісьменнік перасцерагае: “Хай гэта застаецца толькі маім “подзвігам”, а потым парцэляванай канструкцыяй працягвае: “І дадатковай фарбай на палітры нейкага гіда XXI стагоддзя: “Мост пабудаваны... Мост славуты яшчэ і тым, што яго, па пярылах, перайшоў на руках малавядомы беларускі паэт XX стагоддзя Уладзімір Караткевіч... Астатнія кіяўляне не рабілі гэтага, бо яны разумныя. Нават пасля гасцін у кума”.

Чацвёртая макраструктура твора — падзяка Кіеву за “сяброў і дзяўчат”, за “туманныя вечары”, за “беспрытульныя блуканні”; прабачэнні за некаторыя “кіеўскія” вершы; абяцанне напісаць верш, варты гэтага славутага горада. “Доўг вечна за мной”, у тым ліку і “за тое, што тут адкрылася мне душа Украіны”, — перакананы аўтар. А потым прыводзіцца парцэляцыя з метаніміяй — не раз скарыстаны пісьменнікам прыём. Наступныя вынесеныя ў асобныя абзацы кароткія, як бы на адным выдыху, выказванні ствараюць арыгінальнае завяршэнне макраструктуры — У. Караткевіч падводзіць кароткія высновы з усяго сказанага.

У заключнай макраструктуры, адасобленай большым інтэрвалам, аўтар вяртае чытача да сярэдзіны твора, дзе размова вялася пра ўлюбёны кіеўскі Караткевічаў каштан. Шчырасць прызнання выклікае адпаведнае стаўленне ўмоўнага суразмоўцы — чытача, які думае, напрыклад, і пра сябе: а як будзе ў мяне, “калі мне зробіцца цяжка і пацягне мяне да Вытокаў”?

На першы погляд падаецца, што галоўнае ў творы — успаміны. Аднак гэта ўспаміны-разважанні мысляра, які ўсведамляе важкасць свайго слова, думае пра чалавека будучага стагоддзя, рупіцца пра тое, каб ён паспрабаваў зразумець погляды свайго папярэдніка. Акрамя таго, металагічная мова твора дазваляе пісьменніку стварыць некалькі ключавых сэнсавых дамінантаў, якія пашыраюць тэматычны абсяг эсэ і разгортваюць прадвызначаныя інтэнцыяй макраструктуры, накіраваныя на далучэнне чытача да суразважання і на ўсведамленне ім аўтарскіх меркаванняў.

“Сон аб тым, што было” з поўным правам можна залічыць да “публіцыстычнай лірыкі”. А ўкраінскі чытач не без падстаў павінен быць удзячны У. Караткевічу, як і ён быў удзячны Кіеву, Украіне і яе людзям. Між тым украінская падзяка Вялікаму Беларусу вось-вось увасобіцца ва ўсталяваным у Кіеве помніку.

# Сон аб тым, што было

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

**Не ведаю, што гэта я такое прапаную Вашай усёдаравальнай увазе. Оду? Я ніколі іх не пісаў. Верш у прозе? Занадта ён абцяжараны рэаліямі. Успамін? Занадта ён размыты і фантастычны. Эсэ, роздум, твор аб усім і ні аб чым? Сон аб тым, што было? Бадай што так.**

Гэты сон прыходзіць да мяне заўсёды раптам, уладна і нечакана, у кожным месцы і ў кожны час. У тураўскіх першабытных дубровах, дзе воўк ідзе па слядах лані, а я іду па ягоных слядах. Сярод мінскіх навенечкіх камяніц. У глухой леснічоўцы, дзе гарыць свяча і твой вялізны цень спачывае на бярвенчатых сценах, а ў вёдрах ля дзвярэй вада пацягнулася лядком. Ля гонкіх муроў Сафіі Полацкай.

Як полацкаму князю Усяславу Чарадзею. Усё ён зведаў, нават дакрануўся дзідаю да кіеўскага стала. Але вось зазванілі яму з неадольнай далечыні званы полацкай Сафіі, званы горніх вышынь, і кінуўся ён з Кіева туды, на Радзіму. І прыдбаў яе, але так і застаўся паміж дзвюх мараў, пакінутай і прыдбанай, але з таго часу гучаць і гучаць у вушах і ў душы ягонай звоны дзвюх Сафій, Сафіі Полацкай і Сафіі Кіеўскай, звоны зямлі палян і зямлі крывічоў. Гучалі, гучаць і будуць гучаць яны ў душы ягонай, якая зведала мноства падзенняў і смерцяў, мноства ўзвышэнняў і любовяў.

Колькі людзей — столькі і вобразаў кожнай на свеце з'явы (я маю на ўвазе тых людзей, якія стараюцца думаць, уяўляць і марыць **самі**).

Колькі людзей, праз жыццё якіх прайшоў гэты горад, — столькі і Кіеваў.

Гэты, пра які я пастараюся сказаць два словы, — мой.

...Галасы тых, што жылі сорак стагоддзяў і сорак год назад, адгукаюцца рэхам у нашых словах. Аднолькава жывуць у нашых душах успаміны дзяцінства чалавецтва, дзяцінства племя, народа, дзяцінства свайго. І ўсё гэта аднолькава хвалюе нас у нашых прыстрасцях, нянавісцях, любовях.

Таму я гляджу на Кіеў кожны раз вачыма таго, першага, які ўвагнаў першую палю ў дняпровую строму. І вачыма таго, хто гінуў на яго мурах. І сваімі вачыма.

Але і сваё ўражанне, свой позірк на яго кожны раз не такія. Кожны раз, калі мае крокі зноў, часам праз некалькі год, гучаць у ягоных вулках, перада мною ўстае, узнікае ўсё той самы горад і, адначасова, кожны раз не той. Быццам наплывам. Быццам стары спускаецца ў празрыстыя, хісткія воды і яшчэ некаторы час свеціць там, каб паволі саступіць месца новаму. А ў наступны раз размыўнай вясёлкай знікае ў водах і той, — як горад свіцязянак пад Наваградкам і як Кіцеж, — і новыя белыя вежы ўстаюць над хвалямі.

...Даўно... Застаецца год з лішнім да канца вайны. Беларусь яшчэ віруе і клякоча пад ігам... А тут ужо гараць на вулках рэдкія ліхтары ў глыбокіх бляшаных конусах (прытоенае, пакуль што, заняволенае святло, і нельга паверыць у зорны россып цяперашняга начнога Кіева), і тры-чатыры разы на дзень праходзіць бульварам Шаўчэнкі трамвай. А Храшчацікам, што як мёртвы горад невядомай планеты, па вузкай сцежцы ў руінах, таксама праходзіць трамвай: вывозіць на платформах каменны друз... І вісіць яшчэ на вуліцы Леніна шыльда з "шакаладных", па вертыкалі павешаных квадратаў: "K-a-f-f-e-e". А пасля нямецкія літары збіваюць і з'яўляецца на квадратах украінскае "Х-л-і-б", а два квадраты целяпаюцца так сабе, пустыя. Кавы ў горадзе, вядома, няма, ды мы й забылі яе смак, хлеба — не нашмат болей.

Горад пусты. Ён падобны — прабачце за дзікае параўнанне — на курорт, з якога з'ехалі людзі, бо пачаўся мёртвы сезон (на самай справе ён якраз скончыўся, мёртвы сезон, але ў тое, што вернуцца, што прыедуць людзі, цяжкавата было паверыць).

Пустыя стадыёны і велатрэкі (мы смажылі на іх злоўленую рыбу), пустыя дамы, самотны бандурыст у лаўры. У раскошных дрэвах рэдкае і сумнае ценьканне **лясных** птушак. Але так, як заўсёды, спачатку цвіцуць шурпатай пенай, а пасля ападаюць іржавым звонкім золатам каштаны. І пад іхнімі шатамі займаецца "вайною і каханнем" маё патлатае пакаленне, учарашнія падлеткі, заўтрашнія юнакі. Яно шукае міны ў пустой каробцы ўніверсітэта (там я праз некалькі год буду вучыцца), дурэе з выбухоўкай (нам яшчэ мала) і часам гіне ад яе, як некаторыя мае сябры.

Урэшце, што гэта я кажу аб **тым** Кіеве. Аб ім мая аповесць "Лісце каштанаў", і там усё голая праўда, за выключэннем пары нязначных адступленняў ад яе, зробленых дзеля праўды літаратурнай.

...Веданне мною гэтага горада — веданне не ўшырыню (новыя раёны я ведаю кепска), а **ўглыб**. Хто помніць, дзе былі найвялікшыя гаі безгаспадарчай шаўковіцы? Ля "хода пад мурам" у лаўры. Дзе быў, замураваны цяпер, "пад'езд для рамізнікаў", апісаны ў "Лісцях..."? У доме 48 (?) на вуліцы Леніна. Дзе стаяў нікому непатрэбны конны помнік Сувораву? У якой "Перукарні" рабіў гардэробшчыкам "Леў Талстой", сівабароды георгіеўскі кавалер часоў ці не японскай вайны? Дзе й зараз стаіць у зарасцях бяздзейны фантан, басейн якога ўдае Чорнае мора? Дзе быў закапаны кіт-фінвал, падораны калісьці ўніверсітэту?

Дзе расце ў двары ліловы каштан (не бэзавы, такія хоць рэдка, але бываюць, а густа-ліловы, як сліва; або яшчэ, быў такі гатунак, — дакладна па колеры — ліловай кармавой бульбы), мой улюбёнец?

...Калі я зноў трапляю на кіеўскія вулкі і застаю кагосьці з такіх сведкаў на месцы, жывым і здаровым, — мне радасна і сумна. Радасна, бо памятаю не толькі я, але й яны. Сумна, бо ні яны, ні я не вечныя. Я — няхай ужо, але нашто ісці ў забыццё ім?

Зноў і зноў — калі праз год, а калі і праз сем — прыводзяць мяне ногі ў алеі кіеўскіх вуліц. І кожнае такое спатканне пасля вайны прыадхіляла перада мной яшчэ нейкі куток, яшчэ нейкую частку Вялікага Горада. А значыць, было ў нечым кожны раз яшчэ адным крокам да пазнання вялікага жыцця.

І калі я ў творах сваіх хаця крыху ўрбаніст, то гэта таму, што многія і многія гарады я зведаў, але Кіеў быў адным з першых гарадоў, будынкі і плошчы якога ненавязліва вучылі мяне гэтаму.



*Помнік з пластыліну стаіць у рабочым цэху мінскага скульптурнага камбіната.*

І калі я пасрэдны, не зусім сапраўдны ўрбаніст, то і гэтаму прычына Кіеў. Бо ён яшчэ досыць доўга пасля вайны быў нібы пагружаны на дно празрыстага зялёнага возера (спакой, хвалі і дрэвы співаюць старую лірную песню), бо ён быў, у першую чаргу, не камяніцы, не шалёная карусель машын (пераходзячы Храшчацік, можна было чытаць газету), не вар'яцкія скокі неону.

Бо гэта было іншае. Гэта была душа мудрых вялікіх дрэў, душа жывёл і птушак (у пратоках ля Цялічкі вадзіліся чарапахі і пара крумкачоў вялася на адхонах недзе ў раёне, дзе цяпер пад'езд да моста Патона), душа людзей, якім, нават незнаёмым, можна было недзе на Чокалаўцы даць "добридень" і атрымаць адказ. Зусім як у маіх Лесавічах, вёсцы пад Таращчай, дзе я пасля настаўнічаў.

...Час дзеяння — позні кастрычніцкі вечар 1944-га... 1949-га... 1954-га... 197... Месца дзеяння — адзін і той жа адхон над Дняпром недзе ў раёне царскага палаца... Нізкі полаг хмараў навісае над Задняпроўем. Рэзкі вецер люта жартуе, сыпе ў твар рэдкі, сцюдзёны дажджавы шрот.

І — нібы гэта бог ужывае збіты кінапрыём — ...рэдкія адзінкавыя агні, закінутыя ў непраглядную ноч (там яшчэ няма электрычнасці, там скупа і цьмяна свецяць у паасобных хатах спачатку "кацюшы", зробленыя са снараднай гільзы, пасля — газоўкі)... Крыху большае гэтых агнёў: гараць па два, па тры... Вось ужо далёкія-далёкія сузор'і, яшчэ вельмі малыя і сірыя, такія гаротныя паміж цемрай неба і непрытульным, усепаглынальным прадоннем Дняпра... І вось справа нібы распахнулася небу вялізная жароўня, рассыпаўся там жар на многія кіламетры.

Наколькі святлей стала вачам чалавечым! І ўсё ж мне — вось падвойнасць душы чалавечай! — шкада адной драўлянай піўной па дарозе на Цялічку, дзе можна было "ў Косці" (ці, можа, "у Васіля", "у Тараса" — а Косця быў на яўбазе, недзе ў раёне цяперашняга цырка? — не памятаю) выпіць, седзячы на бочцы, куфаль піва, загрызаючы гэты куфаль сушанай рыбай. Не памятаю імя "гаспадара", а аблічча ягонае як жывое перад вачыма: такі сабе тупаваты, як цясло, нос і вочкі, што аж свецяцца незнішчальным дняпровым гумарком. І ўвесь гэты магутны разгул (куфаль пад рыбу!) на бочках і пры святле свечкі нагадвае патаемную сходку кантрабандыстаў, гэткіх акул падземнага мора, ратуй нас і злітуйся, добры божа.

І яшчэ адну хату на Цялічцы я памятаю. Высокія масткі над начной вадою пратокі, белыя прывіды вішань. І сярод дамоў трапляюцца таксама белыя, крыху ў блакіт ад святла поўні. І ўвесь свет глушыць мільённы хор жабаў у затоках... І спевы, і добрыя людзі вакол... А пасля — эх, ганьба дык ганьба! — спім мы з бацькам маладой гаспадыні ў пуньцы для садовых інструментаў. Магутным казацкім сном. Аж сценкі ад храпу раздзімаюцца, як паветраны шар.

...Так, святлей чалавечым вачам. Але я не ведаю, каго, якое такое неба мне маліць, каб не забудоўвалі хмарачосамі астатнюю частку Труханава вострава, пакінулі Кіеву частку таго абшару, у які глядзеў ён многімі стагоддзямі са сваіх стромаў у печанежскі, у палавецкі стэп.

Падумайце, *на што* многімі стагоддзямі звыкнуў *глядзець Кіеў*, горды баец-чартапалох, аб які да крыві ранілі храпы коні качэўнікаў.

Бо вось не падумалі і новабудоўлямі на заднім плане знішчылі неацэнны, лепшы, мабыць, на зямлі сілуэт лаўры, тое, *на што, падыходзячы да Кіева, многімі стагоддзямі глядзелі людзі.*

Тое, што бачыў адзін герой Шаўчэнкі, выйшаўшы з Броварскага лесу.

Тихо задзвонили
У Києві, мов на небі...
О боже мій милий!

...Святлей стала. А дзе святлей, там і разумней. Бо вось я помню (не памятаю толькі год) адну з першых, калі не першую, пасляваенную выстаўку Урубеля ў адным з музеяў на вуліцы Чудноўскага (цяпер — Рэпіна). Гэта былі рэчы, узятыя з Кірылаўскай царквы, некаторыя ў дзіўным матар'яле, маслам на блясе. Мяне не трэба было вучыць таму, што такое Урубель, але тут я ўбачыў твары некаторых з наведвальнікаў і пасля гэтага перагартаў кнігу водгукаў (звычайна я не раблю гэтага, не люблю).

Якое гэта было (побач з водгукамі тых, хто разумеў і прымаў) мора абуранага непаразумення, ваяўнічага невуцтва, прывычкі знішчальна лаяць усё, што табе незразумела, і, прабачце, звычайнай тупасці.

Паняцце "тупы кіяўлянін" — такая ж рэдкасць, як "трохкутны круг". Але — дзіўныя справы твае, пане божа! — здараліся тады, недзе на рубяжы саракавых і пяцідзесятых гадоў, і такія. І шмат яны папсулі нам маладой крыві, мне, маім сябрам, ды й не толькі ім.

Цяпер, калі ўсё мінула (і юнацтва, на жаль, таксама), я нават аб іх успамінаю з пэўнай дозай сентыменту, і мне хочацца думаць, што гэта былі не мясцовыя людзі, а імпартаваныя аднекуль на маю галаву. Спецыяльна.

Бо калі ўжо здаралася такое і кіяўлянін рабіў глупствы, то ён рабіў іх — пірамідальныя, але шкодзілі яны толькі яму. У якасці ідэальнага прыкладу прывяду самога сябе (бо і я ж тады быў кіяўлянін).

Памятаеце перакідны мост ля стадыёна "Дынама"? Для іншых гэта мост маладога Патона, здаецца, ці не яго дыпломная работа. А для мяне гэта яшчэ і мост, які я (а было мне год дзевятнаццаць-дваццаць) перайшоў на руках па пярылах. Вядома ж, на пары і, вядома ж, з адценнем выхвалляння перад дзяўчатамі (адной). Не так даўно ішоў там з паэтам Іванам Драчом, расказаў яму — і сам сабе не паверыў. Бо зірнуў уніз — валасы ўзнялі шапку на галаве. А я ж быў тады нямоцны, толькі спрытны, як кошка.

**(Працяг на стар. 17).**

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

# Ці дапамогуць гульні і фантанчыкі?



**У Беларусі сёння шмат гаворыцца пра стварэнне новага іміджу айчынных кніжных магазінаў, змену як іх знешняга аблічча, так і функцыянальнага напаўнення. Але для вызначэння новых кірункаў развіцця важна апеляваць да станоўчага вопыту папярэднікаў, а таксама ўлічваць іх памылкі. Гэтым разам сакрэтамі паспяховай працы ў галіне кніжнага менеджменту з нашымі чытачамі (думаецца, больш цікавай і карыснай гутаркі будзе для спецыялістаў у галіне кніжнага гандлю) дзеліцца Фолькерт Рогенкамп — менеджар па продажах і працы з ключавымі кліентамі мюнхенскага выдавецтва *Deutscher Taschenbuch Verlag*, сябар Франкфурцкага камітэта па асартыменце, сябар-заснавальнік рабочай групы незалежных кнігагандляроў.**

**— Спадар Фолькерт, вы працавалі ў аддзелах маркетынгу як выдавецтваў, так і кнігарняў. Ці ёсць прынцыповая розніца арганізацыі распаўсюджвання прадукцыі ў гэтых установах?**

— Розніца вялікая. Працуючы ў магазіне, маеш магчымасць выбіраць з мноства выданняў самых розных выдавецтваў асартымент, які ты хацеў бы прапанаваць пакупніку, самастойна яго складаць. Працуючы ў выдавецтве, даводзіцца разлічваць на больш доўгачасовую перспектыву, бо працу ладзіш на аснове праграмы выдавецтва на год, а яна зусім не змяняецца. Пры гэтым у праграме 2—3 галоўныя кнігі, ад якіх чакаеш поспеху, ёсць выданні, поспех якіх магчымы, а ўжо потым — усе астатнія. І калі не спрацоўвае разлік на першыя кнігі, не працуюць і наступныя, то твае рукі ў плане маркетынгу звязаныя. Застаецца толькі чакаць новай праграмы.

**— У Германіі прадаўцы і выдаўцы канкуруюць паміж сабой?**

— Так, канкурэнцыя з'яўляецца ў асноўным з-за таго, што прадавец імкнецца як мага танней набыць кнігі ў выдавецтве, а выдавецтва зацікаўлена прадаць іх па як мага больш высокай цане. Пры гэтым у нас цана на кнігі фіксаваная на дзяржаўным узроўні, і выдавецтва мае права прадаць у кнігарні прадукцыю са скідкай прыкладна 40 працэнтаў. Калі гэта вялікая сетка крам, скідка можа скласці 50 працэнтаў. Але і выдавецтва, і магазін працуюць у цеснай звязцы, залежаць адно ад аднаго, таму вымушаныя шукаць кампраміс.

**— Вы супрацоўнічаеце з саюзам незалежных кнігагандляроў. Калі ў Германіі ўсе кнігарні прыватныя, то незалежнасць ад каго падкрэсліваецца гэтым азначэннем?**

— Незалежнымі называюцца кнігарні, што не ўваходзяць у склад буйных канцэрнаў. Але мне падаецца, што гэта не зусім карэктнае азначэнне для нямецкіх магазінаў такога тыпу, сам жа выраз запазычаны з англійскай мовы, дзе падобныя кніжныя крамы называюцца "independent bookstores".

**— Працуючы менеджарам па продажах, якія метады працы з кліентамі выкарыстоўваеце?**

— Метады самыя розныя, выкарыстоўваем усе магчымасці, каб завязаць і падтрымліваць кантакт з пакупнікамі. Праца арганізоўваецца ў розных кірунках: ад апрацоўкі заявак і рэгулярнай рассылкі інфармацыі пра новыя кнігі па электроннай пошце, візітаў прадстаўнікоў выдавецтва ў кнігарні, дзе яны кансультуюць пакупнікоў і гандляроў, да спецыяльных імпрэз, што ладзяцца для вялікіх сетак крам.

**— Не так даўно атрымалі распаўсюджанне відэаролікі, што прапагандуюць чытанне ў цэлым і распавядаюць пра асобныя кнігі. Гэты спосаб кніжнай прамоцыі можа працаваць?**

— Так, але толькі ў тым выпадку, калі глядач ужо патэнцыяльна зацікаўлены кнігай. Калі ж такія ролікі дэманстраваць у кінатэатры ці па тэлебачанні ў прайм-тайм для аўдыторыі, зацікаўленай толькі відовішчам, то, натуральна, гэта не дапаможа. У цэлым жа лепшы спосаб прамоцыі — гутарка, прыватны расповед пра станоўчыя якасці таго, што прадаецца.

**— А ці працуе нейрамаркетынг з кнігамі?**

— Нейрамаркетынг функцыянуе паўсюль, дзе функцыянуе звыклы маркетынг. Гаворка ідзе толькі пра іншы падыход, іншую методыку. Але ў гэтым выпадку важна адно — прадаць.

**— Сёння шмат гаворыцца пра тое, што кнігарня не павінна быць проста магазінам, дзе можна толькі набыць кнігу. На вашу думку, якія яшчэ функцыі яна павінна выконваць?**

— Думаецца, кнігарня ў першую чаргу — цэнтр камунікацыі, дзе ажыццяўляюцца зносіны паміж пакупнікамі. Але гутарыць яны не толькі пра кнігі, могуць звяртаць увагу і на шматлікія іншыя тэмы. У ідэальным выпадку кніжны магазін павінен выконваць такую ж ролю, якую раней адыгрываў кірмаш у мястэчку ці ў горадзе.

**— Але са з'яўленнем інтэрнэт-крам і распаўсюджваннем электронных кніг гэтая функцыя рызыкуе быць цалкам страчана…**

— Можа быць і так. Але я спадзяюся, што гэтага не здарыцца. Ёсць верагоднасць, што электронная кніга стане настолькі распаўсюджанай, што друкаваных выданняў будзе надта мала, каб увогуле варта было адчыняць кнігарню. У бліжэйшы час такі расклад падзей хутчэй неверагодны, чым магчымы, але не выключана, што сітуацыя можа развівацца і такім чынам.

**— Спадар Фолькерт, будучы ў Мінску, вы наведалі нашы кнігарні. Якія ўражанні ў вас засталіся ад гэтых устаноў?**

— Складана казаць адразу пра ўсе крамы, бо магазіны, што я наведваў тут, вельмі розныя. Што да вялікіх кнігарняў, то ўсе метады афармлення вітрын і прадстаўлення тавараў, папулярныя на Захадзе, тут не прадстаўлены. Але і пра гэта складана казаць адназначна, бо я зусім не хачу навязваць беларускім гандлярам заходнія стандарты. Але мне адразу ж кінулася ў вочы, што мінскія крамы вялікіх сетак *Boss*, *Adidas* выглядаюць абсалютна гэтаксама, як, напрыклад, у Рыме. У параўнанні з імі кнігарні амаль незаўважныя з вуліцы. Але ёсць у тутэйшых кніжных магазінаў і станоўчыя рысы, што сёння ў Еўропе амаль страчаны. Я быў рады іх заўважыць. Усё пачынаецца з паху. Знаходзячыся ў беларускіх кніжных магазінах, маеш абсалютна станоўчае адчуванне, што ў гэтым памяшканні ў цэнтры ўвагі толькі кнігі, кнігі і кнігі. Я як чалавек, які любіць кнігі, зусім не хачу, каб у краме маю ўвагу ад іх адцягвалі нейкімі цацачкамі, гульнямі, фантанчыкамі. А ў Заходняй Еўропе гэта звычайная практыка.

**— У кнігарні поруч з асноўным таварам часта можна пабачыць і іншыя рэчы: сувеніры, канцылярскія прылады, часам нават віно. На вашу думку, якія тавары лепш за ўсё выбіраць як суправаджальныя для кніг?**

— Мяркую, што ў любым выпадку гэта павінны быць невялічкія падарункі. А іх палітра — самая шырокая: прыгожыя каробачкі, куды можна пакласці кнігі, каменьчыкі, якія прыемна трымаць у руках, цацкі для дзяцей. Шакалад — таксама добры суправаджальны тавар, бо кнігі часта набываюцца ў падарунак. Добра, калі крама адразу можа штосьці прапанаваць у дадатак.

**— Вы ўжо адзначалі, што ў кнігарнях Германіі часта ладзіцца прэзентацыі і аўтарскія чытанні. Такія імпрэзы садзейнічаюць стварэнню станоўчага іміджу крамы ці спрыяюць павелічэнню продажаў?**

— Гэтыя аспекты непарыўна звязаныя. Але сама імпрэза патрабуе больш выдаткаў, чым прыносіць грошай. На яе можна прадаваць квіткі, падчас і пасля чытанняў распаўсюдзіць некалькі кніг, але не больш за тое. Аднак калі крама прапануе некалькі мерапрыемстваў на добрым узроўні, — гэта тое, з чаго яна можа жыць і атрымліваць прыбытак, але ў доўгачасовай перспектыве.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

# Беларусь–Францыя: вуліца з двухбаковым рухам

**У мінскім "Кніжным салоне" прайшло чарговае пасяджэнне клуба бібліяфілаў. Гэтым разам яно было прысвечана беларуска-французскім культурным стасункам у галіне літаратуры. Браў удзел у пасяджэнні саветнік па супрацоўніцтве і культуры пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Людовік Руайе.**



"Радуе ўзаемная цікавасць да літаратуры нашых краін, — адзначыў спадар Руайе. – У рамках праграмы дапамогі публікацыям пасольства Францыі, якая носіць назву "Максім Багдановіч" і дзейнічае ўжо 15 гадоў, у Беларусі выйшла каля 70 кніг. Калі гаворка ідзе пра выданне французскіх аўтараў на беларускай мове, няма ніякіх клопатаў з набыццём правоў. Свядчаннем таму — паспяховае супрацоўніцтва з выдавецтвамі "Макбэл", "Зміцер Колас" і інш. Больш складана ладзіцца справы з выданнем на рускай мове".

У рамках мерапрыемства адбылася прэзентацыя кнігі Уладзіміра Шчаснага, старшыні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, пасла па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў. Уладзімір Рыгоравіч, якому паводле дзейнасці часта даводзілася наведваць сталіцу Францыі, стварыў своеасаблівы даведнік "Парыж. Малая падарожная кніжка для беларусаў". У ёй пазначаны самыя цікавыя мясціны, звязаныя з беларускай культурай і гісторыяй. Першы маршрут запрашае прайсціся шляхамі Адама Міцкевіча, другі вядзе па слядах беларускай эміграцыі XIX стагоддзя (Ваньковіч, Напалеон Орда), трэці прысвечаны беларускім мастакам Парыжскай школы. "Ёсць ідэя выдавецтва "Четыре четверти" стварыць серыю кніг пра гарады, якія таксама маюць дачыненне да нашай культуры і гісторыі — Масква, Санкт-Пецярбург, Варшава, Вільнюс, Прага, Нью-Ёрк. Мой калега піша такую кніжку па Швейцарыі", —распавёў У. Шчасны і выказаў спадзяванне, што хто-небудзь напіша і "вялікую падарожную".

Прагучаў анонс электроннага каталога "Французскія аўтографы ў фондзе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі", які пазнаёміць чытачоў з подпісанымі знакамітымі людзьмі Францыі кнігамі канца XIX — першай паловы XX стагоддзя, што апынуліся ў Беларусі пасля Другой сусветнай вайны. У ім будуць фота і звесткі пра 66 аўтараў аўтографаў і 30 іх адрасатаў. Каталог прадстаўлялі намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна, галоўны бібліёграф НББ Святлана Пахоменкава. Перад прысутнымі — супрацоўнікамі вядучых бібліятэк Беларусі, навуковымі супрацоўнікамі, выдаўцамі — выступіў прафесар, доктар філалагічных навук Уладзімір Макараў, аўтар уступнага слова да каталога "Аўтографы лёсу і лёс аўтографаў".

***На здымку: Уладзімір Шчасны і саветнік па супрацоўніцтве і культуры пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Людовік Руайе.***

Маладзічок

# Авечка, якая карыстаецца электроннай поштай

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,
фота Кастуся Дробава

**Чытачам часопіса "Бярозка" няўрымслівую авечку Адэлю прадстаўляць не трэба. Зорка фермы "Каляроўка" з'явілася на яго старонках на пачатку года, адразу звярнула на сябе ўвагу і збіраецца завітваць да цікаўных разам з часопісам на працягу ўсяго 2011-га: ганяць па лужку цётак, якія выкідаюць смецце; чытаць часопіс "Гламур на кожны дзень" і электронныя лісты ад сваіх прыхільнікаў ды намагацца стаць знакамітай. Неўзабаве ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйдзе кніга пра яе прыгоды — "Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй або Adeljastar@tut.by". Занатавала гэтыя прыгоды казачніца Наталля Бучынская. Не так даўно яна зазірнула ў рэдакцыю "ЛіМа" разам са сваімі сябрамі авечкай Адэляй і козачкай Малімонкай — каб распавесці пра "Каляроўку" і незабыўныя сустрэчы падрабязней.**



**— Прадстаўце сваіх герояў чытачам "ЛіМа", калі ласка.**

— Пачнём, канечне, з Адэлі, бо інакш быць не можа. Адэля працуе на ферме "Каляроўка", працуе авечкай, таму што, у адрозненне ад людзей, жывёлы змушаны працаваць тым, кім яны нарадзіліся. З гэтага і пачынаецца наша кніга: Адэля распавядае мне, як ёй хочацца, акрамя таго, што яна працуе авечкай і вельмі старанна выконвае свае абавязкі (росціць шыкоўную воўначку, якой яна вельмі ганарыцца), прыкласці ўсе свае творчыя сілы, каб праславіцца. Адэля вельмі няўрымслівая, вельмі гламурная. Яна ўсё "вельмі". Козачка Малімонка працуе на той жа ферме, што і Адэля, працуе, вядома, козачкай, яна больш далікатная асоба і, як лічыць Адэля, зусім пазбаўлена славалюбства.

**— У прадмове да сваёй першай кнігі "Прыгоды маленькай Машынкі" вы прызналіся, што на тое, каб яе напісаць, вас натхнілі сыны. А адкуль узялося натхненне для авечкі Адэлі?**

— У маёй блізкай знаёмай ёсць мяккая цацка — авечка. Яна мае такі дуркаваты смешны выгляд: з аднаго боку безабаронная, а з другога — увесь свет гатова пад сябе падмяць (у добрым сэнсе: зведаць увесь свет, з усім светам пазнаёміцца). Гэты вобраз застаўся ў памяці, і я стала думаць пра авечку як пра жывую істоту, з якой магу размаўляць. Так пачала пісацца кніга, якая, нарэшце, атрымалася своеасаблівым дыялогам паміж мной і Адэляй. Мне хацелася напісаць вясёлую кніжку для дзяцей без яўнага маралізатарства.

**— Але ж прыхаваныя маральныя высновы ў прыгодах Адэлі, безумоўна, ёсць. Дык чаму ж вашыя героі могуць навучыць чытачоў?**

— Калі ты нечага хочаш, то для таго, каб гэтага дамагчыся, трэба штосьці зрабіць, а не сядзець і марыць: "я хачу!" і "калі ж яно да мяне прыйдзе?". У гэтым сэнсе ў Адэлі ёсць чаму павучыцца. Вось яна хоча стаць знакамітай: яна мяне раскатурхала, каб я пра яе кніжку напісала, яна ездзіць на выстаўкі, атрымлівае там першыя месцы. Яна нешта робіць для таго, каб дасягнуць сваёй мэты. Ну, а ў Малімонкі можна будзе павучыцца далікатнасці, уменню правільна будаваць сяброўскія адносіны.

Што датычыць сяброўства ў дачыненні да Адэлі, то гэта хутчэй прыклад таго, як не трэба рабіць, таму што ўсю ўвагу авечка засяроджвае на сабе. Але адразу зазначу, што яе ні ў якім разе нельга ўспрымаць як адмоўны персанаж. У мяне пытаюцца: як можна любіць такую Адэлю — яна ж усім назаляе, з ёй жа жыцця няма? Але ж сярод нашых блізкіх сустракаюцца тыя, хто нам назаляе, а мы іх за нешта любім. Трэба шукаць у людзях самыя лепшыя рысы і на гэтым будаваць свае адносіны. Вось чаму можа навучыць Адэля.

**— Адэля — прасунутая авечка: яна мае сваю электронную скрыню. Такая форма зносін з чытачом, калі ён можа напісаць электронны ліст улюбёнаму герою, новая для беларускай літаратуры. Якім чынам будуць развівацца гэтыя адносіны далей? Ці з'явіцца ў Адэлі свая старонка на Facebook, свой сайт?**

— Лісты ўжо пачалі прыходзіць, на самыя цікавыя з іх Адэля дае адказы. Адэля не проста чакае лістоў, яна правакуе сваіх чытачоў пісаць. Напрыклад, конкурсамі, якія абвяшчаюцца ў часопісе "Бярозка". Так што прыхільнікі могуць атрымаць ад Адэлі не толькі адказ, але і падарунак.

Задумкі наконт сайта ў мяне таксама ёсць. Гэта вельмі цікава, калі чытачы могуць звязацца са сваімі любімымі героямі, нешта ім расказаць, паведаміць пра сябе, штосьці запытаць у іх. Таму мне хочацца зрабіць Адэлі і сайт, і старонку. Я спадзяюся, што некаторыя чытацкія гісторыі абавязкова ўвойдуць у кнігу.

**— Вашая кніга — сямейнае чытанне, яна здольная зацікавіць і дарослых, і дзяцей, але ж чытачам якога ўзросту вы найперш яе адрасуеце?**

— Гадоў да 12-13 яна павінна быць цікавай. З якога ўзросту — цяжка сказаць, таму што дзеці развіваюцца па-рознаму. Для таго ўзросту, калі дзяўчаткі засяроджаны на сваіх першых адносінах з сяброўкамі, з сябрамі, сваіх першых "гламурных" выхадах… Мне здаецца, ім будзе цікава.

***На здымку: Наталля Бучынская з Адэляй і Малімонкай.***

---

# Штраф за ружы

## (Урывак з кнігі "Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй або Adeljastar@tut.by")

Наталля БУЧЫНСКАЯ

Да мяне ў кватэру пазванілі. Я адчыніла дзверы. На парозе стаялі Баранчык і Малімонка з Даліктусяй. Усе ўстрывожаныя, разгубленыя.

— Спадарыня Наталля, — наўзахваткі загаварылі яны, — Адэля знікла! Яе няма нідзе!

— Адэля пакінула на стале ў сваім загончыку цыдулку.

Баранчык працягнуў мне ружовую паперку з неахайным надпісам:

"Калі я вам не патрэбна, дык і я без вас абыдуся! Бывайце!"

Баранчык збянтэжана патлумачыў:

— Гэта мы вінаватыя… Не ўзялі яе з сабой на пікнік. Хацелі навучыць яе быць больш далікатнай у дачыненні да сяброў. Вось яна і пакрыўдзілася…

— А раптам што-небудзь здарылася? — не вытрымала і Даліктуся.

Якія толькі версіі не прыходзілі нам да галавы. Даліктуся была ўпэўнена, што на Адэлю напалі злачынцы. Баранчык бажыўся, што яе скралі гаспадары якой-небудзь фермы-канкурэнта. Малімонка была на мяжы нервовага зрыву: яна баялася, што з Адэляй здарылася нешта непапраўнае.

— Трэба тэлефанаваць у бальніцы, — я кінулася да тэлефона. Але званок мяне апярэдзіў.

— Пані Наталля? Вас турбуюць з міліцыі. Вы знаёмы з авечкай Адэляй з фермы "Каляроўка"?

Я расхвалявалася яшчэ больш:

— Так, але яна знікла! Я якраз збіралася яе шукаць! Вы ведаеце, дзе яна?

— Ведаем. Яна знаходзіцца ў міліцэйскім аддзяленні. Прыязджайце па сваю знаёмую. Не забудзьце ўзяць пашпарт.

У міліцыю мы прымчаліся таксоўкай усёй кампаніяй. Чамусьці ўсім нам уяўлялася, што Адэля ўжо сядзіць за кратамі і чакае нас як збаўлення…

Адэля сядзела ў мяккім крэсле насупраць дзяжурнага. Перад ёй стаяў слоік з букетам руж, кубачак з кавай і талерка з цестачкамі. Мы кінуліся да авечачкі з абдымкамі, але Адэля фыркнула і адвярнулася ў другі бок.

— Вы толькі гляньце, — звярнулася яна да дзяжурнага, — ледзь са свету не звялі бедную авечачку, а цяпер на шыю гатовы вешацца!

Напэўна, дзяжурнаму Адэля апавяла якую-небудзь вельмі шчымлівую гісторыю свайго жыцця, бо ён глядзеў на нас з дакорам.

Мы павіталіся, дзяжурны спытаўся імя і прозвішча кожнага з нас, пагартаў мой пашпарт і сурова пачаў:

— Скажыце мне, ці ж можна быць такімі абыякавымі ў дачыненні да сваіх блізкіх? Ваша непрымірымасць і абыякавасць ледзь не загубілі няшчасную Адэлю.

— Прабачце, — пачала я, — але мы хацелі б ведаць, што здарылася? Чаму Адэлька трапіла ў міліцыю? Яе хто-небудзь пакрыўдзіў?

— Яе ніхто, апрача вас, не крыўдзіў. І я не ўпэўнены, што варта вам яе аддаваць.

Высветлілася, што Адэля адчула сябе такой няшчаснай, што пайшла гуляць вуліцамі горада. Ёй вельмі хацелася, каб хто-небудзь пашкадаваў яе і паспачуваў. Але сярод паўсядзённай гарадской мітусні ніхто не звяртаў увагі на авечачку. Гэта давяло яе літаральна да роспачы. Адэля ўзлезла на клумбу, засаджаную прыгожымі пунсовымі ружамі, і пачала іх ламаць. Неўзабаве каля яе прыпынілася міліцэйская машына. Адэлю, як парушальніцу парадку, разам з букетам руж у якасці рэчавага доказу даставілі ў аддзяленне міліцыі. За хуліганства яе чакала даволі суровае пакаранне: тры дні грамадскакарысных працы, ліст на месца працы і штраф. Але, між намі кажучы, Адэля сваімі скаргамі на невыносныя ўмовы існавання так расчуліла дзяжурнага, што ён паабяцаў нічога не паведамляць гаспадарам і скасаваць ёй дні прымусовай працы. Заставалася вырашыць пытанне з аплатай штрафу. І тут Адэля ўзгадала пра мяне. Авечка дала нумар майго тэлефона дзяжурнаму, і вось я ўжо трымала ў руках квіток на аплату штрафу. А яшчэ я вымушана была напісаць заяву аб тым, што бяру Адэлю на парукі і абяцаю прыкласці ўсе намаганні, каб Адэля больш не парушала правілаў грамадскага жыцця. Калі з афіцыйнай часткай вызвалення Адэлі было скончана, яна з тэатральным пафасам звярнулася да дзяжурнага:

— Дзякую! Вы — мой выратавальнік! Не так часта ў нашым жыцці спаткаеш сапраўднае рыцарскае стаўленне да пакрыўджаных лёсам! — Адэля чароўна ўсміхнулася дзяжурнаму. — А ружы я забяру сабе, бо ўсё адно спадарыня Наталля за іх штраф заплаціла.

Адэля выплыла з пакоя дзяжурнага пераможцай. Мы паныла пацягнуліся за ёй. На вуліцы Адэля панюхала ружы і заплюшчыла вочкі:

— Ах, які прыемны пах!

І тут Баранчык з Малімонкай не вытрымалі:

— Адэля! Што ўсё гэта значыць? Мы турбаваліся, перажывалі, што з табой нешта здарылася!

— Ну вось яшчэ! — запратэставала Адэля. — Не такая я ўжо бездапаможная!

— А чаго цябе на клумбы панесла? Навошта было кветкі рваць?! Вунь які штраф спадарыня Наталля за цябе заплаціла! — далучылася да дакораў Даліктуся.

— Варта вам! Не трэба было мяне крыўдзіць! Я адмыслова ўсё ўчыніла так, каб вы раскаяліся. І памятайце, гаспадары не павінны ведаць пра сённяшняе здарэнне.

Нам проста мову заняло ад такога нахабства, а Адэля шырока ўсміхнулася і прыязна пагладзіла Малімонку з Даліктусяй па рожках:

— Скажу па шчырасці — я і сама ўжо засумавала без вас. Ды і страшнавата было. Не так гэта проста — быць парушальніцай! Давайце лепш мірыцца!

# Повод для хорошего настроения
















**Досуг… Это слово звучит по-разному. Кто-то мечтает о свободном времени, потому что спланировал множество интересных дел. А кто-то с ужасом ожидает это время, когда в гости придёт Её Величество Скука.**
**Оградить себя от нежеланного визита помогут книги издательства “Харвест”, представленные в этом выпуске, — энциклопедии для мальчиков и девочек, пособия по вязанию и вышивке лентами, приготовлению коктейлей, декупажу и т.д., и т.п. Книги вышли в серии “Издание для досуга” и имеют удобный формат — такое издание не займёт много места в сумочке.**
**Яркие, красочные, с пошаговыми инструкциями, книги подарят вам не один повод вспомнить о свободном времени с удовольствием.**

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,
Денис МАРТИНОВИЧ

### Подарок начинается… с упаковки

Книга **“Подарки. 100 лучших идей. Как упаковать и украсить. Бумага, ленты, фольга” Анны Мурзиной** как нельзя более кстати в серии “Издание для досуга”. Потому что одно из главных удовольствий в жизни — разворачивать упаковку, предвкушая, что под ней таится. Кстати, упаковка может многое рассказать о том, кому предназначен подарок, — мужчине, женщине классических вкусов или юным смелым экспериментаторам. “Умение преподнести подарок, — утверждает автор, — особое искусство. Это своего рода индикатор вашего отношения к человеку. И именно упаковка будет сигналом, что вы тщательно обдумали и приложили максимум усилий для оформления знака внимания”.

В иллюстрированном пособии приводится несколько вариантов упаковки подарков разной формы. Внимательно ознакомившись с советами специалиста в области этого нового направления, не побоимся сказать, декоративно-прикладного искусства, для начала устройте себе проверку. А именно: охарактеризуйте того, кому подарок предназначается (возраст, вкусовые пристрастия, профессиональные интересы). И — дерзайте!

А теперь о начинке правильно упакованного сюрприза. В том случае, когда у человека ну буквально всё есть, нечто эксклюзивное ручной работы прозвучит как нельзя более кстати.

Например, связанное. Среди книг по вязанию посоветуем **“Вязание. 500 волшебных узоров на любой вкус”** и **“Вязание крючком. Вязание на спицах. Лучшие образцы и узоры”** культового автора **Марии Балашовой**, а также **“Вязание крючком” Екатерины Капрановой.** Это универсальное руководство с пошаговым описанием основных приёмов вязания и техник выполнения ключевых элементов древнего, но не стареющего искусства. Основы вязания на шпильке, шапочки, игрушки и браслеты, схемы ажурных накидок и топов — чего только не предложит Екатерина Геннадьевна. Почитателям Марии Яковлевны это уже знакомо, им нужно совсем другое: образцы узоров и хитросплетения орнаментов. Схемы они отыщут в любом количестве.

Поделки из бисера могут служить и самостоятельным подарком, и частью упаковки, хранить которую будут годами. Книга **Натальи Ликсо “Цветы и игрушки из бисера”** представит различные техники низания и плетения “застывших слезинок моря, капелек росы и заблудившихся в ночи светлячков” — столько эпитетов получили бисеринки. Для создания цветов и деревьев из них необходимы всего три составляющие, предупреждает автор, — терпение, желание и наличие материалов. Инструментам и материалам в книге посвящена целая глава. Схем и вариантов сборки — предостаточно. Терпение — ваше собственное, измеряйте его количество сами, выбирайте схему и, пожалуйста, ваяйте. Хоть ветку ели, хоть глицинию, а хоть бы и денежное дерево. А пускай будет.

В серии “Издание для досуга” не обошли издатели вниманием и декупаж — увлекательный и вполне доступный вид искусства, так как занятие им не требует специального художественного образования. В отличие от батика декупаж нельзя назвать сильно затратным видом творчества, что немаловажно. Зато с его помощью преобразятся привычные глазу вещи: посуда, шкатулки, рамки для фотографий и другие предметы обихода. Книга **“Декупаж. Красивый декор своими руками”** расскажет об истории техники декупажа, которая ведёт отсчёт с XII века. Именно тогда восточные мастера стали создавать тонкую бумагу с изображением цветов, птиц, животных, людей и обклеивали ей отдельные фрагменты стен жилища, мебель, другие бытовые предметы. Покрытые несколькими слоями лака, рисунки создавали полную иллюзию художественной росписи. Имитация художественной росписи пользовалась спросом, ведь такие изделия стоили куда дешевле, а изготовлять их могли даже подмастерья, которые копировали работы известных художников. С мебели отделка декупажем перекочевала на шкатулки и другие мелкие предметы. Стали продаваться специально сделанные для декупажа рисунки. Впрочем, чтобы было понятней: когда наши бабушки брали картонную коробочку или вазочку, оклеивали её вырезанными из открыток цветами, а потом сверху покрывали прозрачной плёнкой (в ход шли смытые рентгеновские снимки) и скрепляли нитками, они тоже занимались декупажем. Современные полиграфические технологии и огромный выбор лаков и клеев открыл второе дыхание у этого вида рукоделия. В книге подробно рассказано о необходимом для этого увлечения: наборе бумажных салфеток, клее ПВА, лаках — акриловом, “Кракелюр” и прочих, плоских кисточках и ножницах, с помощью которых из открыток и иллюстрированных журналов вы добудете уникальную отделку.

Впрочем, “Карманная иллюстрированная библиотека” (а в неё входит ещё и книга **“Шёлковые ленты. Лучшие идеи вышивок”**), сама по себе послужит отличным подарком, который скрасит долгие вечера. Даже полистать яркие иллюстрированные издания и полюбоваться чудом, созданным руками, — уже повод для хорошего настроения.

### Реализация мечты

“Каждая маленькая девочка мечтает о большой любви…” Песенку с таким незамысловатым запевом крутили на каждой школьной дискотеке времён нашего детства. Слова практически забылись, мелодия ушла в прошлое, да и былой “хит” давно не в моде. Но вопрос-то остался. Итак, о чём же мечтают девочки и мальчики, девушки и юноши, взрослые женщины и мужчины?

Начнём, пожалуй, с прекрасной половины человечества. На субъективный взгляд мужчины, любая женщина мечтает как минимум о трёх вещах: выйти замуж, всегда вкусно накормить своего избранника и при этом не поправиться. Но как совместить несовместимое? Как заставить себя вместо ежедневных походов в рестораны и ночные клубы (каждый раз с новым молодым человеком) готовить самой? Как накормить эту голодную ораву, каждый день требующую блины и сырники, овсянку и манную кашу, и мясо, мясо, мясо! И как при этом сохранить свои 90—60—90, вызывающие зависть подруг и восхищённые взгляды мужчин?

Давайте разбираться не спеша. Первое, что понадобится любой уважающей себя девушке ещё в детстве, — это **“Энциклопедия для девочек”**. “Читая настоящее издание, — утверждают его авторы, — ты окунёшься в волшебство искусства, встретишься с мифическими героями, заглянешь в самые удивительные уголки Земли, узнаешь многое о различных вероисповеданиях и проследишь путь развития достижений человечества. Каждая страница энциклопедии подарит тебе знания, которые не раз пригодятся в жизни и помогут стать достойным собеседником”.

Книга прочитана. Теперь перед нами умная и оригинальная интеллектуалка. Следующий шаг — издание **“Девочки, книга для вас” Софьи Могилёвской**. После его прочтения любая из читательниц сможет правильно убрать комнату и вымыть кухню, а также правильно позаботиться о своём здоровье.

Самая обаятельная и привлекательная девушка, готовая сразить сердце любого мужчины, перед нами. Романтические встречи и прогулки под луной привели к желанию послушать марш Мендельсона. Вы и Ваш избранник теперь вместе. Но тут-то перед большинством женщин открывается горькая истина: “любовь приходит и уходит, а кушать хочется всегда”. Нормализовать любые отношения поможет издание **“100 лучших рецептов домашней кухни”**. Его основа — доступные продукты, несложные, но интересные рецепты. Книга предлагает рецепты лёгких закусок и салатов, первых блюд, настоящих кулинарных шедевров из мяса и рыбы и, конечно же, нежнейших десертов.

Настоящим гурманам мы рекомендуем книгу **“50 самых популярных коктейлей мира”**, написанную **Дарьей Ермакович**. Читатели узнают о вкуснейших и наиболее знаменитых коктейлях, а также о спиртных напитках, из которых они приготовлены. Познакомившись с изданием, практически каждый захочет изготовить коктейль сам. Приведённые рецепты с точным расчётом ингредиентов наверняка помогут в этом.

Еда едой, но прекрасная фигура — прежде всего. Сохранить её вам помогут **“Полный справочник калорийности продуктов”**, составленный **Анастасией Шепелевой**, и **“Счётчик калорий конкретных блюд” Елены Бойко**. В них упомянуты практически все продукты и блюда, которые пользуются популярностью как в Беларуси, так и за её пределами. Благодаря книгам калорийности вы сможете придерживаться здорового образа жизни, зная, сколько калорий содержится в том или ином продукте или блюде. Издания станут лучшим помощником для людей, следящих за своим здоровьем, красотой и весом.

Ах да, у нас ещё остаются мужчины. Любая уважающая себя женщина знает, что их мечты однотипны и не всегда интересны. Ведь они стремятся лишь много зарабатывать и при этом ничего не делать. Но ради справедливости скажем несколько слов и о них. Нашим путеводителем станет **“Энциклопедия для мальчиков”**. Её читатели окунутся в мир компьютерных технологий, заглянут в самые удивительные уголки Земли, узнают, из чего состоит воздух, которым мы дышим, что такое сайт, как празднуется Хеллоуин и кто первым побывал на Луне. В этом им помогут разделы “Природа вещей”, “Космос — безвоздушное пространство”, “В мире компьютерных технологий”, “Кино и телевидение”, “Континенты Земли”, “Теология — наука о Земле”, “Архитектура — наука строить”, “Назад в прошлое”, “Религия”, “Достижения человечества” и “Путешествуем по городам и странам”. Освоив их, любой подросток (в будущем мужчина) получит превосходное образование, а в перспективе — и высокую зарплату, благодаря которой сможет переложить все дела на подчинённых. Как поётся в одной из песен, “Стоит только захотеть, // Можно и звёзды, // Стоит только захотеть, // С неба собрать”.

Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 19.

## Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| ИП Чернин Б.И. | 210000, Витебск, ул. Кирова, 1-3 | 300126446 | 0494460 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 3, 4, 6 | 30.04.2014 |
| ИП Плешков Ф.И. | 210000, Витебск, пр. Строителей, 8/1-77 | 300253542 | 0494461 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 4, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ИП Байдак А.С. | 220050, Минск, ул. Революционная, 1/11-17 | 190314688 | 0133205 выд.30.04.2004 №94, ан.16.03.2009 г. № 31 | 4 | |
| УО «Гомельский государственный технический университет имени П.О. Сухого» | 246746, Гомель, пр. Октября, 48 | 400073500 | 0549424 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 3, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| УО «Гомельский государственный университет имени Ф. Скорины» | 246699, г. Гомель, ул. Советская, 104 | 400011099 | 0549481 выд. 30.04.2004 №94, прод.14.05.2009 №56 | 2, 3, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| УО «Витебский государственный ордена Дружбы народов медицинский университет» | 210023, Витебск, пр. Фрунзе, 27 | 300002704 | 0549444 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 4, 6, 8, 9 | 30.04.2014 |
| УП «Центр исследования институтов рынка», частное научное | 246010, г. Гомель, ул. Советская, 126 – 312 | 490317459 | 0494490 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 3, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| ООО «Асконто» | 220073, г. Минск, ул. Мележа, д. 5, комн. 502-1 | 100828403 | 0494271 выд.30.04.200 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 8 | 30.04.2014 |
| ОДО «Равноденствие» | 220004, Минск, ул. Освобождения, 9-14 | 190421632 | 0133212 выд.30.04.2004 №94 ан.11.06.08 г. | 2, 4, 6, 8 | |
| ОДО «Знамение» | 220114, г. Минск, пр. Независимости, 98, к. 102 | 100387638 | 0494379 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 3, 4, 6, 8, 9 | 30.04.2014 |
| НП ООО «Икселент» | 220005, Минск, пр. Ф. Скорины, 56, помещение на 1-м эт. корп. № 3 | 100181243 | 0133213 выд.30.04.2004 №94, ан. 11.10.2010 г. № 164 | 4, 8, 9 | |
| ЧУП «Центр научно-технических услуг «Развитие» | 246042, Гомель, ул. Исаченко, 38 | 400022893 | 0549495 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.06.2009 №67 | 2, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| ООО «Биринг» | 220002, Минск, ул. Коммунистическая,17-7 | 101238586 | 0131905 выд. 3.01.2007 №1, ан. 11.10.2010 г. №164 | 8, 9 | |
| ОДО «Тривиум» | 220018, Минск, Новаторская, 35 | 100154405 | 0494279 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 8, 9 | 30.04.2014 |
| ООО «Международный центр культуры книги» | 220004, Минск, пр. Машерова, 11, офис 920 | 100792841 | 0494495 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| Рекламно-информационное ЧУП «Артстайлер» | 220030, Минск, пр. Ф. Скорины, 11, корп. 2, этаж 3, к. 324 | 101237990 | 0133220 выд 30.04.2004 №94, прекрат. действ. | 8, 9 | |
| ООО «Панграф» | 220005, Минск, пр. Независимости, 58, к. 31А, к. 201 | 100844521 | 0494409 выд 30.04.2004 № 94, прод. 8.04.2009 № 39 | 4, 8, 9 | 29.04.2014 |
| У «Издательство «Адукацыя і выхаванне» | 220004, Минск, ул. Короля, 16-225 | 100626241 | 0133264 выд.30.04.2004 №94 | 2, 3, 6, 8, 10 | |
| Республиканское производственно-коммерческое УП «Белсудмедобеспечение» | 220015, Минск, 3-ий Короткий пер., 5-409 | 190125897 | 0133218 выд. 30.04.2004 №94, ан. 31.03.2008 г. № 3.4 | 2, 4, 8 | |
| РУП «Победа» | 222310, Молодечно, ул. Тавлая, 11 | 600074908 | 0494282 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 4, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ИП УП Коммунальное «Техническая книга» | 247210, Жлобин, ул. Урицкого, 62 | 400071669 | 0549420 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 4 | 30.04.2014 |
| Коммунальное УП «Пинская региональная типография» | 225710, Пинск, ул. Ленина, 42 | 200181648 | 0549414 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 4, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| УПП Гродненское областное «Лидская типография» | 231300, Лида, ул. Ленинская, 23 | 500012142 | 0552924 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 8, 9 | 30.04.2014 |
| ОДО «Барк» | 246050, Гомель, пр. Ленина, 3-312а | 400084989 | 0133226 выд. 30.04.2004 №94, ан.11.10.2010 г. № 164 | 3, 8, 9, 10 | |
| Религиозная организация «Братство в честь Святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви» | 220020, Минск, пр. Машерова, 82 | 100992365 | 0150224 выд.30.04.2004 №94, ан.16.03.2009 г. № 31 | 3, 12 | |
| ОДО «Центр народной медицины «Сантана» | 220040, Минск, ул. Некрасова, 22-2 | 100143874 | 0133230 выд.30.04.2004 №94,ан. 16.03.2009 г. № 31 | 2, 3 | |
| УПП Гродненское областное «Гродненская типография» | 230019, Гродно, ул. Полиграфистов, 2 | 500013667 | 0552822 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ГУ «Республиканский центр гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья» | 220099, Минск, ул. Казинца, 50 | 100468797 | 0549478 выд.30.04.2004 №94, прод. 14.05.2009 №56 | 4 | 30.04.2014 |
| ГНУ «Научно-исследовательский институт Министерства экономики Республики Беларусь» | 220086, Минск, ул. Славинского, 1, корп. 1 | 100289117 | 0549413 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 4, 8 | 30.04.2014 |
| ОДО «Юнимедиа» | 220113, Минск, ул. Мележа, 3-310 | 101157110 | 0494423 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 4, 8 | 30.04.2014 |
| ООО «Полипринт» | 220038, Минск, ул. Ботаническая, 5А-2П | 100180474 | 0630749 выд.29.06.2004 №116, прод. 16.06.2009 №67 | 3, 4, 8, 9, 10 | 29.06.2014 |
| «Технология», научно-производственный кооператив | 220007, Минск, ул. Левкова, 19-19а | 100008965 | 0133466 ан.11.10.2010 № 164 | 2, 3, 4, 6, 8, 10 | |
| ЗАО «НПП Регула» | 220036, Минск, ул. Волоха, 1-316 | 190133299 | 0549416 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 4, 8 | 30.04.2014 |
| ЗАО «Пропилеи» | 220013, г. Минск, ул. Восточная, 32-1-1 | 100707040 | 0150331 ан.11.10.2010 № 164 | 2, 3, 8, 10 | |
| УО «Европейский гуманитарный университет» | 220030, Минск, пр. Ф.Скорины, 24-301 | 190153820 | 0133245 ан. 24.06. 2005 № 95 | 2, 6, 8, 11 | |
| ООО «Ковчег» | 220072, Минск, пр. Ф. Скорины, 68-19 | 100022376 | 0133239 ан. 11.10.2010 № 164 | 2, 8, 10 | |
| ООО «Онигс» | 223044, Минский район, д. Касынь | 190323696 | 0133241 ан. 11.10.2010 № 164 | 8 | |
| ИЧУП «ВЭВЭР» | 220102, Минск, ул. Одинцова, 53-84 | 100003777 | 0549480 выд.30.04.2004 №94, прод.14.05.2009 №56 | 2, 3, 10 | 30.04.2014 |
| ГНУ «Институт аграрной экономики Национальной академии наук Беларуси» | 220108, Минск, ул. Казинца, 103-211 | 100571016 | 0133243 ан.10.05.2006 №72 | 2, 3, 4, 8 | |
| РУП «БЕЛГЕО», научно-исследовательское геологическое | 220141, Минск, ул. Купревича, 10 | 100217670 | 0150308 ан. 11.10.2010 № 164 | 2, 4, 8 | |
| УО «Академия последипломного образования» | 220040, Минск, ул. Некрасова, 20 | 100377863 | 0494403 выд. 30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 2, 3, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| ГУ «Белорусский институт системного анализа и информационного обеспечения научно-технической сферы» | 220004, Минск, пр. Машерова, 7 | 101179888 | 0549464 выд.30.04.2004 №94, прод. 22.04.2009 №6.6 | 2, 3, 4, 8 | 30.04.2014 |
| У «Минский НИИ социально-экономических и политических проблем» | 220050, Минск, пр.Ф.Скорины, 8 | 100581934 | 0494373 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | 2,4,8 | 30.04.2014 |
| ИП Карандышев Ю.Н. | 220077, Минск, пр.Голодеда, 7-1-111 | 101243070 | 0133251 выд.30.04.2004 №94 | 3 | |
| ИП Сапожков Ю.М. | 220035, Минск, пр. Машерова, 53-1-315 | 100551913 | 0133252 выд.30.04.2004 №94 | 3,4,8,10 | |
| Научно-техническое РУП «Компьютерный центр» | 220039, Минск, ул.Чкалова,14 | 100026514 | 0133247 выд.30.04.2004 №94, ан.02.09.2005 №128 | 4,8 | |




**18 мая адзначаўся Міжнародны дзень музеяў. Як вядома, гэтае прафесійнае свята з'явілася ў календары з 1978 года дзякуючы ініцыятыве савецкай дэлегацыі на 11-й генеральнай канферэнцыі Міжнароднага савета музеяў. Традыцыя супрацоўнікаў музейнай галіны святкаваць дзень 18 мая разам з шырокай публікай, гасцінна расчыняючы дзверы экспазіцыйных залаў для бясплатнага наведвання, прыжылася ў больш як паўсотні краін. А на аснове гэтай традыцыі пры канцы мінулага стагоддзя ў Луўры нарадзілася яшчэ адна: напярэдадні Міжнароднага дня музеяў ладзіць для іх наведвальнікаў усяночную імпрэзу. Беларусь далучылася да штогадовай еўрапейскай акцыі "Ноч музеяў" у 2005 годзе.**

# Бяссонне па-музейнаму

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

Адмысловыя выстаўкі; яркія, часам эпатажныя імпрэзы; арыгінальная канцэптуальная дамінанта-падзея ў цэнтры агульнага сцэнарыя свята, што разгортваецца ў музеях да поўначы, а то і да надыходу наступнай раніцы, — магчымасць прывабіць нават выпадковых мінакоў, прыцягнуць увагу самых розных людзей да музейных каштоўнасцей, выклікаць цікавасць неабазнаных гледачоў да нашай агульнай культурнай і гістарычнай спадчыны, раскрыць значэнне музеяў для кожнага сучасніка ды іх ролю ў жыцці грамадства... Сёлета беларускія музейшчыкі скарысталіся гэтай магчымасцю 14 мая. Так што ў мінулую суботу непаўторная крэатыўная ноч ахапіла і самыя буйныя айчынныя музеі — нацыянальныя, дзяржаўныя (а такіх у нашай краіне больш як паўтары сотні), і рэгіянальныя. Паводле інфармацыі Міністэрства культуры Беларусі, да міжнароднай акцыі "Ноч музеяў" спрычынілася больш як 60 музеяў краіны.

"Ад станцыі да горада" — імпрэзу, прысвечаную 140-годдзю Баранавічаў, наладзілі ў мясцовым краязнаўчым музеі. Мотальскі музей народнай творчасці запрасіў гасцей на вячоркі "Хата абрадамі багата", падчас якіх згадваліся традыцыі народных вясновых святаў. Акцыя "У шляхціца Грабоўскага" ды касцюміраваная экскурсія "Вандроўка ў Сярэднявечча" пазнаёмілі наведвальнікаў Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея з адметнасцямі ды рэліквіямі шляхецкай сядзібы XIX стагоддзя, з бальным этыкетам і старонкамі гісторыі моды. Скарбонку сваіх фондаў прачыніў Калінкавіцкі краязнаўчы музей, арганізаваўшы мерапрыемствы да 20-годдзя гэтай установы. У Германавіцкім музеі культуры і побыту імя Я. Драздовіча разгарнулася выстаўка "Святыні Беларусі". Тэатралізаваную імпрэзу "Партызанскі касцёр" падрыхтавалі супрацоўнікі Віцебскага абласнога музея Героя Савецкага Саюза М. Ф. Шмырова. Сваімі праектамі парадавалі і месцічаў, і турыстаў нацыянальныя гісторыка-культурныя музеі-запаведнікі ў Нясвіжы і ў Полацку...

А што ж адбывалася ў сталіцы?

Сюрпрызы "музейнай ночы" спакваля рассакрэчваліся тут ужо днём. У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ці не на тры гадзіны разгарнуўся заключны канцэрт II фестывалю юных талентаў "Сымонкавы нашчадкі", дзе выступілі лепшыя выхаванцы музычных школ Мінска. А гэта — больш як 20 калектываў, каля 200 прадстаўнікоў 17 навучальных устаноў! Прайшлі прэзентацыі выставачных праектаў, патрыятычная акцыя "Званы Вялікай Перамогі", літаратурныя чытанні. Дождж, які завітаў у Мінск, лічы, на цэлыя суткі, не замінаў і мастацкаму пленэру з удзелам студэнтаў БДПУ імя М. Танка. Праўда, творцы мусілі маляваць свае фантазіі на тэму "Блакіт незабудак", працуючы ў пакоях Коласавага дома. Як патлумачыла дырэктар музея Зінаіда Камароўская, пленэр атрымаў сваю паэтычную назву невыпадкова: "Калі памерла яго жонка, Якуб Колас у памяць пра яе пасадзіў на сваёй мінскай сядзібе гэтыя кветкі, якія імкліва разрасліся. Кожны год яны шчодра цвітуць, і традыцыйна менавіта ў такі майскі час сядзіба песняра набывае казачнае аблічча ад блакітнага мора іх квецені. Магчымасць палюбавацца на Коласавы незабудкі, можна сказаць, адметная традыцыя нашага музея".

Тут адбылася і каларытная імпрэза "Сяброўства вузы кроўныя" з удзелам армянскага і татара-башкірскага фальклорных ансамбляў, з прэзентацыяй нацыянальных сувеніраў, з пачастункам нацыянальнымі прысмакамі. З аншлагам прайшоў вечаровы дабрачынны канцэрт ансамбля "Камерныя салісты Мінска" пад кіраўніцтвам Д. Зубава "Шэдэўры еўрапейскага барока". Сродкі ад канцэрта будуць накіраваныя на ўсталяванне ў сядзібе песняра скульптурнай кампазіцыі А. Заспіцкага "Якуб Колас. Роздум".

Аднак дождж усё ж такі ўмяшаўся ў планы музея: "Ноч стыляг" на адкрытай рэтра-танцпляцоўцы "а ля 1950-я" давялося замяніць сустрэчай у музейнай зале.

Што ні музей — то свой выбітны праект. Напрыклад, у Мемарыяльным музеі-майстэрні З. І. Азгура "начная акцыя" пачалася з 22 гадзін 14 мая і працягвалася да 6.30 новага дня. Пад гучным дэвізам "Мастацтва замест сну" тут адбываліся разнажанравыя імпрэзы, паяднаныя тэмай "Мастацтва Афрыкі. Рытмы і рытуалы". Нацыянальны гістарычны музей наладзіў тэатралізаванае свята "Музейная ноч, якая ажыла", падчас якога "ажывалі" жывапісныя партрэты, напісаныя Андрэем Смаляком з вядомых асоб; экспанаваліся фондавыя ўнікаты; ладзіліся вясёлыя конкурсы. У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі ўладарыла "Вечная магія музыкі" — канцэрт сусветнай вакальнай класікі. Як і год, і два таму, сотні людзей узялі ў аблогу Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Тут дамінаваў праект "Прастора жанчыны", а ў яго межах, сярод іншага, была прадстаўлена творчасць Сержука Цімохава — персанальная выстаўка мастака "Чары ночы".

> *Карані самога паняцця "музей" — у грэчаскім слове "museion", што значыць "храм муз". Хаця статус кво сённяшніх музеяў даўно ўжо не стасуецца з артадаксальнымі ўяўленнямі пра антычныя традыцыі. Прыродазнаўчыя і этнаграфічныя, ваенна-гістарычныя і мастацкія, археалагічныя і літаратурныя. Навукова-асветніцкія, даследчыя і вучэбныя. Нацыянальныя, грамадскія, прыватныя...*





Зусім нечакана падышоў да музейнай акцыі Дом прыроды, што ў Траецкім прадмесці. У абноўленай пасля рамонту выставачнай зале ўпершыню размясцілі... мастацкую выстаўку! "Дымкі" (з націскам на першым складзе, гэтак завецца традыцыйны беларускі арнамент ткацтва "ў шашачкі") — так назвалі яе арганізатары: Саюз пісьменнікаў Беларусі, Беларускі фонд культуры ды рэдакцыя часопіса "Вясёлка" — і прысвяцілі 100-годдзю з дня нараджэння Васіля Віткі. Экспазіцыя знаёміць з дзівасветам творчасці зямлячкі нашага цудоўнага дзіцячага пісьменніка — слуцкай мастачкі Алены Хатэнкі.

Цішыню Купалаўскага парку парушаў хіба толькі шум дажджу ды перастук абцасаў на сцяжынках, што вядуць да прыкметнага дома. А вось у самім гэтым доме — Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы гучалі скрыпкі, цымбалы, саксафон ды фартэпіяна. Захапляльны фестываль беларускай, не зусім беларускай і зусім не беларускай рэкламы прывабіў сюды і сталых мінчукоў, і шматлікую студэнцкую моладзь, і сямейныя пары з дзецьмі...

Дождж набліжае прыцемкі. Дождж наганяе дрымоту. І хоць змяркалася ў той дзень раней, многім было не да сну! Наша сяброўская кампанія ўжо кіравалася дахаты, зразумеўшы, што і ў майскую ноч, напоўненую прахалодай дажджу, бэзавай свежасцю, разнаквеццем прыгожых і значных падзей, — што і ў такую чарадзейную ноч нельга ахапіць неабдымнае. Чародкі моладзі шпацыравалі па праспекце, і нам даводзілася раз-пораз адказваць на пытанне: "Як патрапіць у музей Янкі Купалы?"

***На здымках: так выглядала рэклама ў газетах 1904 года; Сяржук Цімохаў "Грацыя 7" (з серыі "Чары ночы"); Алена Хатэнка "Што там?".***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

З 19 па 22 мая ў Арменіі праходзяць Дні культуры нашай краіны. У праграме — выступленні Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь, вакальнай групы "Чысты голас" і акардэаніста-віртуоза Ігара Квашэвіча. Як паведамілі з Міністэрства культуры Беларусі, падчас Дзён адбудуцца майстар-класы беларускіх майстроў народнай творчасці ды выстаўка-кірмаш іх вырабаў (ганчарства, выцінанка, ткацтва, саломапляценне). Армянскія гледачы змогуць падзівіцца на "Ювелірыку" — экспазіцыю ўзораў эмальернага мастацтва, сярод якіх і адмысловыя карціны, і жаночыя ўпрыгажэнні. У кінапраграме прадстаўлены работы Беларускага відэацэнтра, мастацкія, дакументальныя і анімацыйныя стужкі вытворчасці Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", у тым ліку "Ваўкі", "Масакра", "Настасся Слуцкая", а таксама сумесны беларуска-расійскі праект "Брэсцкая крэпасць".

На час адкрыцця тэатральнага сезона 2011— 2012 гадоў запланаваны заключны конкурсны этап Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Пры канцы верасня пройдзе конкурсны тыдзень: на вядучых тэатральных пляцоўках Мінска будуць паказаны спектаклі-намінанты. Пераможцы вызначацца ў наступных намінацыях: "Лепшы спектакль", "Лепшая рэжысёрская работа", "Лепшая мужчынская роля", "Лепшая жаночая роля", "Лепшая работа мастака-пастаноўшчыка", "Лепшае музычнае афармленне спектакля", "Лепшая сучасная беларуская пастаноўка". Нацыянальная тэатральная прэмія заснаваная Міністэрствам культуры Беларусь сумесна з Беларускім саюзам тэатральных дзеячаў, Беларускім саюзам кампазітараў і Беларускім саюзам літаратурна-мастацкіх крытыкаў — з мэтай падтрымкі айчыннага тэатральнага мастацтва і заахвочвання тэатральных дзеячаў, што паказалі найбольш яркія вынікі сваёй творчай працы на працягу 2009 — 2010 гадоў.

Прэм'ера спектакля "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" папоўніла рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Пастаноўка ажыццёўлена паводле п'ес княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл, якая лічыцца заснавальніцай прафесійнага тэатра ў Беларусі. Сцэнічная адаптацыя здзейснена С. Кавалёвым, рэжысёр — М. Пінігін. Над спектаклем, які складаецца з трох частак (балет "Дасціпнае каханне", опера "Выкраданне Еўропы", камедыя "Распуснікі ў пастцы") і ўяўляе сабой спробу рэканструкцыі святочнага вечара ў Нясвіжскім замку, працавалі таксама кампазітар А. Зубрыч, мастак-пастаноўшчык В. Мацкевіч, балетмайстар Н. Фурман. Сярод удзельнікаў імпрэзы — вядомыя акцёры В. Манаеў, Г. Маляўскі, А. Падабед, С. Журавель, прафесійны артыст балета А. Фурман, студэнты Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа.



***На здымку: сцэна са спектакля "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл".***

# Спяваюць хлапчукі



Анатоль ВАРЛАХІН, сустаршыня Асацыяцыі кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў Беларускага саюза музычных дзеячаў,
Алена АБРАМОВІЧ

**"І мы цяпер з душой светла, радасна пяём". Гэтыя праніклівыя словы беларускага канта звяртаю першаму Рэспубліканскаму фестывалю хароў хлопчыкаў і юнакоў з пажаданнем векавых гадоў гучання і квітнення». Такой тэлеграмай вітаў удзельнікаў гэтага мерапрыемства заслужаны артыст Расіі, пачынальнік харавога руху хлопчыкаў у Беларусі Ігар Жураўленка. Адбыўся першы Рэспубліканскі фестываль хароў хлопчыкаў і юнакоў у цяжкія для краіны дні, звязаныя з трагічнымі падзеямі ў Мінскім метро. І адбыўся ўжо не як свята дзіцячага мастацтва, а як грамадзянская, патрыятычная акцыя ў падтрымку палітыкі нашай дзяржавы. Выступілі больш як 500 удзельнікаў 22 калектываў краіны.**

Пачаткам фестывалю стаўся вечар у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, калі ў выкананні "Рэквіема" В. А. Моцарта ўзяла ўдзел Капэла хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам У. Глушакова. Наступны дзень быў прымеркаваны да 100-гадовага юбілею адной з найпрыгажэйшых святыняў Мінска — касцёла святога Сымона і святой Алены. Як і выкананне "Рэквіема", праграма прысвячалася памяці загінуўшых у Мінскім метро.

Адкрыла праграму адна з аўтараў гэтых радкоў А. Абрамовіч — кіраўнік хору хлопчыкаў і юнакоў "Сымонкі" касцёла св. Сымона і св. Алены. Пад яе кіраўніцтвам выступіў зводны хор хлопчыкаў сталічнай ДМШ №19 і юнаковай групы хору "Сымонкі" ў суправаджэнні Неапалітанскага ансамбля ДМШ №19. Яны выканалі чатыры творы, розныя па характары і гучанні. Сярод іх найбольш уразілі "Ave Maria" Дж. Качыні і прэм'ера аўтарскай песні кіраўніка хору А. Абрамовіч "Беларусь мая". Вельмі прыгожа зліліся дзіцячыя і юнацкія галасы ў патрыятычнай песні, якая не толькі задала асаблівы жыццесцвярджальны тон гэтаму канцэрту, але надала ўпэўненасці ўсім слухачам і ўдзельнікам у добрай, спакойнай, мірнай і, абавязкова, шчаслівай будучыні.

Затым выступіў хор хлопчыкаў "Галасы сяброў", кіраўніком якога з'яўляецца А. Драбышэўскі. У выкананні гэтага калектыву асабліва натхнёна прагучала песня "Вечны горад" (музыка А. Чыркуна, словы І. Цітаўца).

Хор хлопчыкаў і юнакоў СШ № 133 "Салоўка" пад кіраўніцтвам А. Кунцэвіча таксама выканаў песні на патрыятычную тэматыку. Адзін з твораў "Жди меня" (музыка К. Малчанава, словы К. Сіманава) хор прысвяціў усім пацярпелым ад тэракта ў Мінскім метро.

Ярка гучалі галасы хароў хлопчыкаў і юнакоў "Красавік" СШ №13 г. Мінска (кір. Т. Сільчанка) і "Вясёлы вецер" сталічнай ДМШ № 9 (кір. Г. Гардзіенка). У выкананні апошняга сярод твораў, разнастайных па стылях і эпохах, цеплынёй і пранікнёнасцю выканання вылучылася песня сучаснага беларускага кампазітара Г. Казловай "Беларусь — імя святое".

Узорны хор "Пеўнікі" гарадскога Дома культуры Брэста ўразіў слухачоў асаблівай прыгажосцю выканання. Адкрыў іх выступленне саліст, дыпламант Рэспубліканскага конкурсу вакалістаў Дзмітрый Шчалкуноў, які мае вельмі рэдкі голас: контр-тэнар. Кіраўнік хору А. Нярода сказаў, што такіх хлопчыкаў у свеце толькі тры, і адзін з іх пяе ў гэтым цудоўным высокапрафесійным калектыве.

Завяршаўся фестывальны дзень выступленнем эстонскага хору Пярнускага Дома мастацтваў пад кіраўніцтвам Марыкі Пярк і Эвелін Мэй. Вельмі ўразілі прафесіяналізм і асаблівая манера выканання гасцей з Эстоніі, уласцівая менавіта прыбалтыйскім харам і пазнавальная амаль з першых гукаў. Нам рэдка выпадае такая цудоўная магчымасць паслухаць прадстаўнікоў іншай вакальна-харавой школы. Гэта было не толькі цікава, але і захапляльна, прыгожа, пазнаваўча і высокапрафесійна.

Кожнае выступленне ўдзельнікаў канцэрта ўдзячна і бурнымі апладысментамі прымалася гледачамі, сярод якіх было шмат бацькоў, сяброў, знаёмых і проста прыхільнікаў харавога выканальніцтва хлопчыкаў. Канцэрт прайшоў у вельмі цёплай прыемнай атмасферы сапраўднага свята. Пасля заканчэння дзякуючы клапатлівасці гаспадара гэтага цудоўнага храма, ксяндза-магістра У. Завальнюка, для ўсіх удзельнікаў быў арганізаваны салодкі стол.

Цэнтральнай падзеяй фестывалю стаў канцэрт хароў хлопчыкаў і юнакоў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. З прывітаннем да ўдзельнікаў звярнулася першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Н. Вітчанка. Прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчання памяць трагічна загінуўшых на станцыі метро "Кастрычніцкая", а Капэла хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ выканала «Lacrimosa» з "Рэквіема" В. А. Моцарта. А ў канцэртнай праграме калектываў была абавязковая ўмова: выкананне твораў беларускага аўтара або апрацоўкі беларускай народнай песні і выкананне твораў a'capella.

Адкрыў канцэрт хор хлопчыкаў ДМШ г. Слуцка (кір. Г. Бруй), а працягвалі яго Узорны хор хлопчыкаў "Зубраня" СШ № 8 г. Слоніма (кір. М. Валадковіч), хор хлопчыкаў ДШМ № 1 г. Магілёва (кір. А. Чайкоўская), хор хлопчыкаў "Пеўнікі" ДШМ г. Маладзечна (кір. В. Бялько), вакальны ансамбль хлопчыкаў і юнакоў, а таксама Узорны хор хлопчыкаў і юнакоў ДШМ г. Светлагорска (кір. абодвух калектываў Г. Ур'еўская-Еўсюкова) і Узорны хор хлопчыкаў "Пеўнікі" ГДК г. Брэста (кір. А. Нярода).

Уражлівым фіналам сталася выступленне Канцэртнага хору хлопчыкаў і юнакоў Беларускага саюза музычных дзеячаў (кір. А. Варлахін), у склад якога ўвайшлі лепшыя спевакі з харавых ансамбляў хлопчыкаў "Солерс" ДМШ № 8 (кір. Л. Папова) і "Элідэл" СШ № 183 (кір. Л. Буракова), хору хлопчыкаў і юнакоў "Каравела" МДПДМ (кір. А. Варлахін), "Суворaўская хору" МВСВ (кір. Л. Канстанцінава), узорных хароў хлопчыкаў і юнакоў ДШМ г. Светлагорска і ГДК г. Брэста. Хор з 300 спевакоў выканаў "Крылатую песню" Л. Захлеўнага, спецыяльна напісаную для фестывалю (дырыжор А. Нярода), "Мальчишки" А. Астроўскага (дыр. Г. Ур'еўская-Еўсюкова), "Многолетие Патриаршее" (дыр. Л. Папова) і "Беларусь мая" Г. Струвэ (дыр. Анатоль Варлахін). Лагічнай кропкай у канцэрце з'явілася выкананне Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам дэкана вакальна-харавога факультэта БДАМ прафесара В. Аўраменкі.

У апошні фестывальны дзень, які прайшоў у Малой зале імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі, выступілі хор хлопчыкаў і юнакоў Беларускага Экзархата (кір. Т. Міронава), малодшы хор хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ (кір. Ю. Казакевіч), харавыя ансамблі хлопчыкаў "Элідэл" і "Солерс", хор хлопчыкаў і юнакоў «Каравела», Узорны хор хлопчыкаў і юнакоў "Ветразь" ДМШ № 2. Упрыгажэннем апошняга дня фестывалю зноў стала выступленне Дзмітрыя Шчалкунова, які пранікнёна выканаў "Ave Maria" Дж. Качыні. А на завяршэнне фестывалю спяваў Канцэртны хор хлопчыкаў і юнакоў Беларускага саюза музычных дзеячаў.

Увогуле фестываль прадэманстраваў вялікі прагрэс у колькасным і якасным выканальніцкім росце хароў хлопчыкаў у краіне, гарачае жаданне кіраўнікоў калектываў павышаць творчы ўзровень. Трэба адзначыць вялікую арганізатарскую працу ініцыятара фестывалю — артдырэктара прадзюсарскага цэнтра "Класіка" БСМД В. Уколава. Ды разам з тым фестываль зноў выявіў тыя праблемы, якія былі ўзнятыя ў рэзалюцыі ўдзельнікаў сёлетняга семінара-практыкума, праведзенага ў Мінску прафесарам Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных Уладзімірам Семенюком:

- *засілле масавай пап-культуры, якое выяўляецца ў пераймання хлопчыкамі невысокіх узораў эстрадных выканаўцаў;*
- *нівеліраванне выхаваўчай ролі класічнай музыкі;*
- *адсутнасць мэтанакіраванай праграмы развіцця харавой культуры ў краіне;*
- *скасаванне колькасці навучальных гадзін на хоры ў музычных і агульнаадукацыйных школах, праз што знішчаецца харавы рух, які быў закладзены ў 60—70-х гадах мінулага стагоддзя.*

Маем надзею на лепшае і будзем рыхтавацца да наступнага Рэспубліканскага фестывалю хароў хлопчыкаў і юнакоў.

***На здымку: зводны калектыў удзельнікаў фестывалю.***

# «Лілея» заўсёды сучасная

Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН

Ансамбль цымбалістаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі "Лілея" адзначыў сваё 45-годдзе яскравым канцэртным выступленнем у Вялікай зале сталічнай філармоніі. Шматлікія прыхільнікі калектыву, аматары і прафесіяналы, знаўцы цымбальнага выканальніцкага мастацтва атрымалі цудоўную магчымасць зноўку ацаніць нязменна высокі прафесійны ўзровень выканаўцаў, пачуць улюбёныя творы і пазнаёміцца з новай музыкай беларускіх кампазітараў. Дарэчы, большую частку рэпертуару ансамбля складаюць менавіта творы айчынных аўтараў, якія пішуць спецыяльна для "Лілеі".

У канцэрце прагучалі п'есы "Туканне гор" і "Майстар-клас" навапалацкага кампазітара В. Малых, "Добры вечар" і "Смешная музыка" В. Кузняцова, "Стары гадзіннік", "Галоп" і "Сеанс адначасовай гульні" У. Кур'яна, Паэма для ансамбля цымбалаў, скрыпкі і камп'ютарнай фанаграмы "Беларусь — мая Атлантыда" В. Войціка, "Вяртанне да спадчыны" В. Іванова, "Quo vadis" У. Каральчука.

Дзякуючы такой свядомай скіраванасці выканальніцкай практыкі "Лілея" заўсёды сучасная, адкрытая для навацый. Але ж тут годна захоўваюць і развіваюць традыцыі. Таму ў юбілейным канцэрце ансамбля невыпадкова прагучала "Беларуская мелодыя" Іосіфа Жыновіча — заснавальніка прафесійнага цымбальнага выканальніцтва ў Беларусі, вучнем якога быў Яўген Гладкоў. Менавіта Жыновіч даў пуцёўку ў жыццё студэнцкаму ансамблю цымбалістаў, які складаўся на той час толькі з пяці чалавек, даверыўшы яго кіраўніцтва свайму вучню, нядаўняму выпускніку кансерваторыі. Вядомы цымбаліст, народны артыст Беларусі, прафесар, загадчык кафедры струнных народных шчыпкова-ўдарных інструментаў БДАМ, член прэзідыума праўлення БСМД Яўген Гладкоў кажа: "Мне вельмі хацелася, каб на сцэне ў юбілейным канцэрце панавала "Лілея", бо раней традыцыйнай формай былі выступленні нашага ансамбля і салістаў-цымбалістаў, 50 на 50. Хацелася паказаць тое, што напрацавана за 45 гадоў: багаты і разнапланавы рэпертуар, разнастайныя выканальніцкія магчымасці, узровень выканаўцаў".

## Нашы юбіляры



**Ларыса Фёдараўна МУРАШКА** — кампазітар, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, намеснік старшыні Рэвізійнай камісіі Беларускага саюза музычных дзеячаў.



**Мікалай Канстанцінавіч ЛІТВІН** — кампазітар, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.



**Ларыса Леанідаўна ДЗЯДУК** — дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.



**Вольга Паўлаўна БЯЛЬКО** — настаўнік Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: *(017) 222-37-33 — працоўны;*
*(029) 507-55-05 — МТС;*
*(029) 699-32-00 — Velcom.*

# Той народ жыве, які свае песні мае

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

**Ці слухалі вы, як спявае "Церніца"?**
**Ці бачылі вы, як танцуе "Церніца"?**
**Ці чулі вы, як яе сустракае і праводзіць удзячная публіка?**

Не? Але ж як шмат вы страцілі! Упэўнены, калі б пабывалі хоць на адным канцэрце — вас зачаравалі б звонкія, пранікнёна-светлыя галасы Ганны Глыбоўскай і Марыі Анкуды, Кацярыны Мядзведзевай і Вікторыі Еднацэвіч… Вы былі б у захапленні ад палымяных, іскрамётных танцаў, віртуознай ігры музыкаў. Іх яркіх, адмысловых касцюмаў. А калі б да сталых артыстаў далучыўся ўзорны дзіцячы ансамбль "Цернічка", на сцэне — прыгажосць, радасць, надзея... Цуд, ды і толькі!

Больш як чвэрць стагоддзя радуе гледачоў сваім майстэрствам заслужаны аматарскі калектыў Беларусі ансамбль беларускай песні "Церніца" Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў. Лаўрэат II ступені рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў "Зорка ўзышла над Беларуссю" (2010 г.). Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за значныя творчыя дасягненні і актыўную канцэртную дзейнасць у 2010 годзе.

Гэты суладна творчы калектыў даўно варты тэлевізійнай узнагароды. Мяркуйце самі: толькі летась ён даў 76 канцэртаў! Усе прайшлі з аншлагам. І не толькі ў Беларусі. Германія, Польшча, Кітай, Паўднёвая Карэя, Расія, Малдова — далёка не поўны пералік краін, праз якія пралягалі песенныя маршруты "Церніцы". Яна ўдзельнічала ў міжнародных фестывалях народнай творчасці "Садружнасць", "Сонца свецішь усім", "Дняпро — рака дружбы", "Апельсінавы рай" і многіх іншых, якія праходзілі ў гарадах Расіі, Прыбалтыкі, а таксама ў Італіі, Ізраілі, Германіі, Аўстрыі, і адусюль ансамбль вяртаўся з высокімі ўзнагародамі.

За 26 гадоў існавання ён неаднаразова здзіўляў гледачоў усё новымі пераўтварэннямі: стылёвай палітрай, пластыкай, тэатральнымі элементамі. Літаральна з першых дзён ансамбль імкнуўся да аўтэнтычных спеваў. Ён увогуле ніколі не прытрымліваўся наіўна-святочнай патэтыкі лубка, якая яшчэ ўласцівая некаторым фальклорным гуртам.



Рэпертуар "Церніцы" — бязмежны: беларускія песні, танцы, музыка, абрады, вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі… Музыкі іграюць на ліры, дудзе, цымбалах, жалейцы, дудачцы, скрыпцы, баяне, бубне… І кожная рэч у іх выкананні — выключная музыкальнасць, высокае майстэрства, нектар беларускай душы, які сабраны ў працы, пакутах і радасці. Вось гучыць "Зямля маёй матулі" (муз. У. Будніка, сл. М. Траццякова) і, здаецца, сцены залы расступаюцца. Зазвінелі птушыныя галасы, і звонкія крыніцы напоўнілі свет сваёй чысцінёю. І штосьці пяшчотна-сумнае дакранулася да сэрца.

Як вядома, хваляваць сэрцы людзей — галоўная задача мастацтва. Час сцвярджае, што "Церніца" выконвае яе на "выдатна" дзякуючы працавітасці, мэтанакіраванасці, таленту і прафесіяналізму артыстаў. Іх — 23, амаль усе з вышэйшай музычнай адукацыяй. У калектыве ўдала спалучаецца багаты вопыт ветэранаў і заўзятасць маладых. Будаўнік Юрый Гур'еў спявае ў ансамблі з дня яго заснавання. Некаторыя артысты знаходзяць іншую працу. Напрыклад, першая запявала Паліна Смолава вырашыла шукаць шчасце на эстрадзе. Не ў ансамблі спяваюць Жанна Піваварава і Вольга Вронская. Былы таленавіты саліст Сяргей Мядзведзеў узначальвае аддзел культуры Адміністрацыі Савецкага раёна Мінска.

Вакансіі займаюць студэнты і выпускнікі ўніверсітэта культуры і мастацтваў, якія ўмеюць пранікнуць у вобраз песні і танца і ўвасобіць яго на сцэне. Іх заробкі дробязныя. Але ж не ўсё вымяраецца грашыма. Галоўнае — займацца сваёй любімай справай. Яны бачаць сэнс свайго жыцця ў творчасці, самадастатковай і бязмежнай.

Безумоўна, "Церніца" шмат увагі надае захаванню і развіццю беларускай песні, з'яўляецца базай павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў аматарскіх калектываў. Тут праводзяць семінары, адкрытыя занятки, аказваюць метадычную дапамогу. Выдавецтва ўніверсітэта культуры і мастацтваў выпусціла ў якасці вучэбнага дапаможніка зборнік, у якім змешчаны 120 песень з рэпертуару калектыву.

Ёсць, ёсць чаму павучыцца ў "Церніцы". Нездарма ж яе неаднаразова запрашалі, так бы мовіць, пад дзяржаўнае крыло, увайсці ў склад філармоніі. І займець такія ўмовы працы, як "Свята", "Харошкі", іншыя ансамблі.

— Мы адмовіліся ад прывабнай прапановы, — тлумачыць музычны кіраўнік ансамбля Іосіф Несцяровіч. — Хадзіць з працягнутаю рукою — перспектыва незайздросная. Дзякуючы дапамозе кіраўніцтва беларускай чыгункі ў нас ёсць неблагая матэрыяльна-тэхнічная база. Набываем новыя сцэнічныя касцюмы, музычныя інструменты. Як кажуць, жыць можна. Калі б мы сталі "дзяржаўнымі", магчыма, нас зрэдку паказвалі б айчынныя тэлеканалы, — працягвае Іосіф Аляксандравіч, — а пакуль на іх мільгацяць "зоркі эстрады".

З такімі творчымі прынцыпамі, ды яшчэ і са скептычным стаўленнем да сучаснай эстрады і тэлебачання, жыццё Несцяровіча не назавеш салодкім. Але зразумець яго варта. Чалавек душой хварэе за беларускую песню, яе далейшы лёс. Бо як па твары пазнаюць чалавека, так і па песні, асабліва народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характар і душа.

Музыка "Церніцы" вельмі простая. Але жывая, сапраўдная, якая ідзе ад сэрца. Адным людзям яна напамінае тыя дні, калі яны былі маладымі, здаровымі і шчаслівымі. Другіх адцягвае ад паўсядзённых і бясконцых турбот. А трэцім ненадакучліва гаворыць, што трэба любіць жыццё і сваю родную зямлю. Кожны адчувае ў ёй сваё, а ўсе разам — радасць.

Дарыць гэту радасць людзям дапамагаюць ансамблю кампазітары і паэты, сярод якіх Мікалай Траццякоў, Алег Чыркун, Іван Цітавец, Уладзімір Буднік, Яўген Дзеравянка, іншыя творцы.

Мастацкі кіраўнік ансамбля "Церніца" — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Галіна Дзмітрыеўна Несцяровіч, а музычным кіраўніком з'яўляецца яе муж Іосіф Аляксандравіч, пра якога мы згадвалі вышэй. Ён нарадзіўся ў Баранавічах, скончыў там музычную школу, затым вучыўся ў Мінску. Цудоўна іграе на баяне! Працаваў разам з Генадзем Цітовічам. Затым у танцавальным ансамблі "Харошкі". Несцяровічы былі арганізатарамі і стваральнікамі самабытнай і каларытнай "Церніцы" — аднаго з вядомых калектываў беларускай песні у нашай краіне.

Гэтую кароткую заметку хочацца скончыць словамі, якія ўзяты ў загаловак. Яны належаць нашаму Францішку Багушэвічу: "Той народ жыве, які свае песні мае".

# Хто здолее застацца ў літаратуры?

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,
фота Кастуся Дробава

**Колькасць дыпламаваных літаратараў у нашай краіне павялічыцца. У другі раз Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта праводзе сёлета набор на новую спецыяльнасць "Літаратурная работа. Творчасць". Уладальнікамі студэнцкіх білетаў стануць 15 абітурыентаў. Пасля таго як яны праслухаюць курс агульных дысцыплін, кожны зможа выбраць сабе спецыялізацыю: проза, паэзія, драматургія (кінадраматургія і тэатральная драматургія), літаратурна-мастацкая крытыка і літаратурна-мастацкі пераклад. Акрамя гэтага на факультэце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў у Інстытуце журналістыкі БДУ 10 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй могуць атрымаць яшчэ адну спецыяльнасць — "Літаратурна-мастацкая творчасць" (дарэчы, прыём дакументаў працягнуты да 6 верасня 2011 года). Такім чынам, хутка ў сферу літаратуры і журналістыкі прыйдуць 25 выпускнікоў з дыпломамі, дзе будзе напісана: "Спецыяліст па літаратурна-мастацкай творчасці". Мы прапанавалі загадчыцы кафедры літатаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ (на базе якой і адкрылася год таму новая спецыяльнасць), дацэнту, кінакрытыку Людміле Саянковай паразважаць пра сучаснае мастацтва, літаратуру і той асяродак, у якім маладым спецыялістам давядзецца працаваць, пацвердзіўшы ці абвергнуўшы сем правакацыйных афарызмаў пісьменнікаў-класікаў.**



**У чым розніца паміж літаратурай і журналістыкай? Журналістыку не варта чытаць, а літаратуру не чытаюць.**

*О. Уайльд*

— Прыйшоў час вузкіх спецыялізацый, і сёння літаратуру чытаюць тыя, хто ёй цікавіцца: ужо не скажаш, што мы краіна, якая чытае. Літаратура — гэта чытанне, а журналістыка — гэта чытво (хутка, у любых зручных абставінах выхапіць і запомніць з тэксту галоўнае). Варта чытаць і журналістыку, і літаратуру, толькі неабходна ведаць, з якой мэтай ты чытаеш і тое, і другое.

**Літаратура — гэта сон, якім можна кіраваць.**

*Х. Л. Борхес*

— Гэта праўда. Таму што любы творчы акт у любой галіне мастацтва звязаны з падсвядомым (сон таксама падсвядомае). Гэта вяшчанне, якое не паддаецца апісанню.

*— Значыць, вы давяраеце творцы, які не можа патлумачыць, навошта яму патрэбная тая ці іншая дэталь у рабоце, але настойвае, што яна патрэбная?*

— Так. У творчасці вельмі важную ролю іграе інтуіцыя: матывы, адчуванні, эмоцыі з мінулага, якія захаваліся ў табе і якія ты выцягваеш з сябе ў патрэбны момант. Калі б гэтага не было, то не было б мастацтва XX стагоддзя ўвогуле, якое ў вялікай ступені абапіраецца на тэорыю Фрэйда. Ва ўсялякім разе, Сальвадора Далі мы б дакладна недалічыліся, калі б мастацтва карысталася толькі ўстаноўкамі рэалізму.

**Для стварэння літаратурнага шэдэўра аднаго таленту нестае. Талент павінен падгадаць час. Талент і час непадзельныя.**

*А. Мэцью*

— Абсалютная праўда. Толькі гэта не значыць, што трэба выяўляць сацыяльныя праблемы. Трэба адчуваць атмасферу часу, яго флюіды, настрой. Гэта сапраўды талент, гэта звышнатуральная здольнасць. Адчуванне часу можна рацыяналізаваць і абагульніць у тэорыях, як знакамітыя філосафы, а можна выявіць у творах мастацтва. Мае любімыя імпрэсіяністы выявілі свой шчаслівы час. Не з той прычыны, што ім не давала спакою менавіта такое жаданне, а з той, што сам час быў такі. Яны сядзелі ў кавярнях, размаўлялі пра нешта добрае, хадзілі па вуліцах, дзе пабач з імі хадзілі прыгожыя жанчыны, запрашалі гэтых жанчын да сябе ў майстэрні. Час прадугледжваў такое шчаслівае ўспрыманне рэчаіснасці. Потым час змяніўся, пачалася Першая сусветная вайна, прыйшлі экспрэсіяністы і выявілі яго зусім па-іншаму: у жахах, якія бачылі і перажывалі.

**Кожную кнігу трэба пісаць так, нібыта гэта твая лепшая і апошняя.**

*У. Караткевіч*

— Гэты афарызм — сведчанне адказнасці аўтара. Калі ты бярэш слова, то трэба дакладна ведаць, навошта і што менавіта ты хочаш сказаць. Аўтару заўсёды трэба ўсведамляць ступень адказнасці за тое, што ён робіць.

**Літаратура — гэта такі занятак, які яшчэ і яшчэ вымагае даказваць, што ў цябе ёсць талент, людзям, якія не маюць талентаў увогуле.**

*Ж. Рэнар*

— А так заўжды адбываецца ў мастацтве. Любы крок адразу выклікае рэакцыю, і любым творам ты даказваеш, што ты маеш права казаць тое, што ты гаворыш. Мне падаецца, залішняя самаўпэўненасць (калі ты пераканаў сябе, што твой кожны новы твор — адкрыццё) — гэта вельмі дрэнна. Правільна сумнявацца. Але ж гэта вельмі некамфортнае становішча для творцы…

Бяда нашага часу — бронзавыя фігуры. Атрымаўся ўдалы твор мастацтва, і ты стаіш на п'едэстале, ты недатыкальны. Гэтая недатыкальнасць робіць творчы працэс безжыццёвым. Яна робіць безжыццёвай крытыку, важны складнік творчага працэсу. Званні, лаўрэацтва, пасады нібыта даюць алібі ўсёй наступнай творчасці. А мне падаецца, што сумневы павінны быць заўсёды і ў аўтара, і ў чытачоў ці гледачоў. Крытычны погляд не можа нашкодзіць, ды вось крытыка сёння ў нас не ў пашане…

**Затрымацца ў літаратуры ўдаецца няшмат каму, а застацца — амаль нікому.**

*К. Чукоўскі*

— Дакладна (*смяецца — А. М.*). Пацверджана гісторыяй мастацтваў. Вось мы з вамі жывём, вакол нас безліч творцаў, а хто з іх застанецца ў гісторыі — невядома.

*— І як жа з такім адчуваннем ісці ў прафесію?*

— А пра гэта ніхто не павінен думаць! Трэба думаць пра тое, што табе сказаць і якім чынам, а не пра тое, ці ты геніяльны.

# Пра Крапіву раскажуць рэчы



**Асоба Кандрата Крапівы займае адметнае месца ў беларускай літаратуры і культуры. Байкапісец, драматург, публіцыст, вучоны-мовазнаўца… Яго творы стала займаюць адно з першых месцаў у рэйтынгу любімых з вывучаных на памяць яшчэ ў школе. Але, на жаль, у Мінску сёння няма музея, дзе была б стала прадстаўлена экспазіцыя, што шырока распавядала б пра Кандрата Крапіву як пра чалавека. А патрэба ў такой асобнай установе ці проста пастаяннай экспазіцыі ёсць. Пра гэта — наша гутарка з унучкай Кандрата Кандратавіча, кандыдатам мастацтвазнаўства, прафесарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Аленай Атраховіч.**

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава
і з сямейнага архіва А. Атраховіч

**— Алена Ігараўна, ці надаецца сёння шмат увагі жыццю і творчасці Кандрата Крапівы, праводзяцца навуковыя даследаванні, ствараюцца выстаўкі, выдаюцца кнігі? Як ушанавана яго памяць у Мінску?**

— У свой час у рэспубліцы былі праведзены мерапрыемствы па ўвекавечанні памяці Кандрата Кандратавіча. Дзякуючы гэтаму ў Мінску існуе вуліца Кандрата Крапівы, на Усходніх могілках усталяваны надмагільны помнік, усталявана мемарыяльная дошка — на доме № 76 па праспекце Незалежнасці, дзе Кандрат Кандратавіч жыў з 1964 па 1991 год. Ды і Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі носіць яго імя. Але я спадзяюся, што праца па ўшанаванні памяці Кандрата Крапівы яшчэ не завершана, будуць новыя крокі ў гэтым кірунку.

Што датычыць цікавасці да імя пісьменніка, яна, безумоўна, ёсць. Гэта можна назіраць у розных сферах жыцця. Вось, напрыклад, у сакавіку гэтага года ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі прайшлі навуковыя чытанні, прысвечаныя 115-й гадавіне з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Наколькі я ведаю, мяркуецца выданне зборніка дакладаў, што гучалі падчас чытанняў. Даследаваннем творчасці народнага пісьменніка займаюцца вядучыя беларускія навукоўцы Сцяпан Лаўшук, Анатоль Сабалеўскі, вельмі цікавы погляд на творчасць Кандрата Крапівы мне давялося бачыць у навуковых працах Паўла Навуменкі.

**— Не так даўно мы святкавалі 115-годдзе з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Якія мерапрыемствы, зладжаныя з гэтай нагоды, вам асабліва запомніліся?**

— Мерапрыемстваў было нямала, і ўсе яны былі прасякнуты не толькі павагай да памяці народнага пісьменніка, але і цеплынёй. Запомніўся цікавы літаратурны вечар, які адбыўся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Да таго ж, у бібліятэцы праходзіла выстаўка, прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы, з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. У экспазіцыі былі прадстаўлены рэдкія архіўныя дакументы, фотаздымкі, рэчы пісьменніка. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі ў юбілейныя дні таксама ладзілася выстаўка, дзе дэманстраваліся выданні і дакументы яшчэ 1920-х гадоў.

Да мяне шмат звярталіся карэспандэнты рэспубліканскіх газет і прасілі расказаць пра Кандрата Кандратавіча. І вось цікава, што з іх вуснаў часта гучала пытанне: які ён быў, як пісаў? Гэта значыць, што чытачы імкнуцца пазнаёміцца з Кандратам Кандратавічам як з чалавекам. А як гэта зрабіць? Зразумела, праз успаміны блізкіх, сяброў. Але не толькі. Пра асобу чалавека шмат могуць расказваць і яго рэчы, рукапісы, паперы. Многія людзі хацелі б мець магчымасць завітаць у госці да пісьменніка, зазірнуць у яго кабінет, паглядзець, як ён жыў і працаваў. А ў гэтым лепш за ўсе дапаможа музейная экспазіцыя.

**— Кнігагандляры часта адзначаюць, што кнігі Кандрата Крапівы карыстаюцца вялікай папулярнасцю, аднак знайсці іх у продажы вельмі складана. Ці выдаваліся апошнім часам творы з яго спадчыны?**

— Пасля смерці дзядулі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў шасцітомны збор твораў, вельмі падрабязны. У гэтым жа выдавецтве асобнымі зборнікамі неадноўчы выходзілі і яго п'есы, байкі. Так, чарговы зборнік пабачыў свет у канцы мінулага года, і яго выхад быў абумоўлены перш за ўсё тым, як казаў мне дырэктар выдавецтва Уладзіслаў Мачульскі, што да выдаўцоў увесь час звяртаюцца настаўнікі, дырэктары школ, супрацоўнікі бібліятэк, бо кнігі карыстаюцца попытам і іх не хапае.

**— Ведаю, што ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" рыхтуецца да выдання новая кніга К. Крапівы…**

— Так, сапраўды, гэта "Загадкі дзеда Кандрата". Быццам бы невялікая кніжачка ў параўнанні са зборам твораў, але яна займае асобнае і значнае месца ў творчасці Кандрата Крапівы. Гэта яго апошняя кніга і адзінае дзіцячае выданне. Ён напісаў яе амаль у 90 гадоў. Кніга "Загадкі дзеда Кандрата" мае цікавую гісторыю. Праўнучка Кандрата Кандратавіча — Варвара — вельмі любіла свайго прадзеда, шмат гуляла з ім у розныя гульні. Паколькі Кандрат Крапіва быў пісьменнік, філолаг, ён з задавальненнем прыдумваў для Варвары гульні са словамі, у тым ліку і загадкі, каб дзяўчынка навучылася адчуваць і любіць роднае слова. Тады і з'явілася ў яго думка запісаць прыдуманыя ў час гульняў загадкі. Таму і атрымалася, што выданне мае асветніцкі характар, прызначана для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў, дапамагае дзецям вывучаць беларускую мову.

**— Калі творы настолькі папулярныя, то, магчыма, ёсць цікавасць і да асобы пісьменніка, тым больш што Кандрат Крапіва шмат зрабіў у розных сферах дзейнасці…**

— На сённяшні дзень, на жаль, няма мемарыяльнага кабінета ці пастаяннай, разгорнутай экспазіцыі, што расказвала б пра Кандрата Крапіву, дапамагла б зазірнуць у яго творчую майстэрню. А цікавасць да яго асобы, як мы ўжо з вамі гаварылі, безумоўна, існуе. Падчас выстаўкі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі я неадноўчы назірала за наведвальнікамі. І дарослыя, і школьнікі задавалі шмат пытанняў, фатаграфавалі. І найбольш іх цікавілі рукапісы, почырк пісьменніка, лісты, а яшчэ старыя фотаздымкі, асабістыя рэчы. Упэўнена, што людзі хацелі б больш ведаць пра Кандрата Крапіву, сваімі вачамі ўсё ўбачыць, але пакуль не маюць такой магчымасці.

Пра цікавасць да асобы Кандрата Крапівы сведчыць яшчэ тое, што пра яго здымаюцца фільмы. Назаву толькі некаторыя з іх. У мінулым годзе у эфіры дэманстраваўся дакументальны фільм, створаны Беларускім відэацэнтрам. У ім выкарыстаны рэдкія архіўныя кінакадры. Не так даўно, у дні юбілею пісьменніка, дэманстраваўся праект Міхася Равуцкага "Кандрат Крапіва: таямніцы біяграфіі", дзе была зроблена спроба раскрыць малавядомыя старонкі жыцця класіка. І зноў мы бачым, што і стваральнікаў фільмаў, і гледачоў цікавіць усё тое ж пытанне: які Кандрат Крапіва быў чалавек?

У сакавіку гэтага года сіламі студыі дакументальнага кіно галоўнай дырэкцыі тэлевытворчасці Белтэлерадыёкампаніі быў створаны яшчэ адзін надзвычай цікавы фільм пра Кандрата Крапіву "Загадкі дзеда Кандрата", рэжысёр-пастаноўшчык Андрэй Леўчык. Адметна тое, што ў ім прыводзяцца не толькі дакументальныя звесткі пра пісьменніка, але ёсць і элементы мастацкага кіно. У ім узялі ўдзел таленавітыя майстры беларускай сцэны Уладзімір Мішчанчук і Фама Варанецкі. Дарэчы, Фама Сільвестравіч выдатна сыграў ролю самога Кандрата Крапівы, перадаў не толькі яго інтанацыі, жэсты, але ўвасобіў унутраны лад. Я гэта тонка адчуваю як унучка.

**— Калі казаць пра стварэнне музея К. Крапівы, чым абумоўлена ідэя яго размяшчэння менавіта ў Мінску?**

— На гэта пытанне я б адказала словамі самога Кандрата Кандратавіча. У яго ёсць артыкул "Мой родны Мінск", напісаны ў 1978 годзе. І вось як ён піша пра гэты горад: "Нарадзіўся я не ў Мінску, але жыву ў ім ужо больш за 50 гадоў. Тут нарадзіліся мае дзеці, унукі і праўнукі, адбыліся многія важнейшыя падзеі ў маім жыцці. Мінск стаў для мяне сапраўды родным горадам. <…> У Мінску я ўпершыню ўбачыў надрукаваны ў газеце "Савецкая Беларусь" свой верш на беларускай мове. Гэта быў першы крок, з якога пачынаўся мой творчы шлях у беларускай літаратуры. З гэтага часу з Мінскам звязаў мяне лёс назаўсёды". Важна, што тут фарміраваліся яго погляды на жыццё, тут ён стаў усведамляць сябе пісьменнікам. Першымі чытачамі, гледачамі і суддзямі яго твораў былі менавіта мінчане.

**— У якіх музеях і архівах захоўваюцца дакументы, рэчы Кандрата Крапівы?**

— Яшчэ пры жыцці Кандрат Кандратавіч значную частку свайго архіва перадаў у Цэнтральную навуковую бібліятэку імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Калі дзядулі не стала, наша сям'я перадала практычна ўсё, што заставалася дома, у Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Менавіта там захоўваецца значная частка рэчаў — мемарыяльныя прадметы, здымкі, лісты, рукапісы, іншыя дакументы, нават уся абстаноўка кабінета. Але гэта знаходзіцца ў сховішчы, у тым ліку і бібліятэка, якую ён шмат год збіраў. Ёсць у гэтым кнігазборы творы рускай, беларускай класікі, шмат кніг з каштоўнымі дароўнымі надпісамі. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва — цэлы фонд К. Крапівы, цікавы і значны. Некаторыя рэчы, што датычаць жыцця і дзейнасці Кандрата Кандратавіча, ёсць і ў нашых літаратурных музеях, яны адлюстроўваюць стасункі пісьменніка з іншымі творцамі — Янкам Купалам, Якубам Коласам. Ва Уздзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі таксама прысутнічае невялікая экспазіцыя — некалі мы самі перадалі туды некаторыя мемарыяльныя рэчы, дакументы. Музейшчыкі лічаць, што ўвесь архіў Кандрата Крапівы, які ўвогуле існуе ў рэспубліцы, адпавядае патрабаванням музейнай калекцыі і па колькасці, і па якасці экспанатаў.

**— Калі разважаць пакуль гіпатэтычна пра стварэнне музея Кандрата Крапівы, што можа стаць асновай яго фонду?**

— Думаю, што такія пытанні вырашаюцца на дзяржаўным узроўні. Пасля адыходу з гэтага жыцця знакамітага чалавека настае час, калі ўсё, што належала яму або яго сям'і, павінна належаць дзяржаве. Так сталася і практычна з усім архівам Кандарата Кандратавіча. Мы толькі некалькі рэчаў пакінулі на памяць, але калі будзе музей, дык і гэта аддадзім.

**— У якой форме можа быць створана музейная экспазіцыя? Як асобны літаратурны музей?**

— Літаратурны музей — не адзіная форма прадстаўлення экспазіцыі. Ды і ўвогуле сёння музеі ператвараюцца ў асветніцкія, культурныя цэнтры, гэта не застылы мемарыял, а вельмі жывы арганізм, разнапланавы, шматстайны. Досыць цікавая форма прадстаўлення чалавека, творчасці — мемарыяльны кабінет, які дазваляе нібы зазірнуць у госці да пісьменніка і пранікнуць у таямніцу творчага працэсу. Пісьмовы стол, друкарка, паперы, можа, гучыць голас пісьменніка ці чуваць стук пішучай машынкі…

Ведаю, што апошнім часам спецыялісты-музейшчыкі абмяркоўваюць новую цікавую канцэпцыю стварэння буйнога культурна-асветніцага цэнтра, у якім можа быць прадстаўлена адразу некалькі славутых імёнаў, і ў кожнага — свая пастаянная экспазіцыя. Такі варыянт грэе душу. Да таго ж, гэта цікавы і маштабны праект, тут можа нават ісці гаворка пра новы статус музея.

***Сапраўды, ідэя стварэння музея Кандрата Крапівы ў Мінску вартая ўвагі, тым больш, што публіцы гэта цікава. Але без падтрымкі грамадскасці і дзяржавы пра гэтую справу гаворкі ісці не можа. А ці зацікаўлены музеем Кандрата Кандратавіча Саюз пісьменнікаў Беларусі, ці дапаможа ў працэсе фарміравання новай экспазіцыі? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да старшыні СПБ Мікалая Чаргінца.***

*— Кандрат Крапіва — фігура, значнасць якой для беларускай мовы і літаратуры не ацэньваецца сёння належным чынам. Яго ўнёсак — агромністы, Кандрат Кандратавіч заслугоўвае, каб памяць пра яго была як мага больш яркай. А для гэтага патрэбна інфармацыя, магчымасць пабачыць яго атачэнне, рэчы, паперы на свае вочы, пачуць расповед пра яго жыццё не ў аўдыторыі, а ў аднаўленым інтэр'еры кабінета. Менавіта такую магчымасць можа даць музей.*

*Стварэнне спецыяльнай установы — музея, дзе была б ушанавана памяць пра Кандрата Крапіву, пісьменніка, навукоўца, мае вялікае значэнне. Саюз пісьменнікаў Беларусі падтрымлівае гэтую ідэю. Думаю, навад знойдзем прадметы, фотаздымкі для экспазіцыі. У хуткім часе створым невялікую рабочую групу, распрацуем план дзеянняў і разам са сваякамі Кандрата Кандратавіча пачнём працаваць над ажыццяўленнем гэтай цудоўнай задумкі.*



***На здымках: унучка Кандрата Крапівы Алена Атраховіч; стаяць: сын К. Крапівы Барыс, К. Крапіва, сядзяць: Канстанцін Махнач (бацька жонкі К. Крапівы), Алена Атраховіч (жонка К. Крапівы), Кандрат Атраховіч (бацька К. Крапівы), 1930 г.***

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Свет вакол нас

**Сяргей Пыжыкаў скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Выкладаў выяўленчае мастацтва ў школе № 159 з эстэтычным ухілам, цяпер — у Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце выкладае тэорыю стылю, методыку дызайну, асновы мастацка-кампазіцыйнага формаўтварэння, тэхналогіі экспадызайну. Яго творы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях Беларусі, Даніі, Ізраіля, Канады, Вялікабрытаніі, ЗША, Швейцарыі, Расіі…**



Нядаўна ў выставачнай зале Дома кіно праходзіла выстаўка Сяргея Міхайлавіча пад назвай “Свет вакол нас”. Выкананыя ў мяккай колеравай гаме ў тэхніцы акрылу, тэмперы, карціны ўражваюць эмацыянальнай насычанасцю, глыбокім філасофскім зместам. Датаваныя 1980 — 1990-мі гадамі, яны сёння як ніколі надзённыя. Мастак любіць пісаць неба — гэта ў яго з дзяцінства, бо ў вёсцы ўвечары рабіць было няма чаго, і ён падоўгу сядзеў на даху і любаваўся вячэрнім небам і зоркамі, месяцам на ім. Бывала, калі бацькі забываліся, праседжваў і ноч. Ды і цяпер выходзіць на начныя “шпацыры па небе”.

Новыя карціны зараджаюцца ў думках. Убачанае і рэаліі сённяшняга дня, уражанні ад падзей, якія адбываюцца сёння ва ўсім свеце, ад перажытага землятрусу і аварыі на атамнай станцыі ў Японіі пераасэнсоўваюцца і адлюстроўваюцца ўжо на палатне, кардоне. Таму яго творы прыцягваюць і прымушаюць стаяць ля іх падоўгу і думаць. Сумяшчэнне нечаканых планаў, каб убачыць неба па-іншаму, незвычайнае: трэба мець прасторавае ўяўленне, а гэтым валодае не кожны. Прыцягваюць увагу карціны Сяргея Пыжыкава “Нябесная дарога” (1995), “Дрэва нябеснае” (маланка і адзінокае дрэва), “Абрыў” — у гэтым творы можна ўбачыць дзёран, які адваліўся, востраў нібы вісіць у нябёсах, адарваны ад усяго зямнога…

Створаныя Сяргеем Пыжыкавым у 1990-я гады карціны адпавядаюць сучаснасці па сюжэце і кампазіцыі, хоць мастак інтуітыўна звярнуўся да гэтай тэмы. Тое, што адбылося нядаўна ў Японіі, ён “адчуў” тады, у дзевяностыя, і намаляваў дзень сённяшні ў палотнах “Дом Мапуі” (1996) і “Цунамі” (1994): маленькія хаткі, дзе жывуць людзі, а над імі вялікая хваля цунамі, якая застыгла і знаходзіцца нібы ў роздуме, што ёй рабіць. І ў 2011 годзе яна накрыла гэтыя хаткі і людзей, усё жывое і нежывое сцерла з зямлі. Зямля як бы напамінае людзям, што да яе трэба адносіцца з павагай.

На палатне “Патоп” мастак адлюстраваў біблейскі патоп, але трактуе яго па сваім прадстаўленні з дапамогай асацыятыўных сувязей. Атрымалася своеасаблівая сінектыка — несумяшчальнае з сумяшчальным. На карціне “Архейскі краявід” (1992) — кратар вулкана, расплаўленая зямля дагістарычнага часу паказана ўжо ў іншых, больш яркіх фарбах — як папярэджанне… У кампазіцыі “Сем стыхій” асноўнымі элементамі з’яўляюцца сімвалы — неба, зямля, вада, агонь, аблокі, дрэвы; у карціне “Пілігрым” — пустыня, пясок, цень, які пацвярджае прысутнасць чалавека, якога мы не бачым, але адчуваем, што ён тут, побач… У творы “Імкненне” вогненная лава трансфармуецца ў драўляны ствол метафарычнага дрэва, які ўваходзіць у нябёсы — імкненне да дасканаласці. І зусім іншы колер у карціне “Свяціла” (1993) — патрэсканая ад гарачыні зямля ў пустыні, і на яе фоне ўзвышаецца ў сіняе неба не то скала, не то калона, з аднаго боку асветленая сонейкам, другі зацемнены, і на гэтым фоне чалавек з вярблюдам — маленькія і не абароненыя перад Богам. Карціна гэта ўваходзіць у цыкл “Карма зямная”, у якім Сяргей Пыжыкаў хоча папярэдзіць усіх, што карма напаткае кожнага і альбо пакарае, альбо ўзнагародзіць — кожнаму па заслугах, як кажуць. Мастак амаль на кожнай выстаўцы, прысвечанай экалогіі, паказвае свае новыя палотны на гэту тэму: “Апошні ліст” — найбольш яркі прыклад папярэджання чалавецтву: густы туман, над абрывам адзінокае дрэва без лісця, і толькі адзін лісток яшчэ жывы. І калі не апомнімся, не задумаемся, дык і мы застанёмся апошнім лістком, як на карціне, які вось-вось адарвецца ад дрэва, і ўсё знікне назаўсёды на зямлі.

Гэта была ўжо пятая выстаўка ў Доме кіно. Таксама персанальныя экспазіцыі з поспехам ладзіліся ў Смаленску, Мінску, Нясвіжы і Крупках — малой радзіме мастака. У вольны час творца прыязджае сюды, каб паблукаць па лесе, палюбавацца на возеры Сялява чыстаю празрыстаю вадою, ракой Бобр. Са шкадаваннем заўважае мастак, што рэчка яго дзяцінства, якая працякала ля вёскі Хацюхова і ўпадала ў раку Бобр, ужо высахла. Усё мяняецца ў прыродзе, часам і не без дапамогі чалавека. Работа “Дарога” (1992) напісана як пакаянне.

Палотны С. Пыжыкава глыбока паэтычныя і філасофскія. Вобразная выяўленчая мова твораў, выразнасць, ураўнаважанасць, трываласць кампазіцыі, якая вызначаецца асаблівай значнасцю, чысціня тонаў, вытанчаная прыгажосць, выкарыстанне дзівосных магчымасцей тэмперы і акрылу надаюць карцінам магічную сілу. Асаблівую ролю ў яго творах адыгрывае колер — ён рэалізуе ідэі і задумы мастака.



Работы поўныя алегорый і сімвалаў у духу паралельных светаў, якія прыцягваюць чалавека не адно стагоддзе, а таму тэма космасу, зямлі і адносіны чалавека да ўсяго — галоўная тэма яго твораў. Кожны можа расшыфраваць адлюстраванае на карціне па-свойму. І вось што я прачытала ў кнізе водгукаў за першыя тры дні выстаўкі:

“…перада мною спакойныя эмоцыі і, гледзячы на іх, можна доўга марыць, яны паветраныя і лёгкія”; “Транс-цен-ден-таль-но!!!”; “Атрымала эстэтычнае і эмацыйнае задавальненне”; “Ты предстал перед собой, устремлённый вдаль душой. Ни начала, ни конца, лишь дыхание творца”; “Это Выходы и Входы из Простора Царства Бога”; “Чалавек-фантазія — незвычайна”; “Балотныя елкі” — маё адлюстраванне. Убачыў у фарбах свае думкі”...

Мастак шмат падарожнічае і менавіта новыя ўражанні адлюстроўвае на сваіх палотнах. Запрашае гледача разам з ім у горы Акыр, на Памір, на Каўказ, на Паўночны Урал: “Нябесныя горы”, “У Бязмежнасць” (1998), “Міраж” (1989), “Спякота”, “Камета” (1996), “Вечны рух”, “Рай Зямны” (1989), “Дзве крыніцы” (1992) “Вулкан”, “Час, які застыг”, “Метамарфозы”, “Якая дае Жыццё”, “Мой шлях” (2000)…

Напісанае ў 2000-я гады палатно “Эманацыя” — матрыца, план, паводле якога жыве Сусвет, хвалі на вадзе і побач на пяску такія ж. Яны падобныя, плаўна пераходзяць зямля ды вада ў неба, шмат святла і прасторы. І папярэджанне ў творы “Маладзік і ліхтар” — у прыродзе ўсё адчувальна, і стыхія інтуітыўна адчувае набліжэнне падзей, катаклізмаў, змен, а таму так ці інакш папярэджвае чалавецтва: “Слухайце ае!!! Людзі!”

Многія пейзажы як быццам падгледжаны з космасу: марсіянскія кратары, ледзяныя таросы і марскія прылівы з вялікімі хвалямі і неба з мноствам аблокаў. Назвы карцін самі сведчаць пра гэта — “Галаграфічны 2”, “Камета” (1998), “Пояс Арыёна” (1997): піраміды ў Егіпце мастак размясціў адпаведна размяшчэнню зорак сузор’я Арыёна, а піраміды Хуфу — пояса Арыёна. Уся серыя “Прастора” выпісана і прадумана, як быццам Сяргей Пыжыкаў сам астраном…

Аблокі мастак малюе адметна, з любоўю, яны ў яго ўсялякія: і дажджавыя, і сонечна-празрыстыя, кучаравыя і закручаныя — і паказаны так, як быццам ён іх сам маляваў на аблоках. “Спякота” — малюнак аблокаў капіруе зямны пейзаж; у ліст расліны воблакі трансфармуюцца ў карціне “Палёт”. “Позірк у неба”, “Нябесная дарога”, “Дарога да аблокаў”… Палатно “Сем стыхій” напоўнена кучаравымі аблокамі, а ў цэнтры — тры хаткі. Яны як бы просяць людзей зберагчы іх, не зносіць…

Мастак піша таксама партрэты: “Гея” (“Багіня Зямлі”, 1993), “Свяціла” (1995) і іншыя. Карціну-партрэт “Погляд у неба” Сяргей Пыжыкаў прысвяціў Уладзіміру Караткевічу. На першым плане — партрэт пісьменніка. У кампазіцыю мастак уключае частку замшэлай драўлянай хаткі і блакітнае неба з кучаравымі аблокамі, якія падкрэсліваюць сапраўднага Стваральніка і яго погляд на Сусвет.

Камерныя работы “Чырвонае акно” (2000), “Банальны закат” — мара мастака, ён хоча пабываць у гэтай прасторы і стварае яе на палотнах. Тэма “Адзіноцтва” (1992) вельмі шчымлівая і звязана, відаць, з нечым сваім, асабістым, бо такі настрой можа перадаць толькі чалавек, які сам перажывае — чырвоны колер падкрэслівае драматызм стану, адзінокае дрэва на краі абрыву. Яно яшчэ жыве, але галінкі яго ўжо цягнуцца ў другі бок, у прастору. Яно як бы адрываецца і ляціць да зор…

Пейзажы Сяргея Пыжыкава напісаны непасрэдна на пленэры, куды ён кожны год выязджае. Разам з сябрамі ходзіць на байдарках па возеры Нарач, па Браслаўскіх азёрах. Тут нарадзіліся сюжэты яго карцін “Нарач”, “Начная маланка”, “Бездань”. У рабоце “Імхі” ён паказаў праз туман, які ахутаў балота, настрой змрочнага дня. Вельмі прыгожа і прафесійна перадаў мастак у карціне “Іней” раніцу першых дзён зімы. Шмат увагі надаў, скрупулёзна выпісваючы тонкія нюансы, а таму яна такой настраёвай і атрымалася.

Асвоіў творца і яшчэ адну грань мастацтва — мастацкую кераміку. Надглазурны роспіс фларэнційскай керамікі ўсё больш і больш яго захоплівае. Сваім настаўнікам у гэтым відзе мастацтва ён лічыць Віктара Гаўрылава.

Шмат часу Сяргей Пыжыкаў аддае педагагічнай справе. Вучыць дзяцей фантазіраваць і бачыць свет з рамантычным успрыманнем, а галоўнае — любіць сваю зямлю і людзей, якія жывуць побач. Трэба адзначыць, што ўсе творы мастака сваімі сюжэтамі так ці інакш настройваюць і папярэджваюць нас, каб мы былі сумленнымі і не парушалі асноўныя прынцыпы справядлівасці на зямлі…

Узгадваюцца словы Антонія Суражскага: “Нам жыццё ўручана, каб з яго зрабіць урачыстасць любові, брацтва, гармоніі, веры, радасці. А мы гэтага не робім, таму што думаем толькі пра саміх сябе. Мы, людзі, зрабілі з гэтага свету месца, дзе страшна жыць, месца, дзе льецца кроў, месца, дзе чыняцца бесчалавечныя, жорсткія ўчынкі. Бог паслаў свайго сына Ісуса Хрыста, каб напомніць нам, што свет створаны для любові”.

## Сталічны вернісаж

# Неўміручасць творчасці

**Віктар ЗАЯЦ**

Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва запрашае ўсіх жадаючых наведаць выстаўку жывапісу “Беларускі пейзаж” Васіля Мініча (1949 — 2008). Дадзеная экспазіцыя адкрылася ў межах галерэйнай праграмы “Memorum”, якая дзейнічае з 2004 года і падтрымлівае памяць пра мастакоў Беларусі, якіх ужо няма побач з намі.

Са слоў мастацтвазнаўцы Марыі Мініч, куратара выстаўкі з боку сям’і творцы ў высакароднай справе захавання памяці праграма “Memorum” аб’ядноўвае сваякоў і сяброў мастакоў, якія пакінулі гэты свет, разнастайных спецыялістаў: калекцыянераў, журналістаў, гісторыкаў беларускай культуры і нашу галерэйна-музейную публіку, гэта значыць гледачоў. Акрамя таго, адкрыццё выстаўкі Васіля Мініча сталася адным з мерапрыемстваў міжнароднай акцыі “Ноч музеяў” у Галерэі Шчамялёва.

Васіль Віктаравіч нарадзіўся на Палессі, у вёсцы Сукачы Жыткавіцкага раёна, у жывапісным месцы, што шмат у чым паўплывала на выбар ім далейшага шляху ў творчасці. У атачэнні каларытнай прыроды Палесся будучы жывапісец фарміраваўся як творчая асоба з самага дзяцінства, і да канца жыцця ўпадабанай тэмай творчасці мастака заўсёды была прырода яго родных мясцін.

Сёння работы Васіля Мініча знаходзяцца ў фондах Дзяржынскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, у прыватных зборах Беларусі, Галандыі, Германіі, Польшчы, Ізраіля, ЗША.

У экспазіцыі прадстаўлены работы мастака як са збораў яго сям’і, так і з прыватных калекцый. Дэманструюцца як раннія, так і познія карціны аўтара, што дазваляе ахапіць у цэлым творчы шлях жывапісца. Усе пейзажы В. Мініча нітуе імкненне перадаць прыгажосць роднай прыроды, убачанай праз прызму ўласнага ўспрымання.

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

**Выстаўка "Беларускі нацюрморт", якая ладзілася ў Палацы мастацтва, — своеасаблівы агляд гэтага віду творчасці за апошнія пяцьдзясят гадоў. Сфарміравана яна з чатырох калекцый: з фондаў Беларускага саюза мастакоў, Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва і Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.**



# Ціхае прадметнае жыццё





Адкрываючы экспазіцыю, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў зазначыў, што ў савецкія часы жанр нацюрморта знаходзіўся на апошняй прыступцы па істотнасці, важнасці жанраў. Лічыўся самым лёгкім. А гэта абсалютна не просты, а складаны, далікатны жанр, дзе мастак можа раскрыць сваю душу, паказаць сябе.

Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў падкрэсліў, што гэта ўнікальны выпадак, калі мы маем магчымасць асэнсаваць тое, што зроблена ў гэтым жанры старэйшымі мастакамі і маладым пакаленнем. Можна толькі парадавацца за беларускіх мастакоў і нашу жывапісную школу нацюрморта, традыцыі якой годна пераймалі маладыя творцы. А прасачыць этапы іх развіцця можна дзякуючы дадзенай выстаўцы.

У сваю чаргу ўдзельнік выстаўкі, старшыня Рады БСМ прафесар Уладзімір Зінкевіч адзначыў: "Гэта таленавітая, яркая, харызматычная экспазіцыя. Не вельмі падабаецца пераклад французскага слова "нацюрморт" — "мёртвая натура", нашмат лепей з нямецкай або англійскай мовы — "ціхае жыццё". Тое, што бачым, нагадвае метафізічную праяву прадметнага свету, які як быццам становіцца саўдзельнікам усяго нашага жыцця. Нацюрморт — тое, што існуе заўсёды з намі: бытавое, падсвядомае, касмічнае жыццё. Мастакі старэйшага пакалення і маладыя ў гэтым аднадумцы. Паказваюць бліскучую прафесійную школу беларускага нацюрморта. Гэта сапраўды адметная падзея. Бо апошнім часам можна пабачыць павярхоўныя рэчы, якія мала што гавораць. Тут — цудоўнае, таленавітае жыццё прадметнага свету, які нараджае менавіта самога мастака. Работы раскрываюць, так бы мовіць, "ціхіх", таленавітых людзей".

Гісторыя беларускага нацюрморта сведчыць, што цікавасць да яго як да самастойнага жанру праявілася ў другой палове XX стагоддзя. Нацюрморт — гэта правадыр гледача ў свет нацыянальнай культуры, паколькі лепш за іншыя жанры выяўленчага мастацтва здатны перадаць нацыянальныя асаблівасці прадметнага свету. Рэчы даюць дастаткова яскравае ўяўленне пра характар і лад жыцця людзей. У той час як у пейзажным жывапісе знаходзяць адлюстраванне погляды чалавека на прыроду ў больш абагульненай форме, то ў нацюрмортах яны ўвасабляюцца, як правіла, у спецыфічнай форме, абумоўленай індывідуальнымі імкненнямі творцы. Мастак стварае нацюрморт, зыходзячы са свайго жыццёвага і творчага досведу.

Нацюрморт прываблівае мастакоў у першую чаргу свабодай самавыяўлення, магчымасцю тварыць па-за межамі, што прадпісаны ў іншых жанрах, абумоўленымі гістарычнымі ці рэлігійнымі ўплывамі. У гэтым, некаторых інтымным, жанры мастак сам вызначае мэту і сродкі яе дасягнення, прыўносячы індывідуальнае бачанне, чым дае гледачу падказку адносна аўтарства.

Экспазіцыя аб'яднала мастакоў і мастацтвазнаўцаў Беларускага саюза мастакоў, аўтараў розных пакаленняў, сярод якіх Віталь Цвірка, Май Данцыг, Леанід Шчамялёў, Гаўрыла Вашчанка, Аляксандр Кішчанка, Мікалай Залозны, Барыс Аракчэеў, Валяр'яна Жолтак, Уладзімір Савіч, Мікалай Селяшчук, Аляксандра Паслядовіч, Уладзімір Кудрэвіч, Уладзімір Клімушка, Юрый Якавенка, Георгій Скрыпнічэнка і іншыя.

Выстаўка "Беларускі нацюрморт" — унікальны праект, мэтай якога з'яўляецца пазнаёміць гледача з асноўнымі тэндэнцыямі развіцця жанру ў беларускім мастацтве.

***На здымках: работы Віталя Цвіркі "Нацюрморт з флоксамі"; Гаўрылы Вашчанкі "Успаміны"; Валяр'яны Жолтак "Лета".***

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Памяці мастакоў-ветэранаў



**Мікалай Федарэнка (1922 — 2000) — з ліку старэйшага пакалення беларускіх жывапісцаў-магіляўчан, за плячыма якога больш як пяцьдзясят гадоў творчай дзейнасці. Мікалай Міхайлавіч — удзельнік Вялікай Айчыннай, быў у партызанах, на франтах вайны і дайшоў да Берліна. Таму тэма народнай мужнасці і гераізму стала адной з вядучых у яго творчасці.**



У сваім жывапісным летапісе Магілёўшчыны М. Федарэнка захаваў для нашчадкаў не толькі этапы будаўніцтва мясцовых заводаў, фабрык, прадпрыемстваў. Ён, як майстар шырокага творчага дыяпазону, напісаў шмат палотнаў у жанры лірычнага ды індустрыяльнага пейзажа.

Яго сын, Святаслаў Федарэнка, належыць да мастакоў сярэдняга пакалення. Як прадаўжальнік справы бацькі, ён працуе ў традыцыйнай манеры з аднолькавым поспехам у жанры тэматычнай карціны, партрэта, пейзажа.

Так, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны наладзіў выстаўку Мікалая і Святаслава Федарэнкаў пад назвай "Шляхамі перамог. Бацька і сын Федарэнкі", прымеркаваную да 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай. Увазе наведвальнікаў прадстаўлена больш як паўсотні работ, у тым ліку знакамітае сюжэтна-тэматычнае палатно "Хлеб партызанам", а таксама асабістыя рэчы, фотаздымкі, дакументы і каля трыццаці партызанскіх ды франтавых замалёвак Мікалая Федарэнкі. Да слова, гэтыя замалёўкі ў Мінску дэманструюцца ўпершыню. Частку экспазіцыі займаюць работы Святаслава Мікалаевіча, якія ён прысвяціў памяці бацькі, а таксама ўсім тым мастакам-ветэранам, якія прайшлі шляхамі вайны. Усе палотны прасякнуты любоўю да роднага дому, да роднай зямлі. Некаторыя работы Мікалая Федарэнкі Святаслаў паабяцаў перадаць у дарунак музею.

Выстаўка "Шляхамі перамог. Бацька і сын Федарэнкі" адмысловая не толькі тым, што прадстаўляе творчую сям'ю, але і беларускую мастацкую школу рэалізму. Гэта аповед пра зямное і ўзнёслае, пра штодзённае і вечнае, пра жыццё зусім іншага пакалення ва ўзаемасувязі з бацькавым і сынавым у часовым гістарычным зрэзе.

На адкрыцці экспазіцыі слова бралі дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Азаронак, член бюро супполкі "Традыцыя" Беларускага саюза мастакоў Мікалай Мішчанка і народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі.

***На здымках: работы Мікалая Федарэнкі "Хлеб партызанам" і Святаслава Федарэнкі "Тераічны мажайскі дэсант".***

# Рукі, якія робяць цуды

Анатоль МАЗГОЎ, фота аўтара

**Адвеку вялікая частка людзей жыла марамі пра адпачынак, атаясамляючы яго са святам. Арыстоцель не без падставы лічыў, што менавіта ў вольны час складаецца шчасце. Сучасны чалавек ужо не ўяўляе свайго жыцця без вольнага часу, хобі, якія дапамагаюць задаволіць яго духоўныя запатрабаванні, гарманічна развіваюць асобу, аказваюць тэрапеўтычнае ўздзеянне.**

Так, у мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева адбылася святочная імпрэза з нагоды адкрыцця выстаўкі "Hand made" ("зроблены ўручную"). Гэты праект аб'яднаў семярых творча адораных жанчын Барысава і Мінска, якія ў вольны час ствараюць сваімі спрытнымі і "разумнымі" рукамі непаўторны свет прыгажосці і фантазіі. Экспазіцыю склалі работы, выкананыя ў розных тэхніках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: размалёўка па шкле, бісерапляценне, вязанне, лапікавы калаж, аўтарская лялька, пап'е-машэ, фларыстыка, модульныя арыгамі, вырабы з керамікі, палімернай гліны, скуры і інш.

Аўтары гэтых вырабаў не прафесійныя мастакі, а проста захопленыя творчасцю людзі. У кожнай з гэтых семярых таленавітых майстрых свой лёс, але ўсіх іх аб'яднала неўтаймаваная фантазія і нязгасная любоў да творчасці, у прыватнасці, да дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Аўтараў экспазіцыі па чарзе прадставіла публіцы мастацтвазнавец Таццяна Кірылава, пасля чаго кожная з іх падзялілася сваім поглядам на творчасць і далейшымі планамі ў мастацтве.

Алена Кеслер нарадзілася ў Башкірыі, скончыла педагагічныя курсы, працавала выхавальнікам у дзіцячым садку. Займаецца модульным арыгамі, захапляецца 3D-паштоўкамі і макрамэ. Прапанавала на суд гледачоў вазы розных формаў і памераў, талеркі, вясельную сукенку, выкананае з паперы модульнае арыгамі. У выстаўках удзельнічае ўпершыню.

Алеся Пацукевіч нарадзілася ў Барысаве. Працуе педагогам-арганізатарам у Кішчына-Слабадскім навучальна-вытворчым камбінаце, член Барысаўскага аддзялення Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам. З дзяцінства захапляецца самаробкай, а таксама бісерапляценнем. 75 узораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, зробленых рукамі Алесі, маглі пабачыць і нават набыць наведвальнікі выстаўкі. Яе непаўторная біжутэрыя з пацерак і напаўкаштоўных камянёў, дрэвы з пацерак і вырабы са скуры ўразілі ўсіх сваёй арыгінальнасцю.

Вольга Пузанава нарадзілася ў Мінску. Сур'ёзна захапілася бісерапляценнем некалькі гадоў таму, самастойна вывучыла асновы тэхнікі вырабу біжутэрыі. Выставіла каля 50 найразнастайных вырабаў з пацерак.

Юлія Пухлякова скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў (аддзяленне керамікі), мастак-педагог. Працуе мастаком на Барысаўскім камбінаце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя Аляксандра Кішчанкі. Захапляецца лепкай з палімернай гліны. Упершыню прадставіла свае ўнікальныя работы з тэрмапластыку.



Святлана Швайбовіч пасля заканчэння Барысаўскай школы паступіла ў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка. Працавала настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, а цяпер —кіраўнік гуртка ў дзіцячым пакоі "Світанак" унітарнага прадпрыемства "Жыллё". Восьмы год займаецца фларыстыкай і валодае рознымі тэхнікамі фларыстычнага калажу. Асабліва моцная ў тэхніцы пап'е-машэ. Зачароўваюць яе пано з лямцу і дзіўныя ўзоры аўтарскай лялькі. У галерэі "З'ява" выстаўлялася ў трэці раз.

Алена Якімава мае вышэйшую педагагічную адукацыю, працуе ў Цэнтры карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, таксама займаецца бісерапляценнем.

Валянціна Яськевіч нарадзілася ў Барысаве, працуе настаўнікам малюнка, жывапісу і кампазіцыі ў барысаўскай СШ №20. Мае справу са скурай, керамікай, выкарыстоўвае ў творах змяшаныя тэхнікі. Захапленне дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам стала яе прафесіяй.



Усім гэтым таленавітым мастачкам уласціва пачуццё ператтварэння часу і месца, у якіх яны жывуць і працуюць. Яны шчодра дзеляцца з намі сваёй душэўнай цеплынёй, тварэннямі сваіх залатых рук. Для іх творчасць — гэта мова, на якой яны спрабуюць размаўляць са светам, данесці да яго сваё "я".

Гледачы таксама маглі палюбавацца работамі, выкананымі творчымі калектывамі Барысаўскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі і СШ № 20 горада. З дзіцячай непасрэднасцю і пяшчотай школьнікі намалявалі сваіх хатніх гадаванцаў, прыроду і іншыя рэчы.

***На здымках: творы ўдзельнікаў выстаўкі.***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Калі чалавецтва ідзе да спрошчанасці казарменнай — тады адна мова, калі да складанасці — мноства.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Далучэнне да кнігі

Пры бібліятэцы Беларускай дзяржаўнай сельгасакадэміі г. Горкі паспяхова працуе клуб творчай моладзі "Дэбют", галоўная мэта якога — адрадзіць папулярнасць кнігі. А таму сябры клуба актыўна займаюцца далучэннем студэнцкай моладзі да чытання, прапагандай лепшых узораў сучаснай і класічнай літаратуры, знаёмствам з працамі мясцовых паэтаў.

Вось і нядаўна ў Палацы культуры ВНУ прайшоў вечар усходняй паэзіі, музыкі і танца "Каб мудра жыццё пражыць…". Ён быў прысвечаны творчасці знакамітага персідскага паэта Амара Хаяма. Яго чатырохрадкоўі — рубаі, нягледзячы на больш чым "спелы" ўзрост, не пакідаюць абыякавай і сучасную моладзь.

Цікавую форму данясення філасофіі аўтара да "маладых вушэй" прыдумалі супрацоўнікі гуманітарна-асветніцкага аддзела бібліятэкі. У выкананні ўдзельнікаў клуба творчай моладзі "Дэбют", у склад якога ўваходзяць і замежныя студэнты, пераважна прадстаўнікі Туркменістана, прагучалі цудоўныя вершы Хаяма, якія суправаджаліся інсцэніроўкамі з аповесці "Пах шыпшынніка" Вардана Варджапецяна. А ўсходняя музыка, песні і танцы туркменскіх студэнтаў з творчага калектыву "Шахеразада" пад кіраўніцтвам Людмілы Шаршнёвай стварылі інтрыгуючую атмасферу тагачаснасці, выклікалі ў гледача жывое суперажыванне.

**Зоя БАГДАНОВІЧ,** г. Горкі

# У Смалявічах настрой паэтычны

Смалявіцкая раённая гімназія і гарадская сярэдняя школа № 1 імя В. Купрэвіча месцяцца пад адным дахам, і таму многія мерапрыемствы гімназісты і школьнікі ладзяць сумесна.

Разам прыйшлі яны і на арганізаваную па ініцыятыве бібліятэкара гімназіі Алены Дзядкоўскай сустрэчу з літаратурным рэдактарам часопіса "Вясёлка", пісьменнікам Анатолем Зэкавым. Дакладней, на дзве сустрэчы: спачатку госць з Мінска выступіў перад старшакласнікамі, а потым — перад вучнямі пачатковых класаў. Першым ён чытаў лірычныя вершы і літаратурныя пародыі, другім — казкі, скорагаворкі і загадкі, у тым ліку і з новай кнігі "Зязюля Гулюля", якая неўзабаве пабачыць свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Найбольш актыўныя ўдзельнікі свята атрымалі прызы: кніжныя закладкі, кішэнныя каляндарыкі і насценныя календары з сімволікай часопіса "Вясёлка". Прысутныя змаглі паглядзець электронную прэзентацыю гэтага дзіцячага выдання, а таксама пазнаёміцца з выстаўкай кніг і публікацый Анатоля Зэкава. Апроч таго, на абедзвюх сустрэчах прагучалі вершы паэта і песня на яго словы "Разлучаныя лёсы" з рэпертуару ансамбля "Сябры". Таксама была паказана інсцэніроўка казкі "Вавёрка і Крот" у выкананні саміх дзяцей.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-84-61; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04, 284-66-71; дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1500 рублёў
Наклад — 3042
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 19.05.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2349
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12